

# ВІЦЕБСК: ПАПУЛЯРНАЕ МІНУЛАЕ

## 24 артыкулы

ВІЦЕБСК 2014

# Уводзіны

Зборнік артыкулаў «Віцебск: папулярнае мінулае» падрыхтаваны ў межах аднайменнага праекта супольнасці «Таямніцы Віцебска». У гэтай справе ёй дапамагалі сайт Vitebsk4Me і грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!». Краязнаўцы, мастацтвазнаўцы, гісторыкі, аматары мінуўшчыны і яе адданыя даследчыкі на працягу паўгоддзя публікавалі на старонках сайта www.vitebsk4.me тэксты пра наш горад.

У межах серыі адмыслоўцы паспрабавалі звычайнай мовай распавесці пра цікавыя, а часам павучальныя старонкі з гісторыі падзвінскага места і яго бліжэйшых ваколіц.

Першы латвійскі кансулят, горад князя Альгерда, вуліца салдацкіх сыноў, польскія мясціны, віцебская махорка, Успенскі сабор, «адукаваны» праспект — толькі невялікая частка тэматычных тэгаў публікацый, якія чакаюць вас пад вокладкай. Акрамя «літарак» чытачы знойдуць някепскі візуальны шэраг: фотаздымкі, дакументы, малюнкі, паштоўкі. Некаторыя з іх публікаваліся ўпершыню менавіта ў межах серыі «Віцебск: папулярнае мінулае».

Штотыдзень новы артыкул з’яўляўся ў «шапцы» сайта Vitebsk4Me. Усяго ж за паўгады свет пабачылі 24 тэксты, якія і былі звярстаныя ў дадзены зборнік.

Усе мясціны, згаданыя аўтарамі ў тэкстах, «мапаваліся», каб іх можна было ўспрымаць з прывязкай да тэрыторыі. Поўную віртуальную мапу праекта можна прагледзець на стартавай старонцы серыі: www.vitebsk4.me/news/past/start/ Акрамя таго, у межах праекта быў выдадзены зборнік паштовак з ілюстрацыямі Алеся Благія да кожнага з 24 даследаванняў пра мінулае Віцебска.




# Першы кінасеанс у Віцебску

Валерый Шышанаў, намеснік дырэктара Віцебскага абласнога краязнаўчага музея (ВАКМ)

Прынята лічыць, што першы кінасеанс у Віцебску адбыўся 15 (па старым стылі – 3) лютага 1898 г. у памяшканні яхт-клуба. Гэтая інфармацыя не выклікала ніякіх сумненняў, паколькі звычайна пацвярджалася адпаведнай цытатай з «Віцебскіх губернскіх ведамасцей». Дата фігуруе ў мностве публікацый, і 15 лютага трывала ўвайшло ў аналы віцебскай гісторыі як пачатак кінапракату і з'яўленне «вялікага нямога» ў горадзе.

Трэба адзначыць як сумны для гісторыкаў і краязнаўцаў Віцебска факт, што бліжэйшыя больш-менш поўныя падшыўкі вядомай мясцовай газеты «Віцебскія губернскія ведамасці» знаходзяцца ў бібліятэках Пецярбурга і Масквы, што робіць дадзеную крыніцу маладаступнай, і гэта адна з прычын мізэрнасці нашых ведаў пра гісторыю горада.

Але вось выпала магчымасць пагартаць запаветную падшыўку. І якое ж было наша здзіўленне, калі ў нумары за 5 лютага 1898 г. выявіўся артыкул пад назвай «Апошнія сеансы сінематографа».

Змест артыкула настолькі разыходзіцца з прынятым меркаваннем, што варта прывесці яго тэкст цалкам:

«У чацвер, 29 студзеня, у зале яхт-клуба адбыўся сеанс сінематографа, які ў афішы абвешчаны быў апошнім. Гледачоў на гэты раз сабралася вельмі шмат і ўсе яны засталіся задаволеныя выкананнем карцін. Асабліва спадабаліся і былі паўтораны па патрабаванні публікі карціны: “Французская артылерыя на парадзе”, “Купанне неграў”, “Жаночая міжусобіца”, “Купальня”, “Дыяна”, “У Мейландзе”, “Скачка з перашкодамі”, “Іспанскі танец”. 25 студзеня ўвечары апарат сінематографа дэманстраваў у зале духоўнай семінарыі, у прысутнасці яго правялебнасці епіскапа Аляксандра, 27 студзеня — на ваенным сходзе і 28 – у мужчынскай гімназіі, а таксама 30 чысла — у жаночай гімназіі. Загадчыкі гэтых устаноў, як і савет ваеннага сходу, уганаравалі ўладальніка апарата сінематографа сп. Кацiна пісьмовымі адабрэннямі.

По жаданні публікі быў прызначаны яшчэ адзін сеанс сінематографа ў яхт-клубе на 1 лютага, па значна зменшаных коштах, і, акрамя таго, паступіла запрашэнне даць сеансы для выхаванцаў мужчынскага і жаночага духоўных вучылішчаў».

Такім чынам, першы кінасеанс у Віцебску адбыўся 5 лютага 1898 г. па новым стылі і не ў яхт-клубе, будынак якога не захаваўся, а ў духоўнай семінарыі, у будынку якой цяпер месціцца станкаінструментальны каледж. Верагодна, паказ фільмаў у прысутнасці епіскапа быў невыпадковы — патрабавалася заручыцца ухвалой царквы, паколькі, калі меркаваць па назвах, некаторыя з фільмаў па нормах таго часу былі даволі фрывольнымі.




Віцебск. Духоўная семінарыя (злева ад Успенскага сабора), ніжэй і бліжэй да вады — яхт-клуб. Паштоўка пач. XX ст.

Нягледзячы на ўсю шырыню «геаграфіі» сеансаў у Віцебску, аўтар артыкула толькі пра паказ у яхт-клубе заўважыў, што гледачоў сабралася «вельмі шмат». Публіка не спяшалася ўбачыць цікавостку — юны «сінематограф» яшчэ меў патрэбу ў «раскрутцы». Магчыма, адпужваў высокі кошт, а магчыма — чуткі пра менш дасканалыя апараты, што дэманстравалі «фатаграфіі ў руху», — кінетаскоп Томаса Эдысана і тэатрограф Роберта Пола, пра якія казалі, што разглядзець дэманстраваную карціну было цалкам немагчыма. Але сапраўдны «люм'ераўскі» апарат ужо дасягнуў неабходнай якасці.

Каштоўны артыкул і тым, што называе прозвішча першага кінапракатчыка ў Віцебску — спадара Каціна. Раней існавала меркаванне, што сінематограф прывёз у горад раз'яздны агент братоў Люм'ер — Фелікс Месгіш. Але, як бачым, і ў Расіі з'явіліся ўжо ўладальнікі апаратаў вядомых французаў, якія імкнуліся ўсяляк даказаць сваю добрасумленнасць і заручыцца рэкамендацыямі і станоўчымі водгукамі.

С.А. Кацін быў і вельмі мабільным: ужо 4 чэрвеня 1898 г. ён арганізаваў паказ сінематографа ў Томску [1]. Каб паўней адчуць атмасферу першых кінасеансаў, дазволім сабе дапоўніць наш аповед водгукамі з томскай газеты «Сібірскае жыццё». Як адзначалася, гледачоў сабралася няшмат, і збор ад першага сеансу наўрад ці апраўдаў выдаткі. Аўтар артыкула вельмі шкадаваў аб гэтым, паколькі, на яго думку, пракатчык для «найлепшага выканання праграмы» не шкадаваў сродкаў і рабіў усё магчымае:

«...Маса карцін з рускага і замежнага жыцця, якія даюць поўную ілюзію, і іх разнастайнасць, даставілі публіцы вельмі вялікае задавальненне, што дапаўнялася яшчэ аркестрам музыкі, які выконваў падчас дэманстравання адпаведныя зместу карцін п'есы, чым адносна некаторых №№ праграмы ілюзія ўзмацнялася яшчэ больш».




Віцебск. Успенскі сабор, злева — Духоўная семінарыя, ніжэй на беразе — яхт-клуб. Паштоўка пач. XX ст.

На апошні сеанс 12 ліпеня гледачоў сабралася ўжо так шмат, што нават пры зніжэнні коштаў на квіткі (ложы — 4 і 5 руб., «крэслы» — ад 2 руб. 50 к., стул — 60 к., «амфітэатр» — 40, 30, 25 к., «галерэя» — 20 к.) [2] збор склаў больш за 400 рублёў [3].

Адзін з аўтараў, з захапленнем гаворачы пра паказы Каціна, прадказваў кіно вялікую будучыню:

«Сінематограф — апарат, які нібы адухаўляе карціну: прырода жыве, людзі і жывёлы рухаюцца і дзейнічаюць. Наогул у шэрагу найвялікшых вынаходстваў найноўшага часу адно з першых месцаў у вобласці думкі і мастацтва можна, без сумневу, адвесці сінематографу. Узнаўляючы прыроду і жыццё, колькі разам з тым прадстаўляе ён дзівоснага, чароўнага, казачнага! <...> Так, у сінематографа мае быць вялікая будучыня: ніводнае чалавечае адчуванне, ніводная былінка не выслізне ад яго — усё ў прыродзе адновіць ён, захавае і перадасць нашчадкам у тым самым выглядзе, і пры той жа самай абстаноўцы, пры якой у вядомы момант існаваў, жыў і дзейнічаў свет. І слёзы, і гора, і ра-

дасць, і шчасце — усё перадае і пераказвае нам сінематограф. Не пойдзе ад яго і той, хто любіць, і той, хто ненавідзіць людзей. Ён бічуе зло і ўзвялічвае дабро, без слоў самыя затоеныя адчуванні выяўляе перад гледачамі. Але асабліва даводзіцца парадавацца за нашых дзяцей: сінематограф, здаецца, назаўжды цяпер можа застрахаваць іх ад тупога бессэнсоўнага зазубрывання – раней, чым прыступіць да падручніка, яно, дзіця, можа амаль усё ўзважыць і ахапіць сваім розумам, і вочы яго будуць працаваць рука аб руку з думкай, тым больш, што, як усякае новае вынаходніцтва, сінематограф будзе з кожным годам усё больш і больш ўдасканальвацца і, несумненна, суправаджацца больш шырокім і ўсебаковым ужываннем» [4].

Аднак вельмі хутка выявілася, што сінематограф здольны сеяць не толькі добрае і вечнае — касу давалі зусім не пазнавальныя фільмы. А якімі былі запыты публікі, такімі былі і карціны, што дэманстраваліся пракатчыкамі.

[1] На синематографе // Сибирская жизнь. — 1898. — № 117. — 6 июня. — С. 2.

[2] Последний сеанс г. Катина с синематографом Люмьера в пользу местного школьного о-ва // Сибирская жизнь. — 1898. — № 122. — 12 июня. — С. 3.

[3] На синематографе в театре Королева // Сибирская жизнь. — 1898. — № 122. — 12 июня. — С. 3.

[4] Е.Н. Синематограф // Сибирская жизнь. — 1898. — № 121. — 11 июня. — С. 3.



# ВІЦЕБСК: ПАПУЛЯРНАЕ МІНУЛАЕ

## Неспакойныя месцы спачыну

Канстанцін Карпекін, галоўны захавальнік фондаў Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці

У першыя паслярэвалюцыйныя гады ў Віцебску ішлі паўсюдныя пераўтварэнні: прыхільнікі бальшавіцкай улады, акрыленыя атрыманымі магчымасцямі, імкнуліся павярнуць жыццё ў новае рэчышча. Пад гэтыя пераўтварэнні патрапілі не толькі жывыя, але і мёртвыя.

У гэты час у Віцебску, дзе 43,7% насельніцтва складалі яўрэі, меліся 4 яўрэйскія могілкі. У студзені 1919 г. секцыя па яўрэйскіх нацыянальных справах Віцебскага губернскага выканаўчага камітэта ўзняла пытанне пра закрыццё трох з іх. На думку службоўцаў, для ўтрымання ўсіх яўрэйскіх могілак патрабаваліся вялізныя сродкі, якія магчыма было б пусціць на іншыя, “больш карысныя” справы. Да таго ж тут з дарэвалюцыйных часоў дзейнічалі пахавальныя таварыствы, якія нібыта спекулявалі лепшымі месцамі і нажываліся на чужых нягодах.

Мясцовыя ўлады прапаноўвалі пакінуць дзеючымі пару могілак на ўскраіне горада. У 1919 г. за яўрэйскія могілкі ўступіўся загадчык аддзела аховы здароўя Віцебскага губвыканкама. У яго была свая матывацыя: у тым годзе ў Віцебску панавала эпідэмія сыпнога тыфу, таму загадчык згаданага аддзела прыраўноўваў перавозку памерлых па горадзе да наўмыснага распаўсюджвання захворванняў [1].

Усё гэта было своеасаблівай прадмовай да бліжэйшага дзесяцігоддзя, якое выдалася для яўрэйскіх могілак Віцебска неспакойным. Дарэчы, яны існавалі ў кожным з 4-х раёнаў Віцебска*.




Помнікі на Стара-Уланавіцкіх могілках. Фота аўтара, 2013 г.

Могілкі І раёна размяшчаліся на поўнач ад Стара-Уланавіцкай вуліцы і былі адкрыты ў 1909 г. [2] Паводле інвентарнага вопісу, складзенага ў студзені 1921 г., на іх тэрыторыі мелася 4 будынкі рознага прызначэння: 2 каменныя будыніны (памерамі 17х8,5 м і 8,5х6,5 м), адна з якіх выкарыстоўвалася ў якасці абмывальні, драўляная сінагога (8,5х6,5 м) і драўляная павець для захоўвання інвентару (8,5х6,5 м).

Як адзначыла ў лютым 1921 г. спецыяльная камісія па прыёму гарадскіх могілак, гэты яўрэйскі некропаль знаходзіўся на ўдалым месцы (на ўскрайку Віцебска) і займаў вялікую пясчаную пляцоўку, непрыдатную для вырошчвання сельскагаспадарчых культур. Гарадскія ўлады палічылі, што гэтыя яўрэйскія могілкі можна было б пашырыць і хаваць тут усіх памерлых гараджан [3]. Несумненна, такое рашэнне паўплывала на тое, што Стара-Уланавіцкія могілкі не былі закрыты. Дарэчы, гэта адзіны яўрэйскі некропаль, які захаваўся ў Віцебску да сённяшніх дзён.

Могілкі ІІ раёна існавалі на поўдзень ад яра, які знаходзіцца за сённяшнім гандлёвым цэнтрам “Беларусь”. Першыя пахаванні тут ажыццяўляліся прыкладна з сярэдзіны XVIII ст. [2] Могілкі былі абнесены драўляным плотам, а на ўваходзе стаяла цагляная брама.

У адрозненне ад могілак І раёна гэтаму яўрэйскаму некропалю пашанцавала меней. 30 сакавіка 1928 г. Віцебскі гарадскі савет пастанавіў закрыць іх, бо тут больш не засталося месца для пахаванняў [4]. Яўрэі, якія пражывалі ў ІІ раёне Віцебска, несумненна, устрывожыліся і вырашылі адстаяць могілкі. Ужо ў красавіку яны накіравалі ў гарсавет ліст, у якім выклалі сваё бачанне праблемы.

Па-першае, яўрэі скрупулёзна падлічылі, што на могілках дастаткова месца яшчэ для 500 пахаванняў (паводле іх падлікаў гэтага магло хапіць гадоў на 10). Па-другое, было зазначана, што ім — вернікам — з закрыццём могілак будзе вельмі складана выконваць іўдзейскія абрады: “Калі смяротны выпадак бывае ў пятніцу вечарам ці ў яўрэйскія святочныя дні, калі паводле яўрэйскіх рэлігійных законаў нельга вазіць нябожчыкаў, то давядзецца пакідаць дома нябожчыка на 2 і на 3 дні. Гэта крайне шкодна адбіваецца на здароўі жывых людзей, якія застаюцца ў маленькіх хатках”.

Акрамя таго, яўрэі ІІ раёна не прамінулі выпадку папрасіць у мясцовай улады наладзіць належную ахову могілак, бо невядомыя гараджане парасцягвалі на дровы амаль увесь драўляны плот.

Віцебскі гарсавет, каб яшчэ раз даказаць сваю правату, 1 ліпеня 1928 г. адправіў на могілкі адмысловую камісію. Яе сябры налічылі там толькі 75 свабодных месцаў. А выкарыстоўваць іх яны прапанавалі для пахаванняў нябожчыкаў, памерлых ад “заразных хвароб”. У выніку камісія катэгарычна пастанавіла: “Могілкі ІІ раёна лічыць закрытымі” [5], а Віцебскі гарсавет 13 ліпеня 1928 г. пацвердзіў сваё ранейшае рашэнне [6].



Цагляная брама яўрэйскіх могілак II раёна. Фота 1920-х гг. з фондаў ВАКМ

Могілкі III раёна ўзніклі на зары XX ст. непадалёк ад пачатку сённяшняй вуліцы Ленінградскай. Некропаль быў абнесены драўляным плотам на цагляных слупах і меў 2 брамы: каменную і драўляную. Тут жа знаходзіліся драўляныя абмывальня, хатка для вартаўніка і 2 павеці для рознага начыння [3].

Тут таксама не было спакою: у 1923 г. на могілкі напалі ўзброеныя рабаўнікі. У ноч з 12 на 13 кастрычніка вартаўнік некропаля пачуў нейкі грукат. Ён здагадаўся, што злодзеі ламаюць водасцёкавыя трубы, і закрычаў, жадаючы іх прагнаць. Але рабаўнікі не толькі не спалохаліся, але яшчэ стрэлілі па вартаўніку і падпалілі салому ў драўлянай павеці. Калі небарака паспрабаваў затушыць пажар, яго зноў абстралялі. Дзякуючы старанням вартаўніка драўляныя будынкі ўсё ж засталіся цэлымі, а вось трубы прапалі зусім. Не змагла нічым дапамагчы і гарадская міліцыя: злодзеяў не знайшлі і ў красавіку 1924 г. справу спынілі [7].

Праз колькі гадоў гарадскія ўлады ўвогуле вырашылі закрыць і гэтыя яўрэйскія могілкі. Справа ў тым, што ў пачатку мая 1927 г. Віцебскі гарсавет пастанавіў пабудаваць па суседству з імі ваенныя склады і баракі. З гэтай прычыны на могілках забаранілі рабіць новыя пахаванні [8].

Могілкі IV раёна мясціліся на поўдзень ад месца перасячэння сучасных вуліц Герцэна і акадэміка Паўлава і ўзніклі недзе ў першай палове XIX ст.

[2] Вакол некропаля быў узведзены драўляны плот, умацаваны чыгункавымі рэйкамі, патрапіць сюды можна было праз металічную браму [3]. Апошнія пахаванні тут былі зроблены таксама ў 1920-я гг., а ў сярэдзіне 1930-х гг. могілкі ўвогуле зруйнавалі, каб пабудаваць на іх месцы фанерную фабрыку [2].

* I раён ахопліваў тэрыторыю, абмежаваную р. Заходняй Дзвіной на захадзе і р. Віцьбай на поўдні, II раён — паміж р. Заходняй Дзвіной на захадзе і р. Віцьбай на поўначы, III раён займаў паўночна-заходнюю частку горада, IV — паўднёва-заходнюю.

[1] Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (ДАВВ), ф. 64, воп. 1, спр. 41, арк. 53–53 адв.
[2] Подлипский, А. Наш вечный дом (Из истории еврейских кладбищ в Витебске) / А. Подлипский, М. Рывкин. — Витебск: УПП «Витебская областная типография», 2003. — 80 с. — С. 4, 6, 8.
[3] Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (ДАВВ), ф. 1001, воп. 1, спр. 241, арк. 10–11, 68, 81.
[4] ДАВВ, ф. 322, воп. 1, спр. 165, арк. 127.
[5] ДАВВ, ф. 322, воп. 1, спр. 202, арк. 92–93 адв.
[6] ДАВВ, ф. 322, воп. 1, спр. 79, арк. 684.
[7] ДАВВ, ф. 1164, воп. 1, спр. 100, арк. 4–4 адв., 8.
[8] ДАВВ, ф. 322, воп. 1, спр. 87, арк. 23.




# Успенскі сабор маглі і не знесці

Аркадзь Падліпскі, журналіст,
віцебскі гісторык-краязнаўца

Некалькі гадоў таму было скончана аднаўленне, дакладней фактычная пабудова зноўку, аднаго з самых прыкметных праваслаўных храмаў Віцебска – Успенскага сабора. Гэты выдатны помнік архітэктуры XVIII ст. быў узарваны ў 1930-я гады групай сапёраў пад камандаваннем Пятра Грыгарэнкі, у будучым генерала і вядомага праваабаронцы.

У сваіх успамінах, напісаных незадоўга да смерці, ён распавёў пра тое, як рыхтаваўся і як быў ажыццёўлены гэты выбух. «…Нашаму батальёну прыйшло распараджэнне начальніка інжынераў Беларускай ваеннай акругі. Прыводжу яго па памяці: “Камандуючы войскамі даручае выкананне гэтай працы сапёрнаму батальёну 4-га стралковага корпуса і ўскладае адказнасць за выніковасць і бяспеку выбуху асабіста на камандзіра батальёна тав. Смірнова П.І. Аплату выбуховых работ правядзе Віцебскі гарсавет па каштарысе батальёна, пра што з Віцебскім гарсаветам падпішаце дамову. Кантроль за выкананнем гэтага распараджэння ўскладаю на корпуснага інжынера тав. Стрыбука”.

Павел Іванавіч запрасіў мяне. Даў пачытаць распараджэнне. Затым сказаў: “Ну вось, фартыфікатар, гэта ўжо чыста твая праца. Я ж у акадэміі на падрыўныя работы толькі здалёк глядзеў. Мы ж, камандны факультэт, тэхніку падрыўных работ не вывучалі. А вы колькі выбухоўкі патрацілі! Так што давядзецца табе брацца і адказваць. Людзей у дапамогу выбірай якіх заўгодна”.

Затым ён пасядзеў, задумаўшыся, і дадаў: “Дом гэты (гаворка ідзе, відаць, пра сучасны будынак станкаінструментальнага каледжа. — А. П.) мяне больш за ўсё турбуе. Пішуць, каб пацярпеў як найменей. А па-мойму, так ён паляціць разам з царквой. Бо ўсяго 12 метраў паміж домам і царквою”.




Успенскі сабор быў улюбёным героем для паштовак
з Віцебска на мяжы XIX–XX ст.

<…> Я не памятаю, колькі я “заламаў” за выбух, але толькі ведаю, што гэта было фантастычна дарага, з майго пункту гледжання. Аднак старшыня Савета, мне адразу гэта стала ясна, узрадаваўся таннасці, і я пашкадаваў, што запрасіў мала. Далей стала пытанне, як падрываць у такіх абмежаваных умовах.

Амаль перад самым заканчэннем акадэміі, ужо калі лекцыйных заняткаў не было і ішло дыпломнае праектаванне, кафедра падрыўных работ прачытала лекцыю “Узрыў будынка метадам пустотных забівак”. З усёй лекцыі я запомніў толькі формулу разліку глыбіні і гушчыні шпуроў, у якія ўкладваюцца падрыўныя шашкі і “пустоты” (макеты падрыўных шашак — з дрэва). Укладваюцца так: шашка, “пустота” (адна ці дзве па разліку), зноў шашка ці дзве. Лектар сцвярджаў, што калі правільна размясціць шпуры і дакладна зрабіць забіўку, то будынак не ўзлятае, а асядае і рассыпаецца.

Варта было б праверыць на чым-небудзь. Але часу не было, і я пайшоў проста ў царкву, каб прыкінуць на месцы, як гэта можа атрымацца. Неўзабаве пасля нашага выбуху іншы батальён падарваў царкву ў Бабруйску. Выбух быў зроблены сканцэнтраваным зарадам, і разбурыла адначасова з царквой больш за дзясятак дамоў. Пры гэтым былі чалавечыя ахвяры…».



Успенская гара з былымі базыльянскімі мурамі і месцам, дзе калісьці стаяў Успенскі сабор. Фота Канстанціна Дурыхіна, 1950-я гг.

Успенскі сабор, як вядома, паспяхова ўзарвалі. Але вось што цікава: аказваецца, яго маглі выратаваць ад знішчэння. І ў нашыя дні не давялося б марнаваць велізарныя сродкі на яго новае будаўніцтва…

Пасля прымусовага закрыцця гэтага храма ў сярэдзіне 1920-х гадоў Успенскі сабор фактычна застаўся без гаспадара. Мясцовыя энтузіясты спрабавалі знайсці яму нейкае прымяненне. Да гэтага таксама схілялася, разумеючы гістарычную і архітэктурную каштоўнасць будынка, кіраўніцтва горада і акругі. Так, 7 ліпеня 1926 г. на пасяджэнні прэзідыума акруговага выканаўчага камітэта слухалі пытанне «Вынікі камісіі па пошуках памяшкання для архіўнага бюро». У пастанове па ім сказана:

«1.Канстатаваць, што як б<ылы> Успенскі сабор, так і будынак, што цяпер займае акруговы аддзел архіваў, маюць гісторыка-архітэктурную каштоўнасць, якія знаходзяцца ў спісе помнікаў даўніны і маюць не толькі практычнае, але і гістарычнае значэнне, лічыць неабходным правесці рамонт у абодвух

гэтых будынках, перадаўшы б<ылы> Успенскі сабор у распараджэнне архіва і ўключыўшы кошт рамонту ў мясцовы бюджэт 1926–1927 гг., і памяшканне, якое займае цяпер архіў (былы касцёл. — *А. П.*), уключыць у бюджэт 1927–1928 гг. і адначасова з гэтым прасіць Савет Народных камісараў Беларусі аб выдаткаванні датацыі на гэтую мэту.

2. Даручыць камунаддзелу ў тэрміновым парадку скласці каштарысы на рамонт б<ылога> Успенскага сабора і памяшкання, якое займае архіў, уключаючы ўсе выдаткі па складанні каштарысу ў агульны каштарыс рамонту».



Успенская (Лысая) гара, у верхнім левым куце фотаздымка забудоўваецца пляцоўка, дзе калісьці стаяў Успенскі сабор. Фота Канстанціна Дурыхіна, 1950-я гг.

Здавалася б — разумнае рашэнне. Вось толькі яно так і не было выканана. Цяпер цяжка сказаць з якой прычыны. Хутчэй за ўсё з-за адсутнасці сродкаў. І наўрад ці гэта прапанова атрымала падтрымку ў Мінску. Так і застаўся будынак безгаспадарным. А да пытання яго выкарыстання ў Віцебску вярнуліся праз тры гады.

У студзені 1929 г. ў віцебскай газеце «Зара Захаду» з’явілася нататка нейкага Рыцікава пад назвай «Руйнуецца будынак». «На Успенскай горцы ўзвышаецца змрочны будынак пустуючай царквы, вакол якой цыркулююць розныя легенды пра падземныя хады, скарбы і г. д., — гаворыцца ў ёй. — Замкнёнае і закалочанае, яно ўсё ж служыць месцам наведвання хуліганаў і “скарбашукальнікаў”. Усе сцены і калоны носяць сляды энергічных пошукаў скарбу. Вада, трапляючы праз трухлявы дах, утварыла ў сценах расколіну, што стварае пагрозу для бліжэйшых будынкаў шчацiннай фабрыкі і электрамеханічнага тэхнікума. Гледзячы на гэтыя руіны, узнікае пытанне: для чаго захоўваецца будынак? Калі ён уяўляе пэўную гістарычную каштоўнасць, то трэба прыпыніць яго хуткае разбурэнне, прыстасаваўшы яго пад якую-небудзь культурную ўстанову (залу фізкультуры, клуб). Калі ён ні для чаго не прыгодны, то трэба разабраць на цэглу, у якой цяпер вострая патрэба».

У тым, што Успенскі сабор, пабудаваны ў XVIII ст. па праекце італьянскага дойліда Фантані (Фантана), уяўляў велізарную каштоўнасць як помнік архітэктуры, у спецыялістаў сумнення не было. І, мяркуючы па ўскосных сведчаннях, некаторыя з іх (напрыклад, вядомы знаўца мясцовай даўніны М. Багародскі) спрабавалі пераканаць улады прыстасаваць храм пад якую-небудзь установу.



Успенскі сабор у 1912 г. Фрагмент фотаздымка
Сяргея Пракудзіна-Горскага

Здавалася, так яно і будзе. 18 красавіка таго ж года ў газеце «Віцебскі пралетарый» публікуецца ананімная нататка «Былы сабор будзе рамантавацца?»: «З прычыны таго, што памяшканне Віцебскага гістарычнага архіва знаходзіцца ў вельмі кепскім стане і пагражае абвалам, перад прэзідыумам АВК (акруговага выканаўчага камітэта. — *А. П.*) было паднята пытанне аб прадастаўленні архіву адпаведнага памяшкання. Прэзідыум АВК распачаў перад СНК (Саветам народных камісараў — *А. П.*) БССР хадайніцтва аб выдаткаванні сродкаў на рамонт б<ылога> Успенскага сабора, які пасля рамонту па заключэнні інжынернай камісіі будзе адпавядаць патрэбам архіва».

Здавалася б, пытанне вырашана па тых часах прымальна. Але, на жаль, поруч з сапраўднымі знаўцамі і прыхільнікамі даўніны заўсёды знаходзіліся (яны ёсць і цяпер!) кан'юнктуршчыкі, якія тонка адчуваюць, «куды дзьме вецер». А ў тыя гады «вецер дзьмуў» на барацьбу з рэлігіяй. І іх пункт гледжання пераважаў…

Цікава адзначыць, што адначасова з вырашэннем лёсу Успенскага сабора ў Віцебску ішлі размовы і пра іншыя культавыя будынкі. Так, напрыклад, 14 сакавіка 1929 г. у газеце «Зара Захаду» была апублікавана нататка П. Інсарава «Царква пад клуб». «Мікалаеўская царква на Шасэйнай вуліцы да рэвалюцыі належала ваеннаму ведамству, — паведамлялася ў ёй. — У 1917 г. яе перадалі чыгуначнікам. Нядаўна па хадайніцтве сапёрнага батальёна агульны сход рабочых і служачых жалезнай дарогі аднадушна пастанавіў перадаць гэтую царкву пад клуб сапёраў».



Мікалаеўская (батальённая) царква, якая знаходзілася на скрыжаванні цяперашніх вуліц Савецкай Арміі і Камсамольскай. Сучасны фотаздымак і параўнанне Віктара Барысенкава

25 сакавіка гэтага ж года газета паведаміла пра тое, што «на шэрагу справаздачных і выбарных сходаў было выказана пажаданне рабочых аб закрыцці цэркваў і сінагог і перадачы іх памяшканняў рабочым арганізацыям. Звыш 20000 чалавек запатрабавалі закрыцця сабора, Заручайскай харальнай сінагогі і шэрагу цэркваў у мэтах выкарыстання іх пад клубы рабочых і для іншых культурных патрэб. Прэзідыум гарсавета ў мэтах выканання волі працоўных пастанавіў спыніць з 1 красавіка падачу святла і вады 19 цэрквам, сінагогам і да т. п. установам».

Амаль усе гэтыя культавыя будынкі, сярод якіх былі і цікавыя помнікі архітэктуры, чакала, на жаль, доля Успенскага сабора. Калі іх не знеслі да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, то зрабілі гэта ўжо пасля яе: неразумны знос помнікаў архітэктуры ў Віцебску працягваўся аж да канца XX ст.




# Вялікія, Малыя і проста Лётцы

Мікалай Півавар, канд. гіст. навук,
настаўнік у Віцебскім кадэцкім вучылішчы

Лётцы ведаюць амаль усе жыхары нашага горада. Верагодна, кожны хаця б раз быў ці чуў пра санаторый, лагер, возера. Шмат хто адпачываў, лячыўся, прыязджаў на возера і ў лес. Хутчэй за ўсё праграма візіту тым і абмяжоўвалася. Аднак за простымі рэчамі хаваецца значна большае.

Напрыклад, у Лётцах знаходзяцца дзве з трох захаваных да нашага часу сядзіб у бліжэйшых ваколіцах Віцебска. Тут маецца курганны могільнік X–XII стст. і комплекс з рэканструкцыямі пахавальнага абраду крывічоў, створаны краязнаўцамі. На Лысай гары традыцыйна праводзяцца турзлёты і з’езды байкераў, а ў пойме ракі Шэвінка размясціўся батанічны заказнік “Прыдзвінне”. Нарэшце, у той жа пойме ёсць лес, дзе людзі губляюцца ў часе, але гэта лепей не спраўджваць.

У гэтым артыкуле вы даведаецеся, як прабавіць свой час у Лётцах і ваколіцах, прычым зрабіць гэта з карысцю. Выязджаць на калявіцебскі курорт лепей па цёплым часе, але набрацца ведаў менавіта зараз будзе нялішнім.



Каменны крыж на могілках в. Шэвіна (каля комплекса рэканструкцый пахавальных абрадаў крывічоў). Фота аўтара

## ШТО ТАКОЕ ЛЁТЦЫ І ЧАГО ВАРТА ПАПРАСІЦЬ У “ЦУДА-ДРЭВА”?

Ёсць некалькі Лётцаў — Вялікія, Малыя і проста — Лётцы. Назва хутчэй за ўсё паходзіць ад аднайменнага “лётцы” — лёгкі шалаш ці навес, з жордак і галін, які робяць сабе ў летні час касцы, вартаўнікі, паляўнічыя. Прыехаць у Лётцы прасцей і танней за ўсё на прыгарадным цягніку. Станцыя ўражвае. Яе адмыслова адбудавалі для расійскіх турыстаў, якія прамым цягнікам “Масква–Полацк” прыбываюць на танны па ўсходніх мерках, але якасны адпачынак у мясцовы санаторый.

Адразу каля чыгункі знаходзіцца аздараўленчы лагер “Магістраль”, які славіцца сваім парадкам. Дужа раю, дайшоўшы да лагера, прайсці па дарозе, якая вядзе ў Лукі, і збочыць направа. У пары дзясяткаў метраў знаходзіцца “Цуда-дрэва”, якое вельмі папулярна сярод дзяцей. Яно ўяўляе сабой вялізную елку, якая мае некалькі макушак і перакручаныя галіны, што робіць яе выгляд вельмі незвычайным і загадкавым. Кажуць, што гэтае дрэва выконвае жаданні, праўда невялікія. Калі Вы не пажадаеце сабе атрымаць кватэру, то мясцовы варыянт залатой рыбкі можа спрацаваць.

## КУРОРТ БЕЗ МОРА, АЛЕ З МІНЕРАЛЬНАЙ ВАДОЙ

Прыгажосць хваёвага бору ў спалучэнні з азёрамі даўно прываблівалі ў Лётцы людзей. А калі аказалася, што тут знайшлі радовішчы мінеральнай вады, то ідэя стварэння курортнай зоны была ўхваленая на вышэйшым узроўні. У 1936 г. быў заснаваны курорт “Лётцы”. У 1949 г. на беразе воз. Шэвіна адкрылі аднайменны санаторый.

Радовішчы мінеральных вод у Віцебскім раёне залягаюць на глыбінях ад 2,58 да 803 метраў. Яны прадстаўленыя хларыднымі, сульфатнымі, хларыдна-сульфатнымі і сульфатна-хларыднымі водамі. Гэтыя воды эфектыўныя пры лячэнні захворванняў страўніка, пячонкі, жоўцевыводных шляхоў, панкрэатыту, хвароб абмену рэчываў.

Санаторый “Лётцы” славіцца сваім якасным абслугоўваннем. Належыць прафсаюзам, але трапіць у яго шэраговаму сябру прафсаюзаў задарма ці нават па частковай аплаце досыць складана. План платных паслуг прасцей выканаць за кошт расійскіх турыстаў, якія выкупаюць пуцёўкі за поўны кошт, бывае, і за паўгады да заезду.

Але прыехаць і адпачыць на добраўпарадкаваным пляжы на беразе Шэвінскага возера можна і не набываючы пуцёўку. Тут завезены пясочак, дагледжанае дно, пракат катамаранаў — добрае месца для сямейнага адпа-



Дубы над Шэвінкай у батанічным заказніку
“Прыдзвінне”. Фота аўтара

чынку з малымі дзеткамі. Як хочацца атракцыёнаў (водных лыжаў, палётаў на парашуце над вадой), то едзьце на Доўжу. Возера невялікае, у залівах актыўна зарастае воднай расліннасцю, і цалкам верагодна, што праз пару соцень гадоў на ягоным месцы будзе балота.

Паваляўшыся на пясочку, не лянуйцеся — схадзіце на другі бераг Шэвінкі. На ім знаходзіцца так званая “Лысая” гара, якая калісьці была старажытным гарадзішчам. Цяпер гэта ўлюбёнае месца правядзення турыстычных злётаў рознага ўзроўню — ад абласных афіцыйных да прыватных карпаратываў. Раз на год тут ладзяць сваё свята байкеры.

Непадалёк ад возера, на пясчаных пагорках у лесе знаходзяцца крывіцкія курганы, дзе ляжаць нашы далёкія продкі з X–XI стст., а каля самой дарогі месцяцца мясцовыя могілкі. Адразу каля дарогі краязнаўцы ў саюзе з мясцовай уладай стварылі цікавы турыстычны аб’ект: рэканструкцыю пахавальных абрадаў розных часоў. Тут прадстаўлены курганы-жальнікі, магілы з насыпамі, каменныя крыжы і іншыя прыклады пахаванняў. Ніколі не зашкодзіць нагадаць сабе, што шматлікія турботы, якія часам не даюць спакою любому з нас, скончацца калі-небудзь пад жоўценькім пясочкам.



Былы сядзібны дом Астрэйкаў у в. Лукі (канец XIX ст.). Фота аўтара

# ЛУКІ

Пахадзіўшы каля возера, абавязкова трэба схадзіць у в. Лукі. Да яе кіламетры чатыры, дарога вядзе міма Лысай гары, возера, аздараўленчых лагераў "Прамень", "Энергетык", па хваёвым бары, у якім у залежнасці ад сезону багата суніц, чарніц, грыбоў і проста чыстага паветра. Менавіта апошняе стала прычынай стварэння ў Луках у 1947 г. дзіцячага санаторыя "Лётцы". Тут праходзілі лячэнне і прафілактыку дзеці з хваробамі лёгкіх. Пад санаторый была выкарыстана былая сядзіба А.А. Астрэйкі, пабудаваная ў канцы XIX ст. ў стылі мадэрн з выкарыстаннем тэхнікі фахверка (як у паўночнай Германіі). Цяпер санаторый зачынены, а будынак былой сядзібы разам з новым корпусам прадалі ў прыватныя рукі. Але паглядзець іх можна, як і цікавыя, зробленыя з бутавага каменю гаспадарчыя пабудовы, што месцяцца непадалёк.

На пачатку XX ст. ў Еўропе былі дужа папулярны народныя промыслы. Узнік нават напрамак у мастацтве, які называўся "Мастацтва і Рамёствы" ("Arts and Crafts"). У маёнтку Астрэйкаў была створана прыватная ткацкая школа, у якой дзяўчаты навучаліся з выкарыстаннем традыцыйных тэхналогій. Школа існавала і пасля рэвалюцыі, а ўзоры іх мастацтва можна пабачыць у музеі Старасельскай школы.

Пагуляўшы па сядзібе, абавязкова трэба прайсці да Дзвіны. Тут яна вельмі шырокая і самая глыбокая ў межах нашай краіны. Акурат насупраць вусця р. Шэвінка яна 14 метраў. Праўда, яна мае штучнае паходжанне. Землеснарадам тут паглыблялі русла і бралі пясок для будаўніцтва. Цяпер тут шыкоўная рыбалка, асабліва на сама.

Вусце Шэвінкі пашырана, паглыблена і выкарыстоўвалася для зімоўкі караблёў Дзвінскай флатыліі. На жаль, палюбавацца на кацеры і баржы ўжо не атрымаецца, бо іх перавялі ў Віцебскі рачны порт, і цяпер затон пустуе.



Лукі. Самае глыбокае месца на рацэ Дзвіна.
Злева — затон і вусце ракі Шэвінка. Фота аўтара

## ЗАКАЗНІК, У ЯКІМ НЕ ВАРТА ЗГУБІЦЦА

А вось вяртацца да станцыі я вам раю па лясной дарозе, якая ідзе ўздоўж Шэвінкі. Цяпер яе амаль не выкарыстоўваюць, яна паціху зарастае і часам становіцца сцяжынай. Але прагулка па прыпойменных лугах, на якіх стаяць векавыя дубы, варта таго. Дуброва была пасаджана яшчэ ў пазамінулым стагоддзі мясцовым памешчыкам, а ў 1985 г. яна была ўзятая пад ахову як батанічны заказнік “Прыдзвінне”. Акрамя дубоў, якія нячаста сустракаюцца на Віцебшчыне, тут можна пабачыць шмат рэдкіх раслін, занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі, у тым ліку ятрышнік шлеманосны і мужчынскі, пярэсну еўрапейскую, познацвет асенні, асаку павіслую, шалфей лугавы. Наўрад ці вы без асабістага батаніка вызначыце тыя расліны, але там проста шмат прыгожых кветак і вельмі маляўнічых краявідаў.

Сярод мясцовых жыхароў шмат размоў пра тое, што месца тут вельмі незвычайнае і чароўнае. Так, людзі, якія ходзяць у грыбы ці ягады, не адчуваюць часу. Распавядаюць, напрыклад, пра жанчыну, якая адбыла ў лесе дзень, а калі вярнулася дадому, аказалася, што яе не было некалькі дзён. Ці губляюцца тут людзі ў часе, ці не — вырашаць і спраўджваць вам.



Рака Шэвінка. Тут людзі губляюцца ў часе :) Фота аўтара

## ВЯЛІКІЯ ЛЁТЦЫ

Прагулка па курорце і вандроўка ў Лукі хутчэй за ўсё зойме ў вас шмат часу. Таму падарожжа ў Вялікія Лётцы перанясіце на наступны раз. Але не адкладвайце свой візіт надоўга, бо ў гэтай вёсцы цікавостак не менш.

Ад станцыі Лётцы да вёскі можна прасці па асфальтавай дарозе ў напрамку Віцебска кіламетры з два. Адразу па левую руку ўбачым возера Лётцы. Часта па ім плаваюць лебедзі, якія тут, бывае, зімуюць. Перайшоўшы па мосце рэчку, зноў злева ўбачым два вялізныя курганы. Нават, лепей сказаць, сопкі, бо вышыня іх больш за 4 метры. Упершыню пра самы вялікі, які мае назву Лавачнік, напісаў М. Семянтоўскі ў 1867 г. у сваёй кнізе "Помнікі даўніны Віцебскай губерні". Да нашых часоў курган дайшоў, хаця і пашкоджаны шукальнікамі скарбаў.

Пастаяўшы на сівым кургане, ідзем далей і збочваем налева ў вёску. Дарога тут таксама захавалася старадаўняя, выкладзеная брукам. Прайсціся па такой можна хіба толькі ў цэнтры старога гораду ў Заходняй Еўропе. Раней у Беларусі брукаванак было шмат, але цяпер яны ці разабраныя на камяні, ці закатаныя пад асфальт. А шкада. Брукаваная дарога з'яўляецца цікавым помнікам тэхнічнага будаўніцтва.

У цэнтры вёскі знаходзіцца сядзіба выдатнага геабатаніка, фларыста, дэндролага Уладзіміра Адамава (1875–1939). Яна мае два паверхі: першы — каменны, другі — драўляны. Да нядаўняга часу тут жылі людзі, але ўжо колькі гадоў яна пустая і паціху пачынае прыходзіць у заняпад. На сцяне будыніны прымацавана мемарыяльная шыльда ў гонар выдатнага навукоўца.



Курган у Вялікіх Лётцах (раскапаны). Фота аўтара

# СЯДЗІБА ГЕАБАТАНІКА

Вядомасць У. Адамава была еўрапейская. Асноўным прадметам яго вывучэння была флора Крыма і беларускага Палесся. Аднак, пасяліўшыся ў Лётцах, ён, натуральна, вывучаў і мясцовы раслінны свет. У 1890 г. У. Адамаў заснаваў батанічны і даследча-акліматызацыйны сад. Пры ім былі пабудаваны цяпліца, парнікі, пітомнік, у якіх вырошчвалі лекавыя расліны і праводзілі іх вывучэнне.

Дзякуючы актыўнай дзейнасці У. Адамава, а таксама сувязям, якія даследчык меў з батанічнымі садамі еўрапейскіх сталіц, Расіі і Азіі, у садзе былі сабраны расліны з розных месцаў паўночнага паўшар'я і акліматызаваныя прадстаўнікі азіяцкай, заходнееўрапейскай і іншых флор. Асаблівую цікавасць

у садзе выклікалі калекцыі дрэвавых і травяністых раслін-альбіносаў і раслін сямейства араліевых (аралія маньчжурская, акантапанакс сядзячакветны).

Сам У. Адамаў вельмі ганарыўся калекцыяй розных сартоў бэзу, які цвіў у садзе на працягу некалькіх месяцаў. Усяго на 1924 г. у садзе расло каля 400 відаў дрэў і кустоўяў, больш за 2 тысячы тэхнічных, лекавых, ягадных раслін. У цяпліцах гадавалася каля 300 відаў экзатычных раслін. Мелася добрая бібліятэка, батанічны музей, сабраны гербарый. У наваколлях воз. Лётцы батанік адшукаў і на працягу 20 год праводзіў назіранні за невядомым раней відам расліны (Alisma submersum).



Сядзібны дом маёнтка Уладзіміра Адамава ў Вялікіх Лётцах. Фота аўтара

З Лётцаў У. Адамаў з’ехаў спачатку ў Мінск, а потым у Крым, дзе і памёр. Сад паступова заняпаў. Значная частка калекцыі, ад 200 да 300 відаў раслін, у сярэдзіне 1920-х гг. была перанесена ў Віцебск, у мясцовы батанічны сад. Але і цяпер у Вялікіх Лётцах можна ўбачыць рэшткі былой раскошы, напрыклад, бэз венгерскі, ліпу шыракалістую, бузіну чорную, маліну водарную і іншыя. Усяго каля паўсотні відаў дрэў і кустоўяў. А яшчэ сфатаграфавацца каля дуба-волата ў амаль чатыры чалавечыя абхваты.




# Пра славутую віцебскую махорку

Юлія Пухавіцкая, навуковы супрацоўнік
Лепельскага раённага краязнаўчага музея

Чым слаўны Віцебск? На гэтае пытанне кожны адкажа па-свойму. Адзін скажа, што тут жыў і ствараў свае работы Марк Шагал, іншы назаве фестываль мастацтваў «Славянскі Базар», трэці ўзгадае непаўторны «лятаючы» рэльеф горада. Але калі б гэтае пытанне задалі простаму салдату часоў Вялікай Айчыннай, ён з вялікай доляй верагоднасці адказаў бы — вядома, махоркай! Так лічыў і народны паэт БССР Аркадзь Куляшоў, які прысвяціў віцебскай махорцы аднайменны верш. Пра махорачную фабрыку, прадукцыя якой славілася далёка за межамі нашага горада, пойдзе гаворка ў гэтым артыкуле.

## “ВАКОЛ ЦЭРКВЫ, АГАРОДЖЫ, КРАМЫ, СІНАГОГІ…” (МАРК ШАГАЛ)

Безумоўна, галоўная славутасць не толькі Пакроўскай вуліцы, але і ўсяго Задзвінскага квартала — гэта дом-музей Марка Шагала. Менавіта гэты невялікі цагляны будынак з’яўляецца месцам паломніцтва сотняў тысяч самых розных людзей з усяго свету.

Але варта трохі звярнуць з пракладзенага турыстычнага шляху і можна ўбачыць не менш цікавыя месцы — будынак піваварнага завода, што захаваўся з дарэвалюцыйных часоў, руіны сінагогі, закінуты будынак клуба металістаў — як фантомы з іншага часу.



Карданажна-паліграфічны камбінат (былая тытунёва-махорачная фабрыка). Вуліца Пакроўская. Фота Юрыя Шэпелева

А ў нашым выпадку і збочваць нікуды не трэба: менш за 100 метраў ад помніка славутаму мастаку — і перад намі будынак тытунёва-махорачнай фабрыкі. Зрэшты, гэта таксама фантом, бо ўжо амаль 40 гадоў тут працуе карданажна-паліграфічны камбінат. Да таго ж у гады Вялікай Айчыннай вайны будынак быў амаль цалкам разбураны, пазней — атынкаваны і пазбаўлены свайго чырвонацаглянага каларыту. А калісьці тут лунаў характэрны духмяны, моцны водар, добра знаёмы рабочым і сялянам, салдатам і нават хатнім гаспадыням, — водар махоркі.

## "ЗАНЯТКІ ЯЎРЭЯЎ НОСЯЦЬ ХАРАКТАР КАМЕРЦЫЙНЫ" (ЕЎДАКІМ РАМАНАЎ)

У гэтым годзе фабрыка магла б адзначаць 130-годдзе. У 1883 г. адзін з многіх прадпрымальных віцебскіх яўрэяў, купец 1-й гільдыі Арон Калбаноўскі вырашыў, што вырабляць больш выгадна, чым перапрадаваць, і пачаў вытворчасць махоркі і тытуню. І не пралічыўся — сродкі, укладзеныя ў будаўніцтва будынка і няхітрае абсталяванне, неўзабаве акупіліся. Хоць у горадзе гэта было не адзінае падобнае прадпрыемства, менавіта фабрыка Калбаноўскага была найбуйнейшай па колькасці работнікаў і аб'ёму вытворчасці.

Да рэвалюцыі тут працавала ад 20 да 165 рабочых, гадавая выручка складала ў лепшыя гады да 300 тысяч рублёў. На тэрыторыі Беларусі яна саступала толькі знакамітай тытунёвай фабрыцы Шарашэўскага ў Гародні, прадукцыя якой неаднаразова адзначалася медалямі на міжнародных выставах. Дарэчы, гэтая фабрыка існуе і па сённяшні дзень пад назвай «Нёман».



Будынак былой фабрыкі. Сучасны фотаздымак
і параўнанне Віктара Барысенкава

Да сусветных тытунёвых гігантаў таго часу віцебскай фабрыцы было далёка, але прадукцыя карысталася немалым попытам. У гаспадароў фабрыкі меліся ўласныя плантацыі ва Украіне, выпускаўся курыльны, нюхальны тытунь і махорка.

Калбаноўскі і яго спадкаемцы год за годам падлічвалі барышы, а вось умовы працы рабочых былі вельмі цяжкімі. Працэс вытворчасці быў шкодным, але аб ахове працы і гаворкі не было. Па ўспамінах старажылаў фабрыкі, «працоўныя не бачылі адзін аднаго на адлегласці трох крокаў з-за махорачнага пылу і гарачага нікаціну», «горы махорачнага пылу ў цэхах не прыбіраліся гадамі».



Будынак фабрыкі ў 1940-х гг.

Працоўны дзень складаў 12 гадзін, а дзённая плата толькі 20–30 капеек. Ды і гэтых грошай можна было не атрымаць: на фабрыцы панавала сістэма жорсткіх штрафаў. Аштрафаваць маглі не толькі за спазненне на работу або парушэнне тэхналогіі, але і за шум, размовы і спевы падчас працы. Амаль увесь працэс вытворчасці быў ручным, уся механізацыя складалася з коннага прывада для рэзкі, крышыльных станкоў і агнявога барабана для сушкі і крошкі сыравіны.

## “ВОСЬ ТАК ТРЭБА ПРАЦАВАЦЬ!” (АНАСТАС МІКАЯН)

У 1919 г. Віцебская махорачная фабрыка была нацыяналізавана і замест гаспадара ў яе з’явіўся дырэктар. У 1932 г. ім стаў Гаўрыіл Саламонавіч Школьнік.

Цікава, што нарадзіўся ён у адзін год з Маркам Шагалам — 1887, і жыццё абодвух было цесна звязана з Пакроўскай вуліцай. Вось толькі ў той час, як 13-гадовы Марк грыз граніт навукі ў чатырохкласным вучылішчы і зазіраўся на мінаючых гімназістак, яго аднагодка Гаўрыіл удыхаў «дым Айчыны», працуючы на махорачнай фабрыцы.

Прайшоўшы некалькі прыступак кар'ернага росту (крышыльшчык, друкар, набойшчык, інструктар набойна-бандэрольнага цэха, намеснік дырэктара), ён заняў кіруючы пост і знаходзіўся на ім 26 гадоў. Характэрна, што дырэктар махорачнай фабрыкі сам не паліў.

Пад кіраўніцтвам Г. Школьніка фабрыка паднялася на нечуваную для махорачнай прамысловасці вышыню. З 1932 па 1940 гг. прадпрыемства атрымлівала пераходзячы Чырвоны Сцяг як лідар махорачнай прамысловасці Саюза. У 1940 г. фабрыка за два тыдні выпрацоўвала столькі ж махоркі, колькі да рэвалюцыі выпрацоўвалася за год. Наркам харчовай прамысловасці Анастас Мікаян ставіў працу віцебскай махорачнай фабрыкі ў прыклад астатнім. Дырэктар за высокія вытворчыя паказчыкі быў прэміраваны персанальным легкавым аўтамабілем і ўзнагароджаны ордэнам «Знак пашаны».



Гаўрыіл Школьнік. Фотаздымак з асабістага архіва аўтара

Палепшыліся і ўмовы працы рабочых: быў уведзены 8-гадзінны працоўны дзень, работнікам выдаваліся спецвопратка, ахоўныя прыстасаванні, малако і тлушчы за шкоднасць. Працэс вытворчасці быў цалкам механізаваны — ад крошкі сыравіны да падачы прадукцыі ў цэх.

Старажылы горада без цяжкасці ўзгадаюць, як выглядала прадукцыя прадпрыемства. Віцебская махорка была расфасаваная ў папяровыя пакецікі па 7 капеек за пачак. Магчымасць правесці магічны рытуал скручвання самакруткі прадастаўлялася спажыўцу. Зрэшты, махорку бралі не толькі для курэння — хатнія гаспадыні карысталіся ёю для знішчэння молі.

## «БОЙЦУ МАХОРКА ДОРОГА, КУРИ — И ВЫКУРИ ВРАГА!» (САМУІЛ МАРШАК)

За гады кіраўніцтва фабрыкай Школьніку даводзілася вырашаць нямала праблем. І галоўную з іх ён выканаў з бляскам. У цяжкія ліпеньскія дні 1941 г., калі дырэктары віцебскіх фабрык і заводаў наперабой даказвалі начальніку вакзала, што менавіта іх прадукцыя жыццёва важная для фронту і перамогі, Школьнік ужо выбіў для сваёй фабрыкі некалькі вагонаў і 3 ліпеня эвакуіраваў работнікаў і абсталяванне ў горад Маркс Саратаўскай вобласці. Тры–чатыры месяцы давялося працаваць на тытунёвай плантацыі, нарыхтоўваючы сыравіну. Да зімы на фабрыцы ўжо выпускалі прадукцыю.



Корпус фабрыкі пасля Другой сусветная вайны

Яшчэ ў 1930-я гг. наркам харчовай прамысловасці А. Мікаян эмацыйна заяўляў: «Без махоркі нават ваяваць нельга. Махорка гэта абарона. Гэта праўда, не гармата, не аэраплан, але і без яе на фронце цяжка». Дык вось падчас Вялікай Айчыннай пра віцебскую махорку ведалі на ўсіх франтах. Менавіта віцебскай махоркаю забяспечвалі салдат-абаронцаў Сталінграда.

## “ТАБАЧНАЙ ФАБРЫКІ, ВЯДОМА, НЕ ЗНОЙДЗЕМ МЫ СЯРОД РУІН…” (АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ)

У час вайны будынак фабрыкі згарэў, застаўся толькі каркас. Работнікі, якія вярнуліся з эвакуацыі, самі аднаўлялі прадпрыемства, перакваліфікаваўшыся ў столяраў, муляроў, тынкоўшчыкаў. У студзені 1948 г. фабрыка ўжо распачала вытворчасць: за год было выпушчана 80,6 тыс. скрынь пры плане 60 тыс. І гэта не быў план дзеля плана, попыт на махорку захоўваўся высокі. Напрыклад, у 1950 г. партыя асаблівага прызначэння была адпраўлена на Далёкую Поўнач.




Пакунак віцебскай махоркі, 1940-я — 1960-я гг.
Фота з сайта «Народныя навіны Віцебска» (www.news.vitebsk.cc)

Але час не стаяў на месцы, тытунёвая прамысловасць развівалася, у СССР выпускалася больш за 50 відаў цыгарэт на любы густ і кашалёк, а вытворчасць махоркі ў ранейшых аб’ёмах была прызнана немэтазгоднай. У 1930-я гг. рэнтабельнасць і прадукцыйнасць віцебскай фабрыкі прывялі да закрыцця махорачных фабрык у Мінску і Бабруйску, а ў хуткім часе віцебскі махорачны цэх быў далучаны да Гродзенскай тытунёвай фабрыкі.

Па чалавечых мерках махорачная фабрыка пражыла доўгае, напоўненае падзеямі жыццё. І, выканаўшы сваю місію на Зямлі, сышла ў гісторыю. І хоць «Міністэрства аховы здароўя папярэджвае», так хочацца ўявіць, як жа пахла тая легендарная віцебская махорка.



ВІЦЕБСК: ПАПУЛЯРНАЕ МІНУЛАЕ

# Фірмовы знак дарэвалюцыйнага завода

Вера Рогач, старшы навуковы супрацоўнік
навукова-даследчага аддзела фондаў ВАКМ

У багатым і цікавым зборы нумізматыкі, фалерыстыкі і сфрагістыкі Віцебскага абласнога краязнаўчага музея ёсць даволі значная калекцыя пячатак — 326 адзінак (без уліку тых, што змяшчаюць каштоўныя металы). У яе, акрамя саміх пячатак і іх адбіткаў, уваходзяць таксама штампы і клішэ. Пра адзін з іх і пойдзе гаворка.

Кафляна-маёлікавы завод Браніслава Якаўлевіча Лісоўскага быў заснаваны ў Віцебску ў 1877 г. Пабудовы, якія захаваліся да нашага часу, былі ўзведзены, мяркуючы па даце на флюгеры, не пазней за 1903 г. Колькасць рабочых, занятых на прадпрыемстве, хутка расла. Калі праз сем гадоў пасля адкрыцця працавала толькі 12 чалавек, то ў 1908 г. — ужо 78, а ў 1913 г. — 118.





ИЗРАЗЦОВО-МАЮЛИКОВЫЙ ЗАВОДЪ
Б.Я.ЛИСОВСКІЙ
ВИТЕБСКЪ,
Счетъ №
Цѣна
Сумма
За бой въ пути заводъ не отвѣчаетъ

Былыя вытворчыя карпусы і рахунак на фірмовым бланку кафляна-маёлікавага завода Браніслава Лісоўскага. Фота з сайта «Витебская энциклопедия» (www.evitebsk.com)

Прадпрыемства адрознівалася і вышэйшай па тых часах тэхнічнай аснашчанасцю. У 1895 г. тут працавалі два конных і газавы рухавікі магутнасцю ў чатыры конскіх сілы. У 1908 г. ужо меўся паравы рухавік магутнасцю ў 85 конскіх сіл. У гэты час прадпрыемства выпускала 75 тысяч пячных кафляў у год. Яны былі тэракотавыя, белапаліваныя, пазалочаныя і маёлікавыя. Напярэдадні Першай сусветнай вайны завод належаў акцыянернаму таварыству з вялікім капіталам (600 тысяч рублёў) і з'яўляўся адным з найбуйнейшых у Расіі. Свае крамы прадпрыемства мела не толькі ў Віцебску, але і ў Варшаве, Санкт-Пецярбургу, Растове-на-Доне, Саратаве, Казані і Нікалаеве. Прадукцыя віцяблян неаднаразова атрымлівала медалі на розных прамысловых выставах.

На фірменным бланку 1911 г. іх намалявана сем.

Копія цікавага дакумента захоўваецца ў фондзе абласнога краязнаўчага музея. Гэта пасведчанне, выдадзенае старшым фабрычным інспектарам Віцебскай губерні 6 (19) кастрычніка 1914 г.:

“З прычыны прыпынення зносін з замежнымі фірмамі з’явілася патрэба для ўсіх кафляных заводаў Паўночна-Заходняга краю ў волаве, свінцы і некаторых іншых матэрыялах для вытворчасці палівы (глазуры. — *В. Р.*) і маёлікі, — паведамляецца ў ім. — Адным з самых лепшых кафляных заводаў у Паўночна-Заходнім раёне лічыцца па справядлівасці завод двараніна Браніслава Якаўлевіча Лісоўскага ў Віцебску. Гэты завод настолькі добра ўладкаваны ўнутры свайго велічэзнага і капітальнага будынка, настолькі правільна вядзецца на ім работа, што завод сп. Лісоўскага я не магу нават параўнаць з вядомымі мне на працягу сямі гадоў кафлянымі заводамі ў г. Копысі Магілёўскай губерні. Таму лічу справядлівым і для прамысловасці гэтага краю вельмі карысным падтрыманне завода Б.Я. Лісоўскага крэдытам у такі крытычны момант, як раптоўная еўрапейская вайна”.




Штамп кафляна-маёлікавага завода Б.Я. Лісоўскага. З фондаў ВАКМ

У музеі ёсць клішэ гэтага прадпрыемства. Яно было знойдзена некалькі гадоў таму назад пры земляных работах на тэрыторыі, дзе раней размяшчаўся завод, віцябляніным Б. Скіпіным. Ён і перадаў сваю знаходку ў музей. Гэты ўнікальны экспанат быў прадстаўлены на выставе нашага музея “Віцебскія кафлі”.




# Пра вуліцу салдацкіх сыноў і гранітныя пянькі

Віктар Барысенкаў, віцебскі краязнаўца

Ёсць у Задзвінні ціхая і маляўнічая вуліца, частка якой мала змянілася за цэлае стагоддзе. Самае галоўнае — тут за шматлікія дзесяцігоддзі не памянялася атмасфера. Тая частка вуліцы, якая пазбегла ператварэнняў савецкага часу, нагадвае пра павольнае і патрыярхальнае жыццё губернскага Віцебска. Вядома, гістарычная памяць была б яшчэ больш адчувальнай, калі б вуліца захавала свой арыгінальны назоў і не набыла імя савецкага дзеяча, які не меў да Віцебска ніякага дачынення.

Гаворка ідзе пра вуліцу, якая раней звалася Кантанічнай, або Кантанісцкай, а зараз — Красіна. На захадзе яна мяжуе з Полацкім шляхаправодам, на ўсходзе выходзіць проста да Заходняй Дзвіны. На процілеглым высокім беразе ракі за дрэвамі бачны Губернатарскі палац.



Дарэвалюцыйная забудова сённяшняй вуліцы Красіна. Фота аўтара

На былой Кантанічнай вуліцы таксама растуць дрэвы. Аднагодкам тутэйшых таполяў і ліп, магчыма, удалося выжыць толькі дзе-небудзь у пар-

ках. Бо інтэнсіўнага аўтамабільнага руху тут ніколі не было, а савецкае добраўпарадкаванне не змяніла выгляд гэтых месцаў так татальна, як у цэнтры. Праўда, вялізныя пні, што з'явіліся тут у апошнія гады, выклікаюць сумныя пачуцці.

Вялікая частка старой забудовы вуліцы да нашых дзён не дажыла. Але на ўчастку паміж вул. Пакроўскай і вул. Рэвалюцыйнай захавалася некалькі старадаўніх дамоў, памілаваных часам і савецкімі горадабудаўнікамі. Падчас прагулкі па гэтым кутку горада вы іх абавязкова распазнаеце.

Старая назва вуліцы сённяшняму гараджаніну падаецца незразумелай і загадкавай. Ад яе вее забытай гісторыяй і зніклым побытам. Аднак у першай палове XIX ст. гэта было рэальнае жыццё. І не толькі Віцебска, але і ўсёй Расійскай імперыі. Кантаністы — выхаванцы школ ваеннага ведамства, у якія залічваліся пераважна малалетнія салдацкія сыны. Знаходзілася кантаніская школа ў самым пачатку нашай вуліцы, побач з чыгуначным пераездам. Тут стаялі салдацкія казармы, знаходзілася памяшканне ваеннага каменданта.

Суседства кантаніскай школы з навакольнымі дамамі было, па ўспамінах М.Я. Нікіфароўскага, малапрыемным. Бо кантаністы ў сілу свайго выхавання славіліся "распушчанымі паводзінамі на вуліцах і спусташальнымі паходамі ў абывацельскія сады і гароды". Пасля рэформ Аляксандра II пра мінулае вуліцы нагадвала толькі назва.



Будынак склада. У XIX ст. недзе тут знаходзілася кантаніская школа. Фота аўтара

Сёння ў самым канцы вуліцы Красіна, каля Полацкага шляхаправодa, стаяць пабеленыя складскія пабудовы. На карце 1904 г. у гэтым месцы значацца салдацкія казармы. Па сведчанні Нікіфароўскага, віцебская кантаніская школа размяшчалася ў "будынку, адбудаваным уласна для памяшкання

былога віцебскага каменданта графа Мініха (каля 1779 г.)”. Размяшчэнне і канфігурацыя гэтых складоў, ды і рысы архітэктуры, не цалкам знішчаныя пераробкамі савецкага часу, даюць падставу выказаць здагадку, што і пабудовы, і гісторыя гэтага месца сыходзяць каранямі ў XVIII ст.

* * *

Стан Кантанічнай вуліцы ў сярэдзіне XIX ст. пакідаў жадаць лепшага. Часам інакш як на хадулях перасекчы яе было немагчыма. Але з цягам часу Віцебск стаў зменьвацца. Пытанні добраўпарадкавання вуліц і пляцаў часта абмяркоўваліся ў мясцовых газетах. У горадзе засыпаюцца канавы, брукуюцца вуліцы, уладкоўваюцца тратуары. Уздоўж маставых з інтэрвалам у 2–3 сажні ўсталёўваюцца адмысловыя каменныя слупкі — колаадбойныя тумбы. Ва ўмовах існавання мноства конных фурманак і вазоў гэтыя высечаныя з граніту конусападобныя слупкі не дазвалялі экіпажам выязджаць на тратуары — свайго роду страхоўка ад іншага нецвярозага фурмана.

Тумбы ўсталёўваліся не толькі па краі тратуара. Для домаўласнікаў важным быў стан іх будынкаў. Вуглы пабудоў маглі разбурацца коламі конных экіпажаў, таму праязныя вароты і аркі, якія вялі ў падваротню, таксама часам мелі з абодвух бакоў колаадбойныя гранітныя тумбы.



На старых фотаздымках мы бачым каменныя тумбы ўздоўж віцебскіх тратуараў. Але ўжо да канца XIX ст. іх колькасць значна зменшылася

Тыпавыя праекты ўладкавання правінцыйных гарадоў Расійскай імперыі адносяцца да пачатку XIX ст. Знешні выгляд верставых слупоў, паказальнікаў, шлагбаўмаў, надаўбняў, паліцэйскіх і салдацкіх будак і г. д. быў зацверджаны ў 1817 г. Каменныя тумбы, зробленыя па гэтым праекце, выраблялiся цэнтралізавана і прадаваліся насельніцтву для ўстаноўкі перад дамамі. Гэтыя малыя гарадскія аб'екты сустракаюцца на старых віцебскіх паштоўках і фотаздымках.

Такія прадметы былі звыклымі для эпохі, якая акрамя конных экіпажаў іншага транспарту не ведала. Утылітарныя некалі, элементы гарадской архітэктуры сёння ператвараюцца ў музейныя экспанаты, становяцца матэрыяльнымі сведкамі гісторыі. Ва ўспрыманні мінулага нам так бракуе адчування сапраўднасці, калі мінуўшчына прысутнічае ў сучаснасці ў выглядзе простых артэфактаў. І чым больш у горадзе з'яўляецца асфальту, шкла і бетону, тым з большай увагай вы паставіцеся да фрагменту бруку, па якім хадзілі вашы продкі, або да старога гранітнага слупка.



Каменныя колаадбойныя тумбы. Адна знаходзіцца на вул. Красіна, другая — на вул. Кастрычніцкай. Фота аўтара

Колькі ўсяго ў Віцебску было знішчана, сышло ў будаўнічае смецце, засыпана і закатана ў асфальт! Але адзін з такіх колаадбойных гранітных слупкоў, які, праўда, не цалкам захаваўся, ёсць на былой Кантанічнай вуліцы. Каля аднапавярховага старога дома з чырвонай цэглы ў цені старой ліпы схаваўся гэты аскепак мінулай цывілізацыі.

Аблічча старадаўняга Задзвіння за пасляваенныя дзесяцігоддзі вельмі змянілася. Яно быццам пакорліва растварылася сярод чужых і варожых будынін-прыхадняў. На месцы ўтульных вулачак і прыгожых старых будынкаў размножыліся несамавітыя цагляныя дамы-каробкі — сімвал убогай савецкай рэчаіснасці. Вось і на рагу вуліц Зяньковай і Камсамольскай сёння стаіць такая каробка з сілікатнай цэглы, дзе знайшоў прытулак Аблаўтатранс. А між тым менавіта на гэтым месцы некалі знаходзіўся выдатны архітэктурны помнік — царква ў імя святых апосталаў Пятра і Паўла.

Любы, хто захоча даведацца штосьці пра Петрапаўлаўскую царкву, сутыкнецца з парадаксальнай сітуацыяй. З’яўляючыся выдатным узорам стылю віленскага барока, гэты храм, тым не менш, застаецца, па сутнасці, невядомым. Архітэктурныя энцыклапедыі пра яго нічога не паведамляюць, а некаторыя даведнікі даюць інфармацыю аб’ёмам не больш за дзясятак радкоў з фінальнай фразай: не захаваўся. І сапраўды, калі зруйнаваць выдатны помнік, то пры адсутнасці яго выяў архітэктурны шэдэўр лёгка ператворыцца ў міф.





Петрапаўлаўская царква ў гады Другой сусветнай вайны і (справа) сучаснае скрыжаванне вуліц Камсамольскай і Зяньковай. Параўнанне аўтара

Петрапаўлаўская царква, якая знаходзілася ў паўднёвай частцы Задзвіння, на шматлікіх дарэвалюцыйных паштоўках дэманстравала толькі далёкі, але пры гэтым вельмі характэрны сілуэт. Старыя фотаздымкі з цяжкасцю дазвалялі распазнаць рысы дзвюх своеасаблівых вежаў, якія, на жаль, не паддаваліся ніякай дэталізацыі. Этапамі ў вяртанні да нас Петрапаўлаўскага храма ці пачаткам яго новага, віртуальнага, жыцця можна лічыць знаходжанне адносна нядаўна стэрэапаштоўкі пачатку XX ст., а потым і цэлага шэрагу нямецкіх фотаздымкаў часоў вайны, дзе царква была сфатаграфаваныя буйным планам.

Не так даўно ў сеціве з’явіўся яшчэ адзін ваенны фотаздымак. Ён як ніякі іншы дае агульнае ўяўленне аб вонкавым выглядзе храма. Нарэшце ў нас з’явілася магчымасць па заслугах ацаніць усё хараство і прыгажосць гэтага сабора, бо ў ім, безумоўна, ёсць тое, чым варта любавацца.




Злева — стэрэапаштоўка пач. ХХ ст. Справа — адшуканы нядаўна фотаздымак храма часоў Другой сусветнай вайны

Віленскаму барока, архітэктурнаму стылю, які існаваў на беларускіх землях у XVII–XVIII стст., былі ўласцівы такія рысы, як «пластычнасць фасадаў, маляўнічасць сілуэта, утворанага шмат'яруснымі вежамі і фігурнымі франтонамі» (Т. Габрусь). Усё гэта можна было назіраць і ў архітэктуры Петрапаўлаўскай царквы.

Аднак, характэрны ўзор барока з тыповымі для стылю элементамі адначасова адрозніваўся самабытнасцю і непадобнасцю ні на адно іншае архітэктурнае збудаванне Віцебска. Было ў ім, калі хочаце, нешта казачнае. Асаблівы мастацкі інтарэс уяўляў дэкор галоўнага фасада — увагнутыя паверхні сцен з калонамі па баках, а таксама ажурныя вежы і фігурны франтон паміж імі. Дарэчы, арыгінальнае дэкаратыўнае рашэнне менавіта вежаў Петрапаўлаўскай царквы нагадвае некаторыя ўзоры еўрапейскай барочнай архітэктуры.




Сучасны фотаздымак зроблены са двара «Аблаўтатранса». Жылы будынак справа, як бачна, яшчэ даваенны. Параўнанне аўтара

Царква ў імя святых Пятра і Паўла паўстала на правым беразе Дзвіны яшчэ ў XVI сТ. Спачатку яна была драўлянай. У 1780 г. ўніятамі быў пабудаваны новы велічны мураваны храм, які больш чым паўтара стагоддзя панаваў у панараме паўднёвага Задзвіння. Безумоўна, гэты храм быў галоўным будынкам на вуліцах, якія да савецкіх перайменаванняў называліся ад царквы — Верхне-Пятроўская, Ніжне-Пятроўская, Папярочна-Пятроўская.

Уніяцкая царква, пабудаваная амаль увадначас з лепшымі і самымі вядомымі віцебскімі храмамі, у адрозненні ад іх захавала рысы першапачатковай архітэктуры. А гэта ўсё ж важная акалічнасць, калі ўлічыць, якая ідэалагічная рэканструкцыя адбылася ў Віцебску ў XIX ст.



Царква Свв. Пятра і Паўла на здымках з Другой сусветнай вайны (ніжні левы фотаздымак — фонды ВАКМ)

Асаблівасцю Петрапаўлаўскай царквы было яе нетыповае размяшчэнне галоўным фасадам на поўнач, а алтарнай апсідай на поўдзень. Як бачым, кананічныя пытанні часам вырашаліся на карысць пэўных абставінаў. У выніку прыгожы галоўны фасад атрымаўся разгорнутым да горада і быў вельмі добра бачны адусюль. Дарэчы, характэрная рыса віцебскіх храмаў, дый увогуле старой архітэктуры, — гэта яе невыпадковасць, яе бездакорнае ўпісванне ў гарадскі краявід (чаго не скажаш пра творы сучасных горадабудаўнікоў).

У 1886 г. побач з Петрапаўлаўскім храмам была ўзведзена невялікая прыпісная царква Раства Найсвяцейшай Багародзіцы з характэрным дэкорам XIX ст., маляўнічасць якому надаваў неатынкаваны цагляны мур. Два помніка, размешчаныя побач, утварылі архітэктурны і гістарычны ансамбль, які захоўваўся да 1940-х гадоў.



Петрапаўлаўская царква і царква Раства Насвяцейшай Багародзіцы (на пярэднім плане) у 1941-1944 гг.



Віктар Барысенкаў. Петрапаўлаўская царква і царква Раства Найсвяцейшай Багародзіцы ў канцы XIX ст. Акварэль

Знішчэнне Петрапаўлаўскага храма — адно з тых нелагічных дзеянняў гарадской улады, якія з лішкам праявіліся пасля вайны ў дачыненні да архітэктурнай спадчыны Віцебска. Цяпер ужо ніхто не растлумачыць, чаму такі выдатны помнік свайго часу быў прыгавораны да зносу.

У «Акце абследавання Петрапаўлаўскай царквы» ад 14 лютага 1946 г. чытаем: «Улічваючы наяўнасць усё яшчэ захаваўшыхся элементаў мастацка-архітэктурнага аздаблення, а таксама ўсіх канструктыўных элементаў будынка, па якіх могуць быць узноўлены разбураныя часткі будынка, можна заключыць, што рэстаўрацыя гэтага помніка магчымая».



Інтэр'ер Петрапаўлаўскай царквы. З фондаў ВАКМ

Зрэшты, аб захаванасці царквы сведчаць і фотаздымкі. Але пройдзе яшчэ чатыры дзесяцігоддзі, перш чым у Віцебску пойдзе гаворка аб нейкіх рэстаўрацыйных работах. А тады, у канцы 1940-х, у 1950-я гады, велічныя і прыгожыя храмы на гарадскіх вуліцах і плошчах падаваліся некаму абсалютна недарэчнымі. Петрапаўлаўская царква была наўмысна знішчана. Так Віцебск страціў адзін са сваіх самых значных архітэктурных помнікаў.

А вось царкву Раства Багародзіцы зусім разбураць не сталі. У 1947–1952 гадах яе перабудавалі пад жылы дом, збіўшы дэкор і ампутаваўшы тую частку помніка, дзе знаходзілася апсіда. Сёння будынак ужо нічым не нагадвае праваслаўны храм.

У нас вельмі доўга, вобразна кажучы, было «выключана святло». Яно і цяпер не гарыць напоўніцу. Але ўсведамленне жахлівых страт прыходзіць да нас сёння разам са скупой інфармацыяй і адзінкавымі фотаздымкамі, паказваючы ўсё ж шлях да здабыцця Храма.




# Знак Уладзімірскага брацтва

Вера Рогач, старшы навуковы супрацоўнік
навукова-даследчага аддзела фондаў ВАКМ

У сакавіку 1993 г. Віцебскі абласны краязнаўчы музей набыў у жыхаркі расійскага горада Веліжа нагрудны знак, выкананы з пасярэбранай бронзы ў выглядзе чатырохканцовага крыжа, пакрытага белай эмаллю. У цэнтры знака — медальён блакітнага колеру з выявай св. Уладзіміра і надпісам вакол «ВСВБ. 1887».

На зваротным баку зроблены надпіс, які раскрывае абрэвіятуру: «Знак Витебск[ого] епарх[иального] св. Владимирского братства». Гэты рэдкі помнік фалерыстыкі распавядае аб арганізацыі, якая была добра вядомая ў Віцебску з канца XIX ст.

У лістападзе 1887 г. ў актавай зале Віцебскай духоўнай семінарыі (цяпер тут размяшчаецца станкаінструментальны тэхнікум) адбылося ўрачыстае адкрыццё грамадскай арганізацыі, поўная назва якой гучала так: «Епархіяльнае брацтва ў імя святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра». Гучалі прамовы, віншаванні, быў дадзены святочны канцэрт. А затым пры шматлікай публіцы пачаліся выбары шасці членаў у савет брацтва і такой жа колькасці кандыдатаў.




Знак Віцебскага Свята-Уладзімірскага брацтва. ВАКМ

Сярод 12 абраных апынуліся вядомы віцебскі краязнавец, настаўнік мясцовай гімназіі А. Сапуноў, дырэктар гэтай гімназіі С. Феліцын, вядомыя ў губерні святары М. Красавіцкі і В. Церпілоўскі. Мэтай гэтай арганізацыі з'яўлялася распаўсюджванне і зацвярджэнне рэлігійна-маральнай асветы ў духу праваслаўя, садзейнічанне паслабленню расколу і адмежаванне ад яго праваслаўнага насельніцтва.

Брацтва аказвала матэрыяльную дапамогу дзеючым царкоўнапрыходскім школам і садзейнічала адкрыццю новых, праводзіла лекцыі і гутаркі, арганізоўвала склады і іконныя крамы для продажу кніг рэлігійна-этычнага і патрыятычнага зместу, падручнікаў і дапаможнікаў для пачатковых школ. Сродкі для гэтых мэтаў брацтва атрымлівала ад членскіх узносаў і паасобных ахвяраванняў.

Праз дзевяць гадоў у яго складзе былі 18 ганаровых членаў, 287 сапраўдных (якія рабілі ўнёсак штогод не менш за тры рублі) і 115 членаў-спаборнікаў (якія рабілі ўнёсак штогод менш за тры рублі або аказвалі пэўныя паслугі без ахвяравання). Сярод ганаровых членаў быў вядомы вучоны-натураліст, прафесар Пецярбургскага Ляснога інстытута, ураджэнец Полацка Д. Кайгародаў, сярод сапраўдных членаў — вядомыя ў Віцебску гісторык Д. Даўгяла, фальклярыст М. Нікіфароўскі, педагогі Д. Ціхаміраў, І. Увядзенскі, В. Тычынін, М. Слёзкін і інш. Імёны членаў брацтва ўносіліся ў спецыяльную кнігу, якая захоўвалася ў савеце, а прозвішчы тых, што пайшлі з жыцця, уносілі ў брацкую сінодзіку і згадвалі ў дні памінання памерлых.



Мікалаеўскі кафедральны сабор (былы касцёл Св. Іосіфа пры езуіцкім кляштары)

Дзейнічала Віцебскае св. Уладзімірскае брацтва пры Мікалаеўскім кафедральным саборы. Аднак масавыя мерапрыемствы праводзіліся ў іншых будынках горада. Арганізацыя мела павятовыя аддзяленні ў Гарадку, Дрысе

(цяпер — Верхнядзвінск), Лепелі, Невелі, у іншых буйных населеных пунктах губерні. Усюды працавалі іконна-кніжныя склады, у якіх можна было набыць не толькі кнігі і абразы, але і танныя крыжыкі ды іншыя прадметы рэлігійнага культу.

У 1894 г. пры брацтве быў створаны «Супрацьраскольніцкі камітэт», яшчэ праз два гады — царкоўна-археалагічны музей.

У 1915 г. быў заснаваны адмысловы нагрудны знак Віцебскага епархіяльнага св. Уладзімірскага брацтва. Ён уручаўся тым, хто праявіў вялікую актыўнасць у дзейнасці гэтай грамадскай арганізацыі ці зрабіў буйное ахвяраванне. Знак меў тры ступені. Знак першай, вышэйшай ступені, уручаўся ганаровым членам за асаблівыя заслугі, сапраўдным членам, якія паслужылі брацтву ў званні членаў савета не менш за дзесяць гадоў, або асобам, якія ахвяравалі адначасова не менш за 300 рублёў.

Знак другой ступені ўручаўся сапраўдным членам, якія асаблівай карысцю для брацтва папрацавалі не менш за дзесяць гадоў ці зрабілі аднаразовае ахвяраванне не менш за 100 рублёў. Бронзавы знак — сапраўдным членам, якія папрацавалі на карысць брацтва некалькі гадоў, або членам-спаборнікам, якія аддалі грамадскай арганізацыі не менш за дзесяць гадоў або ахвяравалі ёй за раз не менш за 25 рублёў. Акрамя самога знака выдавалася таксама адмысловае пасведчанне на права яго нашэння.

Колькі знакаў кожнай са ступеней было ўручана, невядома. Але, мяркуючы па тым, што ўзнагарода гэтая сустракаецца надзвычай рэдка, вельмі няшмат. Можна выказаць здагадку, што апошняй уладальніцай знака, які цяпер захоўваецца ў фондах нашага музея, была дачка ці ўнучка аднаго з узнагароджаных.




# Адукаваная вуліца

Вольга Давідоўская,

галоўны захавальнік фондаў ВАКМ

У пачатку XX ст. у Віцебску налічвалася больш за 300 вуліц і завулкаў. Цэнтральныя, перыферыйныя, гандлёвыя, прамысловыя, вузкія, звілістыя — яны мелі свой характар і сваю гісторыю. Напэўна, самай "адукаванай" вуліцай таго часу можна назваць вул. Гогалеўскую, бо размяшчаліся на ёй самыя розныя навучальныя ўстановы. Атрымаць сярэднюю, вышэйшую, прафесійную адукацыю асобам мужчынскага і жаночага полу прапаноўвалі дзве гімназіі, два інстытуты, два вучылішчы, мастацкая школа. Толькі на Гогалеўскай быў такі багаты "выбар"!

Вуліца Гогалеўская з'явілася на карце горада ў пачатку XX ст. Тады яна злучала Саборную плошчу (зараз пл. Свабоды) і плошчу Магілёўскага рынку (зараз частка пл. Перамогі). Гэты ўчастак пачаў фарміравацца як гарадская магістраль у XIX ст. і спярша быў вядомы як вуліца Вялікая Магілёўская (назва звязана з напрамкам вуліцы, якая ў канцы пераходзіла ў тракт на Магілёў). У пачатку XX ст. вуліца была перайменавана ў гонар вядомага рускага пісьменніка М.В. Гогаля. Нарэшце, у 1961 г. вуліца Гогалеўская набыла імя У.І. Леніна і стала працягам ужо існуючай магістралі з такой назвай. А ўчастак былой Гогалеўскай паміж сучасным будынкам па вул. Леніна, 12 і вул. Калініна існуе зараз як праезд Гогаля.




Віцебск. Марыінская жаночая гімназія. Паштоўка пач. XX ст.

Адной з першых навучальных устаноў, якая з'явілася на Гогалеўскай вуліцы, была жаночая Марыінская гімназія. Яна пачала дзейнічаць у 1866 г. і размясцілася ва ўласным будынку непадалёку ад дамбы праз Ручай (сёння на гэтым месцы знаходзіцца будынак банка па адрасе вул. Леніна, 17). Гэта была

першая ў Віцебску навучальная ўстанова для асоб жаночага полу, якая давала сярэднюю адукацыю. Атрымаць яе маглі прадстаўніцы розных саслоўяў і веравызнанняў. Выпускніцам выдаваўся атэстат на званне хатняй настаўніцы, а тыя, хто атрымліваў узнагароды (медалі ці кнігі), мелі права без экзаменаў паступаць на педагагічныя курсы.

Жаночая Марыінская гімназія ў Віцебску дзейнічала да 1918 г. Пасля яе закрыцця ў будынку на Гогалеўскай размясціліся іншыя, савецкія, навучальныя ўстановы. У 1924 г. тут знаходзіліся 2-я школа 1-й ступені і 7-я школа 2-й ступені, у канцы 1930-х гг. — 13-я школа, пасля Вялікай Айчыннай вайны — прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 37 імя Шмырова. На жаль, у 1975 г. будынак быў знесены.



Будынак Марыінскай гімназіі ў 1950-я гг. Фотаздымак К.В. Дурыхіна

Другой па часе з'яўлення навучальнай установай на Гогалеўскай было 1-е гарадское 4-класнае вучылішча, якое давала пачатковую адукацыю для хлопчыкаў і дзейнічала ў 1897–1918 гг. Размяшчалася вучылішча ў мураваным трохпавярховым будынку, узведзеным на Гогалеўскай у канцы XIX ст. (зараз дом № 24 па вул. Леніна, у якім месціцца вячэрняя школа № 10). Выхаванцы атрымлівалі агульныя веды па геаметрыі, арыфметыцы, геаграфіі, гісторыі, прыродазнаўству, чыстапісанні, чарчэнні, маляванні. Пры жаданні можна было авалодаць прафесійнымі навыкамі на кавальска-слясарным ці сталярна-такарным аддзяленнях рамеснага класа. Сярод навучэнцаў вучылішча былі знакамітыя ў будучыні мастак Марк Шагал (1887–1985), скульптар Осіп Цадкін (1888–1967) і інш.



Былы будынак 1-га гарадскога вучылішча. Фота з сайта “Витебская энциклопедия” (www.evitebsk.com)

У 1897 г. на вул. Гогалеўскай з’явілася мастацкая школа-студыя Ю. Пэна — першая падобная навучальная ўстанова ў Віцебску і на Беларусі. Юры (Іегуда) Пэн (1854–1937) — расійскі і беларускі жывапісец, педагог, вядомы як першы настаўнік Марка Шагала. «Школа рисования и живописи художника Пэна» размяшчалася ва ўласнай кватэры мастака (будынак не захаваўся. На сучасным будынку па адрасе вул. Леніна, 30, што знаходзіцца на месцы дома Ю. Пэна, устаноўлена мемарыяльная дошка). Школу-студыю Пэна наведвалі такія сусветна вядомыя ў будучыні майстры, як мастак Марк Шагал, скульптар Осіп Цадкін, мастак і архітэктар Эль Лісіцкі. Вучнямі Ю. Пэна былі таксама скульптар Оскар Мешчанінаў, мастак-графік Саламон Юдовін, скульптар і графік Давід Якерсон, графік Яфім Мінін і многія іншыя творцы, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё культуры і мастацтва Віцебшчыны, Беларусі і СССР.



Вул. Гогалеўская і дом Ю. Пэна (злева). Зараз на яго месцы стаіць колішні «сіні» дом. Паштоўка пач. ХХ ст.

Пасля закрыцця школы-студыі ў 1918 г. выкладчыцкая дзейнасць мастака працягнулася на пасадзе кіраўніка адной з майстэрняў у Народным мастацкім вучылішчы, куды Пэна запрасіў М. Шагал. Юры Маісеевіч заўсёды падтрымліваў сувязі са сваімі вучнямі, яны былі побач з настаўнікам да самай яго заўчаснай смерці ў 1937 г.



Юдэль Пэн жыў у доме з мезанінам (злева). Тут былі яго майстэрня і студыя. (Фотаздымак пасля 1945 г.)

Выдатныя педагогі і выкладчыкі працавалі ў настаўніцкім інстытуце — сярэдняй спецыяльнай навучальнай установе, якая размясцілася на вул. Гогалеўскай з восені 1910 г. у будынку былых казармаў 163-га пяхотнага Ленкаранска-Нашабургскага палка (зараз — вул. Леніна, 16. Гэты будынак на рагу з вул. Праўды нядаўна займеў новага прыватнага ўласніка і быў адрэстаўраваны).

У інстытут прымаліся юнакі праваслаўнага веравызнання ўсіх саслоўяў, якія скончылі настаўніцкія семінарыі і мелі стаж настаўніцкай працы не менш за два гады. Акрамя агульнаадукацыйных дысцыплін, навучэнцам выкладалі педагогіку і псіхалогію. Выпускнікі маглі працаваць настаўнікамі вышэйшых пачатковых вучылішчаў у гарадах і мястэчках Віцебскай губерні, а таксама мелі права паступаць ва ўніверсітэты. За восем гадоў існавання інстытут ажыццявіў 5 выпускаў, пасведчанні настаўнікаў атрымалі 150 чалавек.




Вул. Гогалеўская (зараз — Леніна). Будынак, дзе ў 1910-х гг. размяшчаліся настаўніцкі інстытут, Віцебскае аддзяленне МАІ, прыватная мужчынская гімназія І. Неруша. Паштоўка пач. ХХ ст.

У 1918 г. інстытут быў рэарганізаваны ў педагагічны і стаў першай на Беларусі вышэйшай педагагічнай установай. Яе пераемнік сёння — Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава.

У тым жа будынку на Гогалеўскай, дзе размяшчаўся настаўніцкі інстытут, у 1911 г. пачалі дзейнічаць яшчэ дзве навучальныя ўстановы: Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута (МАІ) і прыватная мужчынская гімназія І. Неруша.

27 кастрычніка 1911 г. адбылася першая лекцыя ў Віцебскім аддзяленні МАІ, якое стала адной з першых вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. На трох факультэтах — археалагічным, археаграфічным, гісторыі мастацтваў (з 1917 г.) — вялася падрыхтоўка па спецыяльнасцях «вучоны архівіст», «вучоны археолаг» і «вучоны мастацтвазнаўца».

Трэба адзначыць даволі высокі ўзровень выкладання ў інстытуце. Для чытання лекцый у Віцебск прыязджалі такія вядомыя вучоныя, як геолаг і палеантолаг А.А. Чарноў, мовазнаўца і славіст Р.Ф. Брант, археолаг В.А. Гарадцоў, гісторык М.М. Фірсаў, выкладчыкі і прафесары Маскоўскага археалагічнага інстытута А.І. Успенскі, І.Ф. Календзікаў, Л.М. Савелаў, В.К. Трутоўскі, С.І. Сабалеўскі і інш. Акрамя таго, лекцыі і заняткі праводзілі мясцовыя навукоўцы і прадстаўнікі гарадской адміністрацыі, у тым ліку вядомы віцебскі гісторык А.П. Сапуноў, гарадскі галава І.Ю. Сабін-Гус.

Адметна, што і сярод навучэнцаў інстытута таксама былі выдатныя асобы, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё архіўнай, музейнай, бібліятэчнай справы Беларусі, Літвы, Украіны, Расіі. У ліку апошніх член-карэспандэнт Інбелкульта М.М. Багародскі, адзін з кіраўнікоў краязнаўчага руху на Віцебшчыне ў 1920-я гг. Д.М. Васілеўскі, кіраўнік музея ВВАК К.А. Змігродскі, будучы выдатны беларускі археолаг, прафесар БДУ А.М. Ляўданскі, намеснік кіраўніка Цэнтральнага архіва Беларусі М.В. Мялешка, будучы прафесар БДУ І.А. Сербаў, этнограф, фалькларыст, архівіст А.А. Шлюбскі і інш.

Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута спыніла сваю дзейнасць у 1922 г. пасля закрыцця МАІ.

Прыватная мужчынская гімназія Івана Неруша была адкрыта яшчэ ў 1906 г. Першапачаткова размяшчалася на вул. Падзвінскай (сучасная вул. Талстога), з 1911 г. уладальнік арандаваў памяшканні ў будынку былых казармаў на Гогалеўскай. Гімназія мела 7 класаў, утрымлівалася за кошт збора за навучанне і асабістых сродкаў дырэктара. Яна карысталася правамі ўрадавай навучальнай установы і сваім штатам не адрознівалася ад яе. Выкладчыкамі гімназіі ў розны час былі этнограф і фалькларыст М.Я. Нікіфароўскі, старшыня Віцебскай вучонай архіўнай камісіі У.А. Кадыгробаў. Гімназія І. Неруша існавала да 1918 г.



Будынак па адрасе праезд Гогаля, 3 (былы дом Пішчуліна). Тут знаходзілася рэальнае мужчынскае вучылішча. Фота Юрыя Шэпелева

У красавіку 1911 г. пачало сваю дзейнасць віцебскае рэальнае мужчынскае вучылішча, якое размясцілася на вул. Гогалеўскай у доме купца Пішчуліна (сёння гэта будынак па адрасе праезд Гогаля, 3; тут месціцца вячэрняя школа). Падобных навучальных устаноў, якія з'яўляліся прамежкавымі паміж класічнымі гімназіямі і гарадскімі вучылішчамі, было няшмат на Беларусі.

У рэальных вучылішчах значная роля адводзілася прадметам матэматычнай і прыродазнаўчай накіраванасці. Па заканчэнні 6-гадовага курса навучання выпускнікі маглі паступаць у тэхнічныя, прамысловыя і гандлёвыя вышэйшыя навучальныя ўстановы. У 1917 г. адбыўся першы і адзіны выпуск вучылішча — 72 чалавекі. На працягу ўсяго перыяду існавання дырэктарам вучылішча быў педагог, гісторык, краязнаўца У.Г. Краснянскі. Як і большасць дарэвалюцыйных навучальных устаноў Віцебска, рэальнае вучылішча спыніла сваю дзейнасць у 1918 г.



Былы дом купца Пішчуліна. Выгляд з боку двара двара. Фота Юрыя Шэпелева

Застаецца дадаць, што сваю “адукацыйную накіраванасць” вул. Гогалеўская не страчвала і ў савецкі час. У сярэдзіне 1920-х гг. на ёй размяшчалася адразу дзевяць савецкіх школ 1-й і 2-й ступеняў. У пасляваенныя дзесяцігоддзі колькасць навучальных устаноў на вуліцы скарацілася. Сёння на былой Гогалеўскай дзейнічаюць толькі Віцебскі дзяржаўны політэхнічны ліцэй і дзве вячэрнія агульнаадукацыйная школы №№ 4, 10. Але захаваліся дакументы, фотаздымкі, успаміны, друкаваныя выданні, якія могуць вярнуць нас у мінулае і паведаміць гісторыю навучальных устаноў г. Віцебска.



# ВІЦЕБСК: ПАПУЛЯРНАЕ МІНУЛАЕ

## Сядзіба «Мілае» пад Віцебскам

Юлія Юрчак, студэнтка 6 курса Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта

Калі сёння хтосьці наведае вёску Мазалава, што знаходзіцца побач з Віцебскам, то зможа ўбачыць у цэнтры населенага пункта двухпавярховы будынак, большасць вокнаў якога схаваны за дошкамі. Здавалася б, тыповы стары занядбаны дом, які вельмі нагадвае шматлікія віцебскія «сталінкі». Але на самай справе гэтаму будынку ўжо больш за два стагоддзі і ён быў калісьці цэнтрам маёнтка Мілае, што належаў быломy віцебскаму віцэ-губернатару і вельмі таленавітаму чалавеку Ігнату Антонавічу Манькоўскаму.



# ІМПЕРАТАРА — У СВАТЫ

Сядзіба «Мілае», якая была некалі адной з самых прыгожых у ваколіцах Віцебска, пабудавана ў першае дзесяцігоддзе XIX ст. Яе з'яўленне звязана з рамантычнай гісторыяй кахання 30-гадовага калежскага асэсара Ігната Манькоўскага і ўдвая маладзейшай за яго прыгажуні Рахіль — дачкі стацкага саветніка Антона Макавецкага, былога камергера апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Бацька дзяўчыны быў катэгарычна супраць адносінаў, лічачы, што такі жаніх не падыходзіць для яго дачкі. Гэта вымусіла Ігната пайсці на адчайны крок. Ён адправіўся ў Пецярбург, з дапамогай уплывовых і неабыякавых сяброў здолеў прабрацца да імператара Паўла І, калі той гуляў па парку ва ўласнай рэзідэнцыі. Манькоўскі стаў перад Паўлам на калені і паклаў сабе на галаву пісьмовы зварот да самадзержца (вусна звяртацца да цара было катэгарычна забаронена). Будучы ў добрым настроі, Павел І ацаніў вынаходлівасць беларускага шляхціца і прачытаў тэкст. Рамантычная гісторыя кахання яго вельмі ўразіла. Яшчэ большае ўражанне ліст аказаў на сентыментальную імператрыцу Марыю Фёдараўну.

У выніку 17 лютага 1797 г. быў выдадзены імператарскі рэскрыпт, у якім гаварылася пра наданне Ігнату Манькоўскаму чыну прыдворнага саветніка і перадачы ў пажыццёвае валоданне Буеўскага казённага маёнтка. Адначасова былі зняты ўсе пытанні пра шлюб з Рахіль Макавецкай, паколькі заступнікам шлюбнага саюза стаў сам імператар, які ў рэскрыпце выказаў «спадзяванне», што і Антон Макавецкі добра паставіцца да пачуццяў маладых.

# НА ГУБЕРНСКІХ ПАСАДАХ

Крыху пазней ужо за ўласныя грошы Ігнат Манькоўскі набыў вёску Мазалава, дзе ў 1801–1806 гг. пабудаваў уласны маёнтак, названы ў гонар сына Антонаўка, а пасля перайменаваны ў Мілае. У гэты ж час (з 1801 г.) наш герой стаў віцебскім губернскім пракурорам. У пачатку вайны 1812 г. Ігнат Антонавіч эвакуіраваўся ўглыб Расіі з усімі губернскімі ўстановамі. Яго шаснаццацігадовы сын пайшоў добраахвотнікам у рускую армію, а жонка засталася ў маёнтку. Пасля адступлення Напалеона адным з першых з чыноўнікаў Манькоўскі вярнуўся ў Віцебск. У адсутнасць губернатара і віцэ-губернатара ён узначаліў губернскую адміністрацыю, зрабіў усё магчымае, каб наладзіць мірнае жыццё ў горадзе і губерні, за што 8 красавіка 1813 г. быў афіцыйна прызначаны на пасаду віцебскага віцэ-губернатара, якую займаў да 1817 г.

Акрамя дзяржаўнай службы Ігнат Антонавіч актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю, валодаў калекцыяй старажытнасцей, захапляўся літаратурай і нават разглядаўся сучаснікамі і даследчыкамі літаратуры ў ліку найбольш магчымых аўтараў беларускамоўнай «Энеіды».





Вядомы ён таксама як прагрэсіўны памешчык і руплівы гаспадар. У 1830 г. І.А. Манькоўскі прыняў удзел у конкурсе Вольнага эканамічнага таварыства на лепшы праект выпраўлення сялянскіх пабудоў паўночнай і сярэдняй паласы Расіі, за які быў уганараваны залатым медалём, а сам твор быў апублікаваны, праўда, ужо пасля смерці самага Ігната Антонавіча. Акрамя таго, гэтыя прагрэсіўныя прапановы былі рэалізаваны на практыцы ў яго маёнтку Мілае, што вельмі ўразіла спецыяльную камісію, якая прыехала са сталіцы.

# УНІКАЛЬНЫ МАЁНТАК

Усе сяляне Манькоўскага жылі не ў звычайных курных хатах (якія тапіліся «па-чорнаму»), а ў «белых» (мелі печы з комінам на сучасны лад), што ў той час успрымалася як даволі «рэвалюцыйная» ідэя. Нават самі сяляне ў Расійскай імперыі лічылі менавіта курнікі сапраўдным сялянскім жытлом. Але Ігнат Антонавіч змог пераадолець гэты перажытак. Акрамя таго, Манькоўскі прапаноўваў новыя падыходы ў будаўніцтве зрубных канструкцый, распрацаваў уласныя праекты вялікіх хлявоў для жывёлы, у якіх, на яго думку, былі больш спрыяльныя санітарныя ўмовы, што памяншала верагоднасць хвароб і эпідэмій.



Для свайго часу Манькоўскі нядрэнна разбіраўся ў медыцыне. Ён адкрыта казаў пра тое, што менавіта з-за невыносных умоў пражывання ў курніках працягласць жыцця сялян у паўночнай і цэнтральнай частках імперыі значна меншая ў параўнанні з поўднем Расіі. У гэтым жа ён бачыў прычыну высокага ўзроўню дзіцячай смяротнасці і звяртаў увагу на тое, што пасля таго, як у маёнтку Мілае сяляне пачалі жыць у «белых хатах», не было зарэгістравана ніводнага выпадку смерці немаўлят. Шмат увагі Ігнат Антонавіч надаваў і ветэрынарыі, нават распрацаваў уласныя лекі для жывёлы, рэцэпт якіх падрабязна апісаны ў згаданай вышэй конкурснай працы.

# СТРУКТУРА СЯДЗІБЫ «МІЛАЕ»: ГІСТОРЫЯ І ПРАПАНОВА АДНАЎЛЕННЯ

Сядзіба «Мілае» ўключала ў сябе сядзібны дом, які захаваўся да нашых дзён, створаныя па праектах Манькоўскага гаспадарчыя пабудовы (частка з іх таксама захавалася і знаходзіцца ў падпарадкаванні былой Мазалаўскай ПМК № 29), млын і парк з вялікай колькасцю дэкаратыўных раслін. Па ўспамінах мясцовых жыхароў, побач з сядзібным домам знаходзілася карэтная, якая размяшчалася злева ад галоўнага ўваходу ў маёнтак (калі стаяць тварам да фасада).

Акрамя таго, рэльеф вакол сядзібы істотна адрозніваўся ад сучаснага: з-за таго, што млын знаходзіўся крыху ніжэй (каля 400 метраў) па цячэнні ракі Лужаснянка, узровень вады быў значна вышэй сучаснага. За домам і перад ім (на некаторай адлегласці) меліся каналы, засыпаныя ў XX ст. меліяратарамі, а таксама пры будаўніцтве дарогі за домам. З-за ўсяго гэтага атрымлівалася, што сам дом знаходзіўся на паўвыспе і пад’езд да яго быў толькі з боку карэтнай, на падмурку якой, па словах мясцовых жыхароў, узведзены будынак канторы (цяпер філіял «Беларусбанка»). Перад галоўным фасадам будынка размяшчаўся фантан, што напаўняўся, хутчэй за ўсё, вадой з крыніцы, якая і па сённяшні дзень існуе на бліжэйшым узвышшы. Гэта ж крыніца напаўняла прэснай вадой і вадаправод, які з моманту пабудовы існаваў у сядзібным доме. За кошт таго, што крыніца размяшчалася вышэй другога паверха будынка, праблем з напаўненнем усёй сістэмы вадой не ўзнікала. Акрамя таго, у будынку мелася аўтаномная каналізацыя, сляды існавання якой да гэтага часу можна прасачыць.



План дома мае выгляд прамавугольніка. Габарыты будынка — 26.9х16.6 м. Галоўны фасад арыентаваны на паўночны ўсход. Вялікая таўшчыня сцен, высокія вокны забяспечвалі ў памяшканні добрую аэрацыю (натуральную вентыляцыю). Існуе меркаванне, што будынак здолеў захавацца ў такім выглядзе за кошт таго, што тоўстыя сцены ўтрымлівалі цяпло ў зімовы час, а летам у будынку было халаднавата. Менавіта гэта забяспечыла даўгавечнасць. Па вертыкалі будынак мае тры гарызантальныя паясы. Карніз упрыгожаны аркатурай. Вокны цэнтральнай часткі будынка ўпрыгожаны фігурнымі паясамі (сандрыкамі). На астатніх упрыгажэнні адсутнічаюць. Бакавыя фасады дэкарыраваны, як і галоўны, за выключэннем сандрыкаў над вокнамі. Ацяпляўся будынак з дапамогай шматлікіх печаў, злучаных адзінай сістэмай комінаў. Атрымлівалася так, што ў кожным з пакояў была печ альбо камін, прычым усе яны былі ўбудаваныя ва ўнутраныя сцены, а сістэма коміна практычна была зведзена ў 2 трубы.

Дах быў або чатырохсхільным высокім, або чатырохсхільным ламаным. У цяперашні час ён зменены. Змены закранулі і іншыя часткі будынка. У прыватнасці, над другім паверхам у дадзены момант знаходзяцца жалезабетонныя перакрыцці, у той час як міжпавярховыя перакрыцці драўляныя, многія з якіх аварыйныя або зусім зруйнаваныя (асабліва ў левай частцы будынка). Меліся і іншыя перабудовы. У прыватнасці, не раз уносіліся змены ў месцазнаходжанне ўваходных дзвярэй (змянялася іх колькасць і месца размяшчэння).





Некаторыя складанасці выклікае пытанне існавання балкона на галоўным фасадзе будынка. На фотаздымку сярэдзіны XX ст. можна бачыць невялікі металічны балкон, такі ж, як захаваўся да гэтага часу на заднім фасадзе. Аднак,

на наш погляд, раней перад галоўным фасадам размяшчалася прасторная адкрытая тэраса, якая абапіралася на 4 калоны і 2 дэкаратыўныя паўкалоны (апошнія з іх захаваліся). У пацверджанне гэтага тэзіса варта правесці аналогіі з іншымі помнікамі разгляданай эпохі і прывесці ўспаміны мясцовых жыхароў, якія сцвярджаюць, што раней перад уваходам існавала прасторная веранда з вялізнымі вокнамі, а асновай для яе і магла стаць тэраса, якая ў далейшым была разбурана. Але, на жаль, адназначна даказаць гэта магчыма толькі ў выпадку правядзення раскопак перад фасадам будынка і выяўлення слядоў апор калон тэрасы.



Гасцёўні, кабінеты, бібліятэка, жылыя пакоі размяшчаліся на другім паверсе, куды вяла шырокая парадная трохмаршавая лесвіца, якая размяшчалася ў левай частцы будынка (калі стаяць тварам да фасада) і адрознівалася арыгінальным мурам і дэкорам. Акрамя таго, у цэнтральнай частцы будынка мелася асобная вузкая лесвіца для прыслугі. У цэлым інтэр'еру будынка была ўласцівая выразнасць прасторавых дзяленняў і мяккасць каляровай гамы.

На вялікі жаль, большасць пабудоў былой сядзібы не захавалася. Сёння мы можам бачыць толькі сам сядзібны дом, частку гаспадарчых пабудоў, рэшткі млына. Няма і родавых могілак, на якіх быў пахаваны сам Ігнат Антонавіч і яго сям'я. Яны былі зруйнаваны будаўнікамі, якім у 1970-х гг. спатрэбіўся пясок для пракладання дарогі. Таму і прах І. Манькоўскага назаўсёды знік, але ёсць магчымасць аднавіць частку былой сядзібы, якая б стала сапраўдным помнікам вялікаму асветніку і слаўнаму сыну беларускай зямлі.

Сучасныя фотаздымкі (2012 г.): М.В. Півавар, Ю.В. Юрчак.

Праект рэнавацыі сядзібы: Ю.В. Юрчак



ВІЦЕБСК:
ПАПУЛЯРНАЕ
МІНУЛАЕ

# Добраахвотныя памочнікі пажарных

Вера Рогач, старшы навуковы супрацоўнік
навукова-даследчага аддзела фондаў ВАКМ

Першая пажарная каманда ў Віцебску была створана ў 1853 г. Праз 23 гады з'явілася гарадское вольнае (добраахвотнае) пажарнае таварыства. З апошнім звязаны выпуск аднаго вельмі рэдкага знака, які маецца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

У справаздачы савета ўпраўлення Віцебскага вольнага пажарнага таварыства за 1886 г. сустракаем такія радкі: «Хоць некалькі гадоў таму (у 1880–1881 гг.) быў утвораны атрад ахоўнікаў парадку на пажарах з членаў пажарнага таварыства, але з цягам часу гэта карысная ўстанова прыйшла ў заняпад. Прычына заключалася ў тым, што ахоўнікамі маглі быць толькі вядомыя ў горадзе асобы і толькі тыя, якія маюць давер у насельніцтва.




Віцебск. Вежа вольнага пажарнага таварыства. Паштоўка пач. XX ст.

Адсутнасць такіх ахоўнікаў кепска адбівалася на справе. Наплыў бяздзейнага натоўпу ў месцах пажару заўсёды абмяжоўвае патрэбную прастору для асоб, якія занятыя тушэннем полымя, і адпаведна ўскладняе вынас і захаванне ратуемай маёмасці пагарэльцаў. У агульным беспарадку і штурханіне, якія адбываюцца пры такіх умовах на пажары, выратаваныя рэчы вельмі лёгка могуць знікнуць нават выпадкова. Але небяспека знікнення яшчэ павялічваецца тым, што натоўп не складаецца толькі з цікаўных, а ў ім заўсёды хаваюцца

і злодзеі, якія наўмысна прыйшлі для крадзяжу».

У траўні савет звярнуўся да вядомых яму жыхароў горада (103 чал.) з прапановай паступіць у склад ахоўнікаў. 15 і 30 чэрвеня адбыліся пасяджэнні савета, дзе жадаючых стаць ахоўнікамі азнаёмілі з «Правіламі для ахоўнікаў», яны выбралі сабе начальнікаў са свайго асяроддзя, склалі тры атрады па частках горада, у якіх жылі. Ахоўнікаў забяспечылі нарукаўнікамі і вяроўкамі з петлямі і цынкавымі крукамі для ачаплення месца пажару, а начальнікаў ахоўнікаў — каляровымі фуражкамі і ўсіх іх — зоркамі для прымацавання да дзвярэй іх кватэр.



Ахоўнікі Віцебскага вольнага пажарнага таварыства (павялічаны фрагмент паштоўкі)

Лічба ахоўнікаў пастаянна расла. Калі ў 1886 г. было 57 чалавек, то праз два гады — ужо 88, а ў 1889 г. — 111. Але колькасць не пераходзіла ў якасць. У справаздачы за 1890 г. адзначаліся «вельмі буйныя недахопы», галоўны з якіх заключаўся ў тым, што з ахоўнікаў «на пажары з'яўляюцца толькі нямногія і ахоўныя ланцугі з іх амаль зусім не складаюцца». Пры гэтым выказвалася пажаданне «чакаць ад спадароў ахоўнікаў больш дзейнай спагады і дапамогі сваім суграмадзянам-пагарэльцам» .

Падчас пажару адрозніць ахоўнікаў, «якія павінны выносіць з пажарышча

ратуемую маёмасць або ахоўваць яе сваімі ланцугамі», ад простых абываценяў было сапраўды нялёгка: каляровыя фуражкі для начальнікаў і нарукаўнікі, відавочна, не дапамагалі. Тады і прыйшла думка выдаваць кожнаму ахоўніку спецыяльны знак, які можна было б прымацоўваць да адзення. Першая партыя іх была выраблена, напэўна, у 1889 г., бо ў справаздачы савета за гэты год паведамляецца, што «на набыццё новых значкоў для членаў аховы было выдаткавана 67 рублёў» і «расход на гэтыя значкі акупіцца платаю, якая ўносіцца за іх ахоўнікамі».




Знак ахоўніка Віцебскага вольнага пажарнага таварыства. З фондаў ВАКМ

Знак Віцебскага вольнага пажарнага таварыства выкананы з латуні, круглай формы, дыяметрам 35 мм. У цэнтры намаляваныя прадметы рыштунку пажарных: каска, лесвіца, сякера і кірка, а таксама вяроўка і шост, з дапамогай якіх ахоўнікі абгароджвалі месца пажару. Па краях знака зроблены надпіс: «Охранитель В. В. П. О.» («Витебское вольное пожарное общество»). Для лепшага адрознення знак насілі на спецыяльнай чырвонай шаўковай разетцы.

Экзэмпляр, які знаходзіцца ў фондах нашага музея, паступіў у пачатку 1920-х гадоў з прыватнага збору вядомага віцебскага калекцыянера Вацлава Пятровіча Федаровіча (1848–1911). У час Вялікай Айчыннай вайны экспанат быў вывезены ў Саратаў разам з часткай фондаў музея і вернуты адтуль 21 жніўня 1945 г.




# Самы стары храм з ваколіц Віцебска

Мікалай Півавар, канд. гіст. навук,
настаўнік у Віцебскім кадэцкім вучылішчы

Калі вы праязджаеце па пасёлку Лужасна на аўтобусе ці машыне, першае, на што вы, верагодна, звернеце ўвагу, будзе Узнясенская царква. Храм стаіць каля самай дарогі і прыцягвае ўвагу сваім незвычайным выглядам. Хаця сучаснікі яго незвычайным не лічылі, бо такіх самых, створаных па тыпавым праекце, толькі па Віцебскім павеце было некалькі. Што праўда, да нашых дзён захаваўся толькі лужаснянскі.



Узнясенская царква ў Лужасна. Фота Рамана Воранава

Насупраць, праз дарогу, на самым беразе Дзвіны знаходзіцца непрыкметны будынак, які быў узведзены на сто гадоў раней. Цяпер толькі спецыяліст, абапіраючыся на некаторыя архітэктурныя элементы, скажа, што некалі гэта быў храм — храм Узвіжання Крыжа Гасподняга. Найбольш верагодна, што гэта быў першы мураваны храм у Лужасна.

## УНІЯЦКІ ЛЁС

Узвядзенне каменнай царквы звязваюць з вайной 1812 г. Адпаведна паданню мясцовыя памешчыкі (па адным з варыянтаў — памешчыца) далі зарок, што калі французы не разрабуюць іх маёнткі, то яны пабудуюць храм у гонар ласкі

Божай. Па архіўных дакументах вядома, што ў 1815 г. памешчык Іосіф Енка ў Лужасна пабудаваў каменную капліцу пры пагосце (могілках).

Капліца была зусім невялікай і мела памеры 2 на 1,5 сажняў. Можам меркаваць, што пабудавана яна была ў барочным стылі. Мела ганак з калонамі, ламаны франтон, некалькі вокнаў. Дах быў крыты гонтай.



Былая ўніяцкая капліца, потым — царква Узвіжання Крыжа Гасподняга. Сучасны стан. Фота Рамана Воранава

Найбольш верагодна капліца была ўніяцкая. У 1839 г. адбыўся Полацкі царкоўны сабор, пасля якога ўніяцкую царкву далучылі да праваслаўнай. Эпізод таго, як у Лужасна адбываўся пераход з уніяцтва ў праваслаўе, апісаны ў мемуарах Максіміліяна Маркса «Запіскі старога». Падзеі якраз адбываліся каля царквы Узвіжання Крыжа:

«Вяртаючыся з экскурсіі ў Гарадоцкі павет, у вярстах сямі ці васьмі ад Віцебска каля сяльца Лужасна я быў спынены цэлай масай народу, якая гурталася каля карчмы, што стаяла пры дарозе, як звычайна ля царквы…

У каміклаўцы і епітрахілі з прычотнікамі выйшаў з царквы протаіерэй, і трохвуголкі і шапкі паляцелі з галоў. Пачалося казанне на царкоўнаславянскай мове, якую і ў дзясятай долі не разумелі выпраўнік і яго чыноўнікі, а астатнія слухачы не разумелі абсалютна нічога. <…> Дзіўнае было казанне, але яшчэ больш дзіўнае яго сканчэнне. “Вы, агнцы, якія вяртаюцца ў лона маці вашай — царквы, што заве вас, ідзіце па дзесную (правую — *М. П.*) руку, вы, казлішчы, якія застаюцца ў смрадных грахах сваіх і ва ўладзе сатаны і анёлаў яго, ідзіце па левую руку”. Чыноўнікі і прычотнікі кінуліся тлумачыць мужыкам і бабам, што трэба рабіць (тым, хто хоча перайсці ў праваслаўе, ісці направа, тым, хто хоча застацца ва ўніяцтве, ісці налева). Натоўп захваляваўся, і людзі пайшлі, хто направа, хто налева. Аднак, у хуткім часе тая частка натоўпу, якая ішла налева, памкнулася назад і пайшла за тымі, хто ішоў направа. Злева, непадалёк стаялі два вазы з розгамі, а каля іх некалькі паліцэйскіх соцкіх і дзясяцкіх з бліскучымі бляхамі на фуражках, а з правага боку дзве бочкі сівухі. Казанне займела поўны поспех, і абрачэнне атрымалася “мірным і з любоўю”».

# ФАСАДЫ, ВОКНЫ, НІШЫ

Памяшканне царквы было зусім маленькае, у ім маглі знаходзіцца адначасова толькі каля 40 чалавек. Вернікаў жа было больш за 1,5 тыс., таму ў 1862 г. капліца была перароблена. Яе памеры сталі 4 на 2,5 сажні (12,9 на 6,7 м). Цікава, што кошт будаўніцтва ўжо праваслаўнага храма ўскладаўся на мясцовых памешчыкаў, якія ў большасці былі каталікамі.



Царква Узвіжання Крыжа Господняга. Паўднёва-заходні бок.
Фота Рамана Воранава

Унутры храма быў перароблены іканастас, зроблены амвон, клірас для пеўчых, прытвор, 2 вакны, створаны рызніца, сені. Царква была перабудаваная ў стылі класіцызму. Некаторыя яго элементы можна ўбачыць і зараз. Дэкор сцен просты. Па вуглах будынка вылучаюцца паўкалоны, якія не маюць практычнай патрэбы, але з'яўляюцца элементамі дэкору. Фасады ўпрыгожаны франтонамі. Вокны без ліштваў. У алтарнай частцы будынка было створана светлавое вакно (цяпер закладзена цэглай), пад якім зрабілі нішу, дзе, верагодна, змяшчалася ікона. Зверху нішу пакрываў сандрык. Ікона, ці скульптура, верагодна ўпрыгожвала і цэнтральны франтон будынка. Па цэнтру будынка быў зроблены барабан з фальшывым купалам. Пры храме была аднаярусная званіца ў тры вянцы вышынёй 4 сажні з дзвюма ці трыма званамі.



Царква Узвіжання Крыжа Господняга, алтарная частка.
Фота Рамана Воранава

Перад царквой была плошча, выкладзеная брукаванкай. Цяпер гэтая пляцоўка пакрыта дзірваном з зялёнай травы. Аднак слой камянёў і зараз бачны на адхоне дарогі, што вядзе ў Віцебск.

## ХРАМ ЯК ЦЭНТР ЖЫЦЦЯ

На галоўнае храмавае свята Узвіжання Крыжа Господняга, якое святкуецца 14 (27) верасня, у Лужасна ладзіўся кірмаш. Прадавалі тут галоўным чынам сельскагаспадарчыя прадукты, прысмакі, жалезныя вырабы: сярпы, косы. Часам удзел у кірмашы бралі афені (дробныя гандляры, карабейнікі), якія гандлявалі біжутэрыяй і галантарэяй. Тавару за час кірмашу прадавалася не больш чым на 100 рублёў.



На пярэднім плане — уваход ва Узнясенскую царкву. Белы будынак далей — царква Узвіжання Крыжа Господняга. Фота Рамана Воранава

13–14 мая 1871 г. па шляху следавання ў Полацк у Лужаснянскім храме на адну ноч размяшчалася часціца мошчаў св. Еўфрасінні Полацкай [1].

«…А 5-й гадзіне пасля поўдня святыня паспяхова была прынесена ў сяло Лужасна і пастаўлена на стале сярод храма.

Па завяршэнні малітвы перад святымі мошчамі пачалося ўсяночнае трыванне, якое здзяйсняў мясцовы благачынны. Да набажэнства сабралася багамольцаў каля 500 душ, з парафій лужаснянскай, храпавіцкай і кабішчанскай. Па заканчэнні ўсяночнага трывання малітвы перад святымі мошчамі, па просьбе рознага звання асоб, адпраўляліся да 10ці гадзін вечара. Увесь гэты час лік багамольцаў пастаянна павялічваўся. У ліку іх усімі прысутнымі быў заўважаны расслаблены (безнадзейна хворы — *М. П.*) селянін, гадоў 19-ці, прывезены маці здалёк. Прыклаўшыся да святых мошчаў, ён адчуў сябе настолькі лепей, што на другі дзень сам мог прыходзіць да св. мошчаў і абразоў».

## «МАДЭРНІЗАЦЫЙНЫЯ» ПРАЦЭСЫ

Нават і перабудаваная царква не змяшчала ўсіх жадаючых. У вялікія святы ўнутр магло ўвайсці некалькі дзясяткаў чалавек, сотні іншых стаялі звычайна каля храма. На пачатку XX ст. пачынаецца будаўніцтва новага храма, якое было скончана ў 1908 г. Новы Пакроўскі храм (цяпер Узнясенскі) быў непараўнальна большым, і царква Узвіжання Крыжа страчвае сваё значэнне. Хутчэй за ўсё, яна выкарыстоўвалася як дапаможная пабудова пры галоўным храме. Будынак быў атынкаваны і пабелены. Дах пакрыты бляхай. Унутры мелася цагляная печ. На 1910 г. будынак ацэньваўся ў 1000 рублёў.



Узнясенская царква і царква Узвіжання Крыжа Господняга (белы будынак) у 1952 г. Фрагмент з фотаздымка Канстанціна Дурыхіна

У 1929 г. царква была закрыта па загаду Віцебскага райвыканкама «...з-за адмовы вернікаў ад рамонту будынка храма» і перададзена мясцоваму насельніцтву для разборкі на будаўнічыя матэрыялы. Аднак добры каменны будынак не зруйнавалі, а знеслі толькі верхнія часткі і прыстасавалі пад склад. Пасля Другой сусветнай вайны тут была зроблена лазня Лужаснянскага дзіцячага дома. Потым у ім створаны некалькі кватэр.

У кастрычніку 1999 г. адну частку будынка былога храма Узвіжання Крыжа Гасподняга, а ў 2008 г. і другую частку перадалі праваслаўнай царкве. Цяпер тут праводзяцца заняткі нядзельнай школы, а ў зімовы час — абрад хрышчэння. Насупраць, каля самой Дзвіны зроблена і добраўпарадкавана святая крыніца ў гонар прападобнага Серафіма Сароўскага. Да яе вядзе бетонная лесвіца з парэнчамі.

## НАПЯРЭДАДНІ 200-ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ

Крыжаўзвіжанская царква — сведка важнейшых гістарычных падзей у жыцці мясцовых людзей. Доўгі час храм з'яўляўся адзінай каменнай пабудовай у наваколлях. Сёння гэта адзіная канструкцыя з ваколіц Віцебска, якая дайшла да нашых дзён з пачатку XIX ст. Мясцовыя жыхары дасюль называюць царкву «мураванкай», гэта значыць — каменны будынак (мур на беларускай і нямецкай мовах — каменная сцяна). Храм быў настолькі ўкаранёны ў жыццё мясцовых беларусаў, што і сам пасёлак Лужасна на карце 1896 г. згадваецца пад назвай Мураванка.




Варыянты рэстаўрацыі царквы Узвіжання Крыжа Гасподняга мастака Аляксандра Аніськовіча. Барочны і класіцыстычны варыянты

На жаль, у 2008 г. навукова-метадычная рада пры Міністэрстве культуры Беларусі адмовіла ў наданні былой царкве статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці «ў сувязі са зменамі знешняга выгляду аб'екта». Сучасны стан сапраўды не адпавядае былому. Аднак асноўныя рысы класічнага і нават барочнага стылю захаваліся. Пры правядзенні належных рэстаўрацыйных

работ можна аднавіць храм у адным з варыянтаў, які ён меў на працягу XIX ст. Некалькі эскізаў па аднаўленні храма прапанаваў віцебскі мастак Аляксандр Аніськовіч.

[1] Принесение части святых мощей преподобной Евфросинии, княжны Полоцкой из Киева в Спасо-Евфросиниевский Монастырь. — Витебск: типография Г.А. Малкина, 1871. — С. 40–45




# Віцебск Васіля Быкава

Вольга Давідоўская,
галоўны захавальнік фондаў ВАКМ

У 2014 г. спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі, франтавіка, ураджэнца Віцебшчыны Васіля Быкава (1924 — 2003). Імя Быкава сёння вядома не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Яго творы, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны, займаюць асаблівае месца ў беларускай і сусветнай літаратуры.

На жаль, сёння ў Віцебску не так шмат месцаў, якія захоўваюць памяць пра славутага земляка. Адно з іх — абласны краязнаўчы музей, у зборы якога знаходзіцца асобны комплекс матэрыялаў, звязаных з жыццём і творчасцю Васіля Быкава. У 1983 г. супрацоўнікі музея пабывалі ў гасцях у пісьменніка, які ў той час жыў у Мінску. Вынікам сустрэчы стала папаўненне музейных фондаў асабістымі рэчамі Васіля Быкава, сярод якіх — швейцарскі наручны гадзіннік, шарыкавая ручка, якой карыстаўся Васіль Уладзіміравіч на пачатку 1980-х гг., арыгінальныя фотаздымкі ваеннага і пасляваеннага перыядаў, а таксама яго творы, перакладзеныя на галандскую, чэшскую, польскую мовы.



Наручны гадзіннік Васіля Быкава, 1980-я гг.
З фондаў ВАКМ

У 1990 г. сястра В. Быкава, Валянціна Уладзіміраўна, перадала для музея некаторыя рэчы хатняга ўжытку, якімі карысталіся ў сям'і пісьменніка, а таксама шэраг дакументаў. Каштоўную іх частку складаюць арыгінальныя лісты, якія

Васіль Уладзіміравіч дасылаў родным з фронту ў 1944–1945 гг. Змест лістоў традыцыйны для таго часу: агульная інфармацыя пра ход ваенных дзеянняў на фронце, клопат пра здароўе родных, блізкіх і знаёмых. Цікавасць выклікаюць малюнкі, якімі ілюстраваны некаторыя лісты.

Акрамя музея, ёсць у Віцебску яшчэ некалькі ўстаноў і будынкаў, якія маюць дачыненне да жыцця і творчасці В. Быкава. Побач з былой ратушай, на вул. Суворава, знаходзіцца 3-павярховы мураваны будынак з адметнай вежай і шпілем, дзе зараз размяшчаецца дзіцячая мастацкая школа. Многія ведаюць, што ў перадваенныя гады тут знаходзіліся вучэбныя класы і майстэрні Віцебскага мастацкага вучылішча. У 1939–1940 гг. у ім вучыўся Васіль Быкаў.



Былы будынак Віцебскага мастацкага вучылішча,
дзе ў 1939–1940 гг. вучыўся Васіль Быкаў

Пра Віцебск і гады вучобы ў горадзе на Дзвіне пісьменнік узгадвае ў сваёй кнізе «Доўгая дарога дадому»: «…Пасьля звыклага вясковага [Быкаў нарадзіўся ў в. Бычкі сённяшняга Ушацкага р-на Віцебскай вобл.] гарадское навакольле ўражвала незвычайна, усё там было новае і цікавае. Вузкія, крывыя, брукаваныя вулічкі, крамы… Віцебск уразіў мяне шматлюдзьдзем і… трамваямі. Зь некаторым страхам ехаў на трамваі ад вакзалу ў цэнтар. На плошчы віселі вялізныя каляровыя рэклямы кінатэатраў, недалёка высіўся

аграмадны сабор і вежа ратушы». Будынак вучылішча захаваўся ў памяці Быкава як «добры стары дамок буржуазнага выгляду з мазаічнай падлогай у вестыбюлі».



Былы будынак Віцебскага мастацкага вучылішча. Заходні фасад

Спачатку юнак вучыўся на аддзяленні малявання і жывапісу, потым перайшоў на скульптурнае. Скульптура давалася будучаму пісьменніку лёгка, але падабалася менш, чым жывапіс. «Курсавой работай стала фігура пагранічніка ў шынялі, зь вінтоўкай і біноклем каля вачэй».

Падчас вучобы Васіля Быкава ў Віцебскім мастацкім вучылішчы выкладчыкамі ва ўстанове працавалі такія вядомыя майстры, як Л. Лейтман, І. Ахрэмчык, В. Дзежыц, Ф. Фогт.

Увосень 1940 г. з-за скасавання стыпендый Быкаў вымушаны быў пакінуць вучобу і вярнуцца ў вёску, бо без грошай вучыцца і жыць у горадзе не было магчымасці… Так скончыўся першы «віцебскі перыяд» Васіля Быкава. Памяць аб ім захоўвае мемарыяльная дошка славутаму земляку, якая была ўстаноўлена на будынку былога мастацкага вучылішча ў 2008 г.




Мемарыяльная дошка Васілю Быкаву на былым будынку Віцебскага мастацкага вучылішча. Аўтары — віцебскія скульптары Валерый Магучы і Аляксандр Гвоздзікаў

Але быў яшчэ адзін непрацяглы перыяд пражывання Быкава ў Віцебску. У канцы 1940 г. Васіль Уладзіміравіч зноў прыехаў з вёскі ў горад, каб паступіць у навучальную ўстанову. Толькі на гэты раз зусім іншага напрамку. Шаснаццацігадовы юнак стаў вучнем школы фабрычна-завадскога навучання (ФЗН) будаўнікоў. Па ўспамінах Быкава, зіма 1940–1941 гг. «была надта сьцюдзёная, зь вятрамі і маразамі. Мы ж працавалі і вучыліся скрозь на сьцюжы…». Асабліва запомнілася будаўніцтва дома на Суражскай шашы (зараз вул. Гагарына): «…Я клаў вугал, для чаго патрэбны быў спрыт і галоўнае — дакладнае вока, каб не скрывіць. Бегалі грэцца ў суседні цэх чарапічнай фабрыкі, дзе было зацішней…» Дому, які будаваў Васіль Быкаў, не наканавана было захавацца. Як і самому Быкаву не наканавана было застацца ў Віцебску.

У чэрвені 1941 г. разам з іншымі выпускнікамі школы ФЗН пісьменнік апынуўся на Украіне, у горадзе Шостка, дзе яго і застала вайна…



Сёння гэта адна з «кананічных» выяў пісьменніка.
Восень 1944 г., Румынія. Фотакартка з фондаў ВАКМ

У дзеючай арміі Васіль Уладзіміравіч прайшоў складаны шлях ад радавога да камандзіра ўзводу армейскай артылерыі, зведаў усе выпрабаванні ваеннага ліхалецця, некалькі разоў быў паранены і застаўся жыць. Каб напісаць «Альпійскую баладу», «Трэцюю ракету», «Знак бяды», «Кар’ер» і шэраг іншых вядомых сёння твораў. Многія з іх экранізаваны, на аснове некаторых створаны тэатральныя пастаноўкі.




Афіша да спектакля паводле аповесці В. Быкава «Пакахай мяне, салдацік…». 1997 г. З фондаў ВАКМ

У ліку апошніх — аповесць «Пакахай мяне, салдацік», напісаная аўтарам у 1996 г. Напрыканцы 1990-х гг. аднайменная п'еса ў пастаноўцы В. Маслюка ішла на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Вядома, што Васіль Уладзіміравіч бываў у віцебскім тэатры. Напрыклад, у 1980 г. тут адбыўся творчы вечар пісьменніка (запрашэнне на імпрэзу — адзін з экспанатаў Віцебскага краязнаўчага музея).



В. Быкаў. Фрагмент рукапісу п'есы «Пакахай мяне, салдацік…». 1997 г. З фондаў ВАКМ

Васіль Быкаў мае дачыненне яшчэ да аднаго віцебскага музея, можа, нават адыграў не апошнюю ролю ў яго з'яўленні. Гаворка ідзе пра музей Марка Шагала. У час, калі ў грамадстве ішлі спрэчкі аб мэтазгоднасці адкрыцця ў Віцебску такога музея, Васіль Быкаў разам з Рыгорам Барадуліным, Алесем Адамовічам і іншымі пісьменнікамі рашуча выказаўся на старонках СМІ супраць нападак і крытыкі ў адрас мастака.

У 1988 г. В. Быкаў, А. Вярцінскі, Д. Сімановіч адправілі ў рэдакцыю газеты «Савецкая культура» ліст «О музее Марка Шагала в Витебске», у якім абгрунтавалі неабходнасць існавання такой установы культуры. Думаецца, што гэтае меркаванне таксама паўплывала на рашэнне аб стварэнні ў Віцебску Дома-музея М. Шагала, прынятае гарадскімі ўладамі ў 1991 г. Тады ж адбыліся першыя Усесаюзныя Шагалаўскія чытанні, на якіх прысутнічаў Васіль

Уладзіміравіч. А праз год пісьменнік быў у ліку тых, хто адкрываў на вуліцы Пакроўскай помнік Марку Шагалу. Напэўна, гэта быў адзін з апошніх візітаў В. Быкава ў Віцебск.



Дом-музей Марка Шагала ў Віцебску

У 2003 г., калі Васіля Уладзіміравіча не стала, прадстаўнікі Віцебскай абласной рады «Таварыства беларускай мовы» выступілі з прапановай перайменаваць абласную бібліятэку імя Леніна ў бібліятэку імя Быкава. Тады ж была выказана думка аб адкрыцці ў Віцебску музея Васіля Быкава. Але далей прапаноў справа не пайшла. Хочацца спадзявацца, што ў Віцебску ўсё ж з'явіцца не толькі бібліятэка імя В. Быкава, але і вуліца яго імя.




# Маўра Чэрская: віцебскія гады

Валерый Шышанаў, намеснік дырэктара ВАКМ

У біяграфіі жонкі і паплечніцы выдатнага геолага, географа, даследчыка Сібіры Яна Дзяменцьевіча Чэрскага (1845–1892) — Маўры Паўлаўны Чэрскай (у дзявоцтве — Івановай, 1857–1940) — ёсць перыяд, пра які нямногае можна даведацца нават з работ, спецыяльна прысвечаных гэтай неардынарнай жанчыне. Аповед звычайна абрываецца на яе пераездзе пасля смерці мужа з Пецярбурга ў Віцебск (як мяркуецца — у 1894 г.) і аднаўляецца з моманту пераезду ў Растоў-на-Доне ў 1935 г. [1] Саракагадовы прабел запаўняецца толькі скупымі звесткамі, запазычанымі з успамінаў М.П. Чэрскай, якія былі запісаныя ў 1925 г. і апублікаваныя ў 1956 г. [2] Але і пры публікацыі была выключана напоўненая горыччу фраза: «І вось мне ў 69 гадоў даводзіцца гібець па прычыне старасці і няздольнасці да фізічнай працы, жывучы выключна на той даход, які можна атрымаць пры старэчай слабасці» [3].

Тым не менш у Віцебску захаваўся дом, з якім звязаныя апошнія гады знаходжання Маўры Паўлаўны ў нашым горадзе, — гэта будынак клуба для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі «Востраў Надзеі» па адрасе вуліца Чайкоўскага, 10 (раней — Лабазная). У 1920-я гг. у будынку размяшчаўся Дом глуханямых, затым — дзіцячы сад.



Будынак па адрасе вул. Чайкоўскага, 10 у Віцебску. Тут у 1920-х гадах пражывала Маўра Чэрская. Стан на 2006 г. Фота аўтара

Пачаткам пошуку стала выяўленне ў Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці (ДАВВ) «уласнаручнай заявы былой памешчыцы Маўры Паўлаўны Чэрскай» у «Справе аб рэгістрацыі былых памешчыкаў і асоб, якія займалі адказныя пасады пры царскім урадзе» [4]. У заяве Чэрская сцісла распавядае пра сябе, заслугі свайго мужа і крыху падрабязней, чым ва ўспамінах 1925 г., спыняецца на віцебскім перыядзе:

«<…> вярнулася з 10 гадовым сынам у Пецярбург, маючы ўсіх зберажэнняў 1500 р. і 2 вялікія залатыя медалі, паднесеныя мужу Акадэміяй за яго навуковыя працы, не маючы іншых сродкаў на існаванне і слабае здароўе. Акадэмія з вялікай цяжкасцю дабілася для мяне пенсіі ў 33 р. 33 к. (у месяц. — *В. Ш.*). На гэтыя сродкі ясна было, што жыць у Пецярбургу і выхоўваць сына немагчыма, то я, змясціўшы сына ў Пецярб<ургскую> гімназію, стала аддаваць яму ўсю пенсію, а сама паехала ў Віцебск, асцерагаючыся зрасходаваць рэшту зберажэнняў. Мне ўдалося купіць пляц зямлі з разбуранымі дамамі на ўскраіне. Тут далучыўся да мяне далёкі сваяк мужа, сын палітычнага М.Ф. Загорскі, зусім глухі, які меў невялікія сродкі, і пабудаваў на маім пляцы новы дом, адрамантаваўшы разбуранае. З тых часоў на працягу 13 гадоў мы працавалі разам, карыстаючыся крэдытам ад людзей, якія верылі нам і далі нам магчымасць прывесці свае дамы ў прыстойны выгляд. Нарэшце, у 1911 г. мы абмянялі свае дамы на фальварак Казімірава Аршанскага павета Высачанскай воласці 180 дзес. кепскай зямлі і прынялі 10 тыс. р. банкаўскага доўгу. Купчая была зробленая на маё імя па прычыне таго, што Загорскі па законах не меў права набываць землі. <…> Сваякоў у мяне ніякіх тут няма, адзіны сын Аляксандр Іванавіч Чэрскі па заканчэнні ўніверсітэта ў 1909 г. быў кансерватарам музея ва Уладзівастоку, а потым з'ехаў на Камандорскія астравы. З тых часоў больш за 10 гадоў я ніякіх вестак пра яго не маю, а жонка яго, Марыя Мікалаеўна Чэрская, з сынам знаходзіцца ў Гарадку, дзе яна з'яўляецца загадчыцай дзіцячага сада Ліпкі».

Як паведамляецца ва ўспамінах М.П. Чэрскай, да 1925 г. яе нявестка М.М. Чэрская пераехала ў Оршу, дзе працавала прэпаратарам у сельскагаспадарчым музеі. А сын Аляксандр Іванавіч Чэрскі загінуў у 1921 г. на Камандорскіх астравах.

У 1918 г. Маўры Паўлаўне пакінулі 6 дзес. зямлі, і можна было б лічыць, што для яе ўсё шчасліва абышлося. Але, на жаль, яшчэ не раз пажылой жанчыне давядзецца паўтараць свой аповед.



Будынак па адрасе вул. Чайкоўскага, 10
у Віцебску. Стан на 2013 г. Фота аўтара

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь выяўлена сведчанне таго, што М.П. Чэрская знаходзілася пад пагрозай высялення з сядзібы пасля выхаду пастановы ЦВК і СНК БССР ад 31 студзеня 1925 г. «Аб высяленні памешчыкаў, якія жывуць у гаспадарках, што належалі ім да выдання Закона аб зямлі 26.X.1917 г.». У пратаколе пасяджэння Цэнтральнай камісіі па высяленні былых памешчыкаў пры Народным камісарыяце земляробства БССР ад 15 жніўня 1925 г. паведамляецца:

«<Слухалі:> заяву гр. Чэрскай — муж і сын — навукоўцы, загінулі на навуковай працы, сама был. прыслуга, выйшла замуж за Чэрскага, калі ён быў сасланы ў Сібір. <Пастанавілі:> Пастанову Акруговай камісіі адмяніць» [5].

У кастрычніку 1929 г. у лісце да вучонага сакратара Камісіі Акадэміі навук па вывучэнні Якуцкай АССР Паўла Уладзіміравіча Вітэнбурга Маўра Паўлаўна апісвае свае прыгоды ў 1925 г.:

«<…> даводзілася самой старой, мне ўжо 75 гадоў [6], хворай і слабой, ехаць у Мінск і хадайнічаць асабіста, і Мінск мяне не пакінуў, але колькі мне давялося пераражыць пакут, грошай не хапіла на зваротны шлях, знаёмых у мяне ў Мінску няма, прыходзілася трое сутак прасіць на вуліцы, бо за № няма чым было заплаціць. З сялянамі я жыла ў самых лепшых адносінах, пры высяленні мяне яны склалі паперу з самым лепшым водгукам пра мяне. Прасілі пакінуць мяне, бо я ім карысная пастаянна, даглядаю за хворымі, і гэтую паперу с/с адмовіўся засведчыць, але ў Мінску ўсё ж такі прынялі і без подпісу с/с, і з таго моманту ўвесь час мне не дае спакою мясцовая ўлада, па-рознаму прыцясняючы <…>» [7]



Маўра і Ян Чэрскія. Фота 1891 г.

З пачаткам у 1929 г. палітыкі «суцэльнай калектывізацыі» і «ліквідацыі кулацтва як класа» М.П. Чэрская была прылічана да асоб, якія ў схаванай форме эксплуатавалі парабкаў, а таму, адпаведна, падлягалі індывідуальнаму абкладанню. Падставай для гэтага паслужыла тое, што, не маючы магчымасці самастойна апрацоўваць зямлю, Маўра Паўлаўна прыняла ў члены двара беззямельнага селяніна. Але паколькі сама 72-гадовая «памешчыца» была фактычна непрацаздольнай, увесь цяжар падатку лёг бы на «парабка» — Фёдара Матусевіча. Захаваўся акт допыту гэтага селяніна, у якім ён даказваў непасільнасць для яго індывідуальнага падатку і лічыў неабходным «Чэрскую М., як асобу, што не прымала ў работах па гасп-цы ніякага ўдзелу, а таксама і двух названых мною іншых такіх жа членаў яе сям'і выключыць з гэтай гасп-кі»[8].

Члены раённай падатковай камісіі прымаюць усё ж кампрамісную пастанову:

«Прымае пад увагу сацыяльнае становішча гаспадаркі і залічаных батракамі членаў двара, якія фактычна з'яўляюцца гаспадарамі і кіруюць апошнім, што датычыцца г-кі Чэрскай дык яна драхла і атрымлівае пэнсію, з прычыны чаго у гаспадар. не можа прымаць належнага ўдзелу, па гэтаму індывід. вучот адмяніць як супрэчашчы законадаўству на гэты конт, вучоў в звычайным парадку» [9].

Паказанні Ф. Матусевіча, верагодна, сталі асновай для нататкі, што знеслаўляла Маўру Чэрскую, апублікаванай 16 кастрычніка ў газеце «Віцебскі пралетар», аўтар якой заклікаў райвыканкам «звярнуць увагу на выхадкі Чэрскай»[10].

У роспачы Маўра Паўлаўна зноў звяртаецца па падтрымку у Акадэмію навук да П.В. Вітэнбурга. У лісце ўдава славутага навукоўца апісвае свае жыццёвыя цяжкасці:

«<…> У той час, як я набыла хутар, праўда, хоць ён быў не ў бліскучым стане, але я з усяе сілы старалася падтрымаць яго, але з тае пары, як уступіў у гаспадарку Фёдар Матусевіч, то я ўжо не магла гаспадаркай кіраваць і гаспадарка ішла да разрухі, сама не ведаю чаму: ці яго недасведчанасць, ці ўжо проста нядбайнасць. Вось як, напрыклад, калі пойдзе дождж, то ў кватэры даводзіцца ўвесь посуд збіраць, каб падставіць супраць дзюр у даху, і не ведаеш, куды паставіць ложак, каб ён не замок, і ў дадатак ўжо хутка 2 гады, як труба завалілася, і ён чакае, каб я прыехала з горада і паставіла; надворныя пабудовы, хлеў, свіран у такім жа стане.

Не гледзячы на такое разбурэнне сельсавет прызначыў падаткаў у гэтым годзе больш за 100 рублёў, і я вельмі непакоюся, каб усе гэтыя падаткі не ўсклалі на мяне, паколькі я лічуся да гэтага часу гаспадыняй двара.

Улічваючы вышэйпададзенае, мяне вельмі засмучае, што ўвесь гэты паклёп кладзецца на мяне, якая носіць імя нябожчыка Чэрскага, ніколі нічым не заплямленага, таму мне хацелася б расследаваць гэта ў законным парадку <…>.

Шаноўны Павел Уладзіміравіч, Вы мяне прабачце, што я абцяжарваю Вас такім доўгім лістом, але я скарысталася Вашай прапановай і хацела апісаць усё маё становішча, у якім я зараз знаходжуся.

Са шчыраю пашанай і глыбокай павагай, М. Чэрская. Лістапада 1 дня 29 г. Адрас мой: Лабазная № 10.» [11]



Маўра Чэрская. Фота пачатку 1920-х гг. (?). Змешчана ў выданні: Якутия. Сборник статей. Л.: Изд. Акад. Наук, 1926

У канцы студзеня 1930 г. зноў аднаўляецца справа аб індывідуальным абкладанні Маўры Паўлаўны, і 1 лютага 1930 г. на пасяджэнні прэзідыума Высачанскага райвыканкама прымаецца рашэнне абкласці Чэрскую падаткам ў індывідуальным парадку [12]. На сходзе беднаты 21 лютага 1930 г. прагучалі выступленні ў абарону былой памешчыцы, але іх не прынялі да ўвагі, і Маўра Паўлаўна была раскулачана [13].

І ўсё ж у М.П. Чэрскай знайшліся абаронцы, якія пайшлі іншым шляхам. 3 мая 1930 г. у Наркамат рабоча-сялянскай інспекцыі БССР паступіла адносіна загадчыка бюро расследаванняў рэдакцыі «Нашай газеты», якая выдавалася ў Маскве, з просьбай правесці расследаванне па матэрыяле, што быў дасланы ў газету. Аўтар, прозвішча якога рэдакцыя не раскрывала, назваў свой артыкул «Гісторыя аднаго галавацяпства» і пасля расповеду пра заслугі сям'і Чэрскіх заклікаў да справядлівасці:

«Абуральнае стаўленне. З аднаго боку ўрад СССР у падзяку за навуковыя заслугі цэлым мясцінам прысвойвае імя «Чэрскага», з другога боку мясцовыя галавацяпы хочуць выселіць у гэтыя ж мясцовасці сям'ю гэтага ж Чэрскага, г.зн. туды, дзе яна паклала столькі працы і энергіі па даследаванні і дзе страціла ўсё, што было так каштоўна для яе, — мужа і сына…» [14]

І бюракратычны апарат закруціўся ў адваротны бок. У адказ на хадайніцтва Маўры Паўлаўны на пасяджэнні 25 мая 1930 г. Прэзідыум ЦВК БССР прыняў рашэнне аднавіць М. Чэрскую ў выбарчых правах, праве на атрыманне пенсіі і прапанаваў Віцебскаму акруговаму выканкаму даць распараджэнне мясцовым органам вярнуць Чэрскай асабістыя рэчы, якія не маюць дачынення да вядзення сельскай гаспадаркі [15].



Мясцовая жыхарка А.Ф. Драбцова на месцы былога маёнтку Казімірава ў сучасным Віцебскім раёне. Фота Л. Ляшчовай, травень 1999 г.

Малох рэпрэсій адно абпаліў М.П. Чэрскую. Пра далейшае яе жыццё ў Віцебску ў 1930-я гг. нам нічога невядома. У 1935 г. разам з нявесткай і ўнукам Маўра Паўлаўна пераехала ў Растоў-на-Доне. Апошнія месяцы жыцця М.П. Чэрскай прайшлі ў Таганрогу ў Доме састарэлых навукоўцаў, дзе яна памерла 18 снежня 1940 г.

У выніку аналізу планаў зямельных участкаў суседзяў М.П. Чэрскай, выяўленых у віцебскім абласным архіве, удалося лакалізаваць маёнтак Казімірава ў ваколіцах вёскі Шапечына Віцебскага раёна [16]. Сакратар сельсавета Н.А. Мастыкова і мясцовыя старажылы дапамаглі вызначыць размяшчэнне сядзібы на мясцовасці ў двух кіламетрах ад Шапечына, уніз па цячэнні ракі Сухадроўкі. Там былі выяўленыя развалы камянёў і цэглы старога вырабу, якія выступалі з зямлі. Тэрыторыя сядзібы распахана. Ручай, што ўпадае ў Сухадроўку непадалёк, мясцовыя жыхары да гэтага часу называюць «Чэрскі».

[1] Зарин В., Зарина Е. Первые русские женщины-путешественницы // Вокруг света. 1951. № 3. С. 44–45; Зарин В., Зарина Е. Путешествие М.П. Черской. М., 1952; Гурвич С.С. Последние годы М.П. Черской // Известия Всесоюзного Географического общества. 1955. Т. 87. Вып. 4. С. 363–364; Гурвич С.С. Они были на Дону. Ростов н/Д., 1960. С. 38–47.
[2] Черский И.Д. Неопубликованные статьи, письма и дневники. Иркутск, 1956. С. 300–309.
[3] Пецярбургскі філіял Архіва Расійскай Акадэміі навук (далей — ПФА РАН), ф.47, воп.1, спр.114, арк.36 адв.
[4] Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (далей — ДАВВ), ф. 1651, воп. 1, спр. 10, арк. 28–29. Апублікавана з выпраўленнем арфаграфіі і пунктуацыі: Шишанов В.Я. Мавра Черская… // Віцебскі рабочы. 1998. № 191-192. 29 снежня. С. 4.
[5] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 517, арк. 99 адв.
[6] У некаторых дакументах сустракаюцца памылкі ва ўказанні ўзросту М.П. Чэрскай. Гл., напрыклад: ДАВВ, ф. 1651, воп. 1, спр. 10, арк. 28 адв.
[7] Ліст М.П. Чэрскай П.В. Вітэнбургу. Адзначана як уваходнае 8 кастр. 1929 г. (ПФА РАН, ф. 47, воп. 1, спр. 184, арк. 119).
[8] ДАВВ, ф. 591, воп. 2, спр. 191, арк. 3–4.
[9] ДАВВ, ф. 591, воп. 2, спр. 191, арк. 2.
Захаваны арфаграфія і пунктуацыя арыгінала.
[10] Липовые «трудовые хозяйства» // Віцебскі пралетары. 1929. № 239. 16 кастрычніка. С. 4.
[11] ПФА РАН, ф. 47, воп. 1, спр. 184, арк. 121 і адв.
[12] ДАВВ, ф. 591, воп. 2, спр. 191, арк. 7.
[13] ДАВВ, ф. 591, воп. 1, спр. 230, арк. 130 адв.–131.
[14] ДАВВ, ф. 10073, воп. 3, спр. 244, арк. 124–130 адв.
[15] ДАВВ, ф. 591, воп. 1, спр. 88, арк. 253.
[16] ДАВВ, ф. 71, воп. 4, спр. 12, арк. 12, 13.




# Кароткая гісторыя Тарнага пасёлка

Наталля Шнэр, магістрантка Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта

Мікраераён Тарны малавядомы сярод гараджан. Дабірацца да яго складана — ходзяць толькі аўтобусы №№ 3, 11 і 20, дый тое рэдка. Вядомасць не параўнаць, скажам, з Маркаўшчынай, якая знаходзіцца зусім побач, толькі праз Дзвіну.

Ведаюць пра Тарны ў асноўным таму, што там ёсць футравы камбінат, гарадскія ачышчальныя збудаванні і дзесьці побач мясакамбінат. Назву растлумачыць як след ніхто не можа. Пасёлак з малазразумелым найменнем зусім малады — у 2014 г. споўніцца толькі 80, але гісторыя яго значна больш даўняя.

## ЦЯЛЯТНІКІ

Назва пасёлка Тарны з'явілася толькі ў сярэдзіне 1930-х гг. Да гэтага было сяло Цялятнікі. Пакуль удалося даведацца, што ўпершыню сяльцо Цялятнікі згадваецца ў «Эканамічнай заўвазе Віцебскага павета» 1784 г. Сяльцо разам з вёскамі (у адрозненне ад вёскі сяльцо мела царкву) Вераб'ёва, Шавелкі, Паўлавічы, Луцікава, Рудакова, Башкова, Ступішчы, Якушова, Камарова належала ўдаве генерала Чорба — Настассі Сцяпанаўне Чорбе (Чорбавай).



Тарны. Агульны выгляд

Удава жыла ў драўляным гаспадарскім доме. Сяльцо складалася з 68 двароў, у якіх пражывала 366 мужчын і 379 жанчын. Генералісе дасталася

добрая спадчына — 1995 дзесяцін зямлі, гэта пры ўмове таго, што селяніну для вядзення добрай гаспадаркі трэба было мець як мінімум 8 дзесяцін.

## БАРАЦЬБА ЗА ЎРАДЖАЙ

У першай палове XIX ст. Цялятнікі перайшлі Фёдару (Фрыдрыху) Гернгросу, нашчадку нямецкага шляхецкага роду, удзельніку Сямігадовай вайны (1756–1763), ротмістру рускага войска. Пра ягоную дзейнасць у Цялятніках мала што вядома. Але пра ягонага сына Радыёна — нашмат больш. Ён аказаўся дбайным гаспадаром, адным з першых увёў у сваім маёнтку шасціпольны севазварот, пачаў вырошчваць новую на той час культуру — бульбу. Мала таго — загадаў, каб ягоныя прыгонныя сяляне таксама вырошчвалі яе.



Тарны. Агульны выгляд

Земляробы спачатку адмовіліся расціць бульбу. Памешчык прымушаў рабіць пасадкі гэтай звычнай цяпер тэхнічнай культуры, але на полі не было бачна нават парасткаў. Б.А. Цалінскі ў сваім «Аглядзе некаторых маёнткаў Магілёўскай і Віцебскай губерняў» так апісаў сітуацыю.

«– Чаму ў вас бульба не расце? — здзіўлена пытаў генерал у прыгонных.

– Як хочаш, паночак, а бульбе не расці на нашай зямлі, — адказвалі сяляне. Яны лічылі бульбу "чортавым яблыкам" і не хацелі яе вырошчваць. Пасля пасадкі клубняў сяляне адкопвалі іх і ў бліжэйшай карчме аддавалі "пра-

клятыя яблыкі” за кварту гарэлкі. Даведаўшыся пра гэта, Гернгрос загадаў надрэзаць кожную бульбіну на чатыры часткі, для таго каб, як тлумачыў ён сялянам, пазбавіцца “д’ябальскага ўздзеяння”, якое як быццам і было прычынай неўраджаю. Тады сяляне перасталі “выбіраць парэзаныя клубні з зямлі, і неўзабаве ўбачылі на сваіх палях буйна квітнеючую бульбу, а потым і самі пачалі яе разводзіць”, пазнаўшы ўсю выгаднасць вырошчвання культуры, ураджайнасць якой у некалькі разоў перавышала ўраджайнасць збожжа. Так бульба стала ў маёнтку “другім хлебам”».

## АД МАЁНТКА ДА САЎГАСА

На пачатку ХХ ст. Цялятнікі сталі належаць Міхаілу Львовічу Карташову. Аднак справы ён вёў няўдала і хутка частка зямель маёнтка была закладзена ў Віленскі зямельны банк, а потым распрададзена за нявыплату пазыкі. Большую частку зямлі выкупілі мясцовыя сяляне, мяшчане ці самастойна, ці ўтварыўшы «таварыствы гаспадароў».

На 1906 г. Цялятнікаўскаму сельскаму таварыству належала 14 вёсак: Валчкова, Ганькава, Мядвёдкі, Калінкі, Паўловічы, Луцікі, Фаершчына, Башкі, Камары, Якушы, Ступішча, Рудакі, Лучоса (паравоз), Драніцы. Дваранін М.Л. Карташоў заставаўся яшчэ немалым маёмаснікам. Яму належалі маёнтак Цялятнікі, былая карчма Дабрэйка, вадзяны млын пры той жа карчме і засценак Разоўка. Само сяло Цялятнікі знаходзілася ва ўласнасці Епархіяльнага ведамства.



Тарны. Школа №24

Той мікраараён Тарны, што мы цяпер ведаем, быў вымежаваны ў 1911 г. з маёнтка Цялятнікі і атрымаў назву Новыя Цялятнікі. Пасля Кастрычніцкага перавароту новая ўлада пачынае пераўтварэнні. Цялятнікі пераходзілі з рук у рукі розных савецкіх устаноў, а з сакавіка 1920 г. на аснове маёнтка Верхнія і Ніжнія Цялятнікі быў утвораны саўгас (савецкая гаспадарка) і арганізавана малочная ферма (з мэтай атрымання малака для лячэбных і дзіцячых устаноў).

# ЗАКЛЁПКА НА ШЧЫЦЕ РАДЗІМЫ

Аднак гаспадарка аказалася нерэнтабельнай. У сярэдзіне 1930-х гг. частка зямель маёнтка была перададзена пад будаўніцтва тарнага камбіната. Тара — рэчы, матэрыялы, якія выкарыстоўваюцца для забеспячэння захавання і перавозкі тавараў і сыравіны. Тарай могуць быць бутэлькі, банкі, скрыні, кашы́, пакункі, пакеты і іншыя прыстасаванні.

На тарным камбінаце, створаным на месцы былога маёнтка Новыя Цялятнікі, выраблялі спецыяльную тару для снарадаў: адмысловыя драўляныя скрыні для іх перавозкі і захавання. Рабілі тут і дзежкі. Хутка вакол завода ўтварыўся пасёлак, была пабудавана нафтабаза. Так Тарны стаў невялікай, але важнай часткай абароннага шчыта СССР, які актыўна будаваўся ў 1930-я гг. як частка палітыкі індустрыялізацыі.



Тарны. Былы КПП вайсковай часткі ў Зялёным гарадку

У першыя дні вайны будынак камбіната і частка дамоў аказаліся знішчанымі. Дасюль спрачаюцца — ці то ад нямецкай бамбардзіроўкі, ці то іх спецыяльна ўзарвалі і падпалілі адступаючыя савецкія войскі. У час акупацыі на тэрыторыі пасёлка дзейнічалі дзве антыфашысцкія падпольныя групы В. Шалуха і П. Вішнеўскага.

# ТАРНЫ БЕЗ ТАРЫ, ЛЮДЗІ БЕЗ ПРАЦЫ

Пасля вайны тарны камбінат не аднаўлялі. Яго лёс паўтарылі многія прадпрыемствы горада. Няма ўжо акулярнай, шчаціннай, ільнопрадзільнай фабрык. Апошняя, між іншым, была першай і буйнейшай у Беларусі да кастрычніка 1917 г. Прадпрыемства не стала, але пасёлак застаўся. Дамы адбудавалі рабочыя, што вярнуліся з эвакуацыі, а працаваць пайшлі на іншыя прадпрыемствы горада: “КІМ”, маслаэкстракцыйны завод, дывановы камбінат, шаўкаткацкую фабрыку, ЦЭЦ. На жаль, да іх было цяжка дабірацца — практычна ўсе прадпрыемствы знаходзяцца быццам і недалёка, але на іншым беразе Дзвіны.



Тарны. Гарадскія ачышчальныя збудаванні

Для перавозкі жыхароў была адноўлена паромная пераправа. Аднак паром хадзіў толькі два разы на дзень, а ў час ледаходу ўвогуле не працаваў. Натуральна, што даводзілася карыстацца паслугамі лодачнікаў. Яны стараліся зарабіць чым больш і так нагружалі лодкі, што нярэдкімі былі няшчасныя здарэнні. Аднойчы на сярэдзіне ракі перавярнулася лодка з жаніхом, нявестай і іх гасцямі. Пасля гэтага было дазволена пераходзіць цераз Дзвіну па чыгуначным Жлобінскім мосце. Аўтамабільна-пешаходны мост быў пабудаваны толькі ў 1978 г.

## АД ПАСЁЛКА ДА МІКРАРАЁНА

У 1953 г. Тарны пасёлак, у якім ужо не было тарнага камбіната, уключылі ў межы горада. Але людзі практычна працягвалі жыць па-старому. Істотныя змены адбываюцца з ростам горада ў 1970-я гг. У Тарны перанеслі шэраг прадпрыемстваў: у 1967 г. — ачышчальныя збудаванні, у 1973 г. — мясакамбінат, у 1975 г. — футравы камбінат імя М.А. Еўсцігнеева. Тут пабудавалі некалькі новых жылых дамоў, інтэрнат для працаўнікоў футравага камбіната. Палепшылася транспартнае становішча — у пасёлак стаў хадзіць аўтобус № 11.

Яшчэ ў сярэдзіне 1920-х гг. разам з будаўніцтвам Тарнага камбіната побач, у Зялёным гарадку, была размешчана вайсковая частка. Да вайны тут месціліся кавалерысты. Пасля дэсантнікі, потым сувязісты, потым расейскія вайскоўцы,

потым батальён унутраных войскаў. Са скарачэннем войска на пачатку 1990-х гг. войскі былі выведзены. Затое жыхарам і гораду дасталася некалькі дамоў і казарм. Дамы заселены, а казармы дасюль пустуюць.



Тарны. Сучасная забудова

З 1995 г. у пасёлку пачалі вылучаць надзелы пад індывідуальную забудову. Паўстаў катэджны пасёлак, пабудавалі некалькі пяціпавярховікаў. З'явіліся новыя вуліцы і завулкі. Яшчэ ў 1989 г. замест 1-й, 2-й, 7-й, 8-й Жданава з'явіліся вуліцы Беліцкага, Тувалава, Гурынава, Даніленка і іншых салдат-ураджэнцаў Віцебска, якія загінулі ў Афганістане. Назвы іншых вуліц адлюстроўваюць усе этапы жыцця нашай краіны ў складзе СССР: ад завулка Парыжскай Камуны да вуліц Дружбы, Прафсаюзнай, Навасёлаў, Світальнай, Зарэчнай, Яснай, Ягаднай, Яблыневай, некалькі Прыбярэжных. У 2010–2012 гг. у Тарным пабудаваны яшчэ 7 пяціпавярховых дамоў.



# ВІЦЕБСК: ПАПУЛЯРНАЕ МІНУЛАЕ

## Miasto Witebsk

Мікалай Півавар, канд. гіст. навук,
настаўнік у Віцебскім кадэцкім вучылішчы

У скверы на вуліцы Будзёнага, насупраць былога завода «Камінтэрн», ёсць мемарыяльны знак польска-савецкаму сяброўству. Яго аўтарамі з’яўляюцца скульптар І. Місько, архітэктары В. Рыбакоў і Б. Сідарэнка.

На бронзавай шыльдзе, якая прымацавана да валуна, змешчана выява дзвюх чатырохкутных зорак і надпіс на рускай мове: «Знак польско-советской дружбы». Ніжэй інфармацыя аб тым, што знак створаны за кошт сродкаў, зробленых на суботніках працоўнымі Чыгуначнага раёна г. Віцебска. Думаецца, што працоўныя нашага горада і не здагваліся, што яны так моцна сябруюць з палякамі, хаця пэўныя сумы са сваіх заробкаў адлічвалі на сяброўства не толькі з нашымі заходнімі суседзямі, але і з сальвадорскім, ангольскім і самалійскім народамі.

## ГОРАД БЯСПЕЧНАГА СЯБРОЎСТВА

За доўгае XX ст. адносіны да Польшчы ў нашых палітычных правадыроў змяняліся ад негатыўных — «панская краіна» і прыгнятальнікі беларусаў у нашых заходніх землях — да дэкларацыі сяброўства і прамых яго праяўленняў. Так, якраз у Віцебску ў 1988 г. прайшоў фестываль польскай песні. Знак польска-савецкага сяброўства паўстаў менавіта ў межах святочных мерапрыемстваў.




Іна Афанасьева спявае па-польску на віцебскім фестывалі ў 1990 г. www.youtu.be/v5_GU_OuY4M

Але чаму Віцебск стаў горадам, дзе праводзіўся такі фестываль? Больш лагічным было б правядзенне яго ў месцы з кампактным пражываннем палякаў — Гродне, Брэсце, Ваўкавыску. Але ў «польскіх» гарадах такі фестываль толькі б падкрэсліваў «іншыя» традыцыі краю, звяртаў увагу на значны польскі складнік насельніцтва. Віцебск, верагодна, таму і стаў горадам савецка-польскага сяброўства, што польскасці тут амаль не засталося.




Гледачы ў віцебскім амфітэатры падчас фестываля польскай песні.
Фота з сайта www.poliklet.livejournal.com

На выбар таксама паўплываў і той факт, што сталіца Падзвіння была пабрацімам Зялёнай Гуры — горада ў Польскай Народнай Рэспубліцы (ПНР), дзе з 1965 г. праводзіўся фестываль савецкай песні. Яго арганізатарамі выступалі Міністэрства культуры і мастацтва, Міністэрства народнай адукацыі, таварыства польска-савецкага сяброўства і іншыя ведамствы, установы, грамадскія арганізацыі. На той момант гэта быў самы буйны музычны форум у ПНР і адна з папулярнейшых культурных падзей у краінах сацыялістычнага лагера.

## «АДКУЛЬ ЁСЦЬ ПАЙШЛА» КУЛЬТУРНАЯ СТАЛІЦА

Рашэнне арганізаваць фестываль у Віцебску стала важным штуршком, які вырашыў лёс горада на дзесяцігоддзі. Рэч у тым, што ў горадзе не было сцэнічнай пляцоўкі, якая б падыходзіла для правядзення падзеі такога маштабу. Пабудаваць яе трэба было за год.



Віцебскі амфітэатр. Фота Сержука Серабра

Першапачаткова рэспубліканскае кіраўніцтва не верыла ў тое, што за такі малы тэрмін у Віцебску атрымаецца стварыць пляцоўку, і планавала правядзенне фестывалю ў Мінску, у Палацы спорту. Аднак за 8 месяцаў спецыяльна для фестывалю польскай песні быў узведзены летні амфітэатр.

Адмыслова для свята пачалі шукаць праявы братэрскага сяброўства. У адпаведнасці з пастулатамі савецкай ідэалогіі ў мінулым іх было знайсці цяжка (панская краіна, прыгнятальнікі беларусаў, клерыкалы-цемрашалы і г. д.). Знайшлі ў сучаснасці.

У межах фестывалю непадалёку ад знака сяброўству быў усталяваны помнік савецка-польскаму касмічнаму экіпажу. На пастаменце — бюсты касманаўтаў: беларуса Пятра Клімука і паляка Міраслава Гермашэўскага. Раней на стэле знаходзіліся некалькі бронзавых зорачак і подпісы касманаўтаў, але яны зніклі ў эпоху перабудовы.






Злева: помнік касмічнаму экіпажу беларуса Пятра Клімука (злева) і паляка Міраслава Гермашэўскага ў скверы на вул. Будзёнага.
Справа: знак польска-савецкага сяброўства там жа

Да фестывалю планавалася стварыць музей савецка-польскага сяброўства. Аднак у вызначаны тэрмін не ўправіліся, тым часам фармат мерапрыемства змяніўся, і мары пра экспазіцыю не спраўдзіліся. А што магло быць прадстаўлена ў тым музеі? Некаму можа падацца, што ў нашым зрусіфікаваным горадзе не знойдзецца ніводнага польскага следа ад сівой мінуўшчыны да сённяшніх часоў. Але гэта далёка не адпавядае рэчаіснасці.

## ПОЛЬСКІЯ СТАРОНКІ Ў МІНУЛЫМ

Роля Віцебска ў гісторыі абодвух народаў заўважная. Менавіта на польным сойме пад Віцебскам у 1563 г. шляхта ВКЛ, збіраючыся на вайну з Маскоўскім царствам (знаную як Лівонская, ці Інфлянская, ці Полацкая вайна), выказала сваё жаданне ўтварыць супольную дзяржаву — Рэч Паспалітую абодвух народаў. Унія была заключана ў Любліне ў 1569 г., і па 1795 г. беларусы, літоўцы, украінцы і палякі жылі ў адной дзяржаве.

Улетку 1812 г., калі Напалеон вырашыў застацца ў Віцебску, ён планаваў заняцца справамі былой Рэчы Паспалітай і завяршыць ваенную кампанію. Французскі імператар дазволіў аб'яднацца рускім арміям генералаў Барклая дэ Толі і Баграціёна пад Смаленскам. Камандуючы польскімі легіёнамі Панятоўскі таксама раіў імператару ісці не на Маскву, а накіравацца на Украіну, дзе правесці зіму, а ў 1813 г. канчаткова разбіць Расію. Але ўрэшце Напалеон не паслухаў Панятоўскага і змяніў планы. Чым скончыўся для імператара паход у Расію, усе добра ведаюць.




Вокладка літаратурна-краязнаўчага зборніка «З ваколіц Дзвіны» Вацлава Федаровіча (Віцебск, 1912). Справа — адна з шафаў у віцебскім Музеі Вацлава Федаровіча (ілюстрацыя з выдання В. Brežgo «Muzea witebskie», 1926)

І пасля ўваходу Віцебска ў склад Расійскай імперыі польскія традыцыі тут, як і па ўсёй Беларусі, заставаліся вельмі моцнымі. Большасць шляхты і інтэлігенцыі знаходзілася ў сферы ўплыву польскай культуры. Да 1839 г. мовай навучання ў Віцебскай гімназіі (цяпер будынак мужчынскага праваслаўнага духоўнага вучылішча па вул. Крылова, 7) была польская.

Дзейнасцю інтэлігенцыі прапольскага кірунку ў горадзе ў другой палове XIX ст. кіраваў выдатны калекцыянер В.П. Федаровіч. Ён з'яўляўся ініцыятарам і заснавальнікам дабрачыннага Каталіцкага таварыства ў Віцебску. Па яго ініцыятыве быў выдадзены літаратурна-краязнаўчы зборнік на польскай мове «З ваколіц Дзвіны» (Віцебск, 1912). У 1917 г. калекцыя В.П. Федаровіча была нацыяналізавана, а ў 1923 г., улічваючы спецыфіку збору, на яго аснове быў створаны «Музей Беларуска-Польскіх старажытнасцей».



Касцёл Святога Антонія. Фотаздымак часоў Другой сусветнай вайны

У Расійскай імперыі месцамі, якія ядналі польскую дыяспару ў Віцебску, з'яўляліся касцёлы. Кафедральным быў касцёл Святога Антонія. У свой час ён так спадабаўся рускаму пісьменніку І. Буніну, які наведваў Віцебск, што той прысвяціў яму верш, які так і назваў — «Касцёл».

У савецкія часы храм закрылі і стварылі ў ім музей атэізму. А пасля вайны і ўвогуле разбурылі. Цяпер на месцы касцёла фантан — скульптурная кампазіцыя «Злучэнне рэк Віцьба, Лучоса і Дзвіна». Пра палякаў нагадваюць помнікі на могілках у горадзе і наваколлях.

# НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

У другой палове 1980-х гг. на адпачынак у наваколлі Віцебска прыбывала шмат палякаў. У піянерскіх лагерах былі цэлыя змены, на якіх адпачывалі польскія піянеры — харцэры.

У 1992 г. у Віцебску было ўтворана абласное аддзяленне Грамадскага аб'яднання «Саюз палякаў на Беларусі». Першапачаткова гэта былі 7 чалавек, якія збіраліся на сяброўскія вячэры, спявалі польскія песні. Сіламі энтузіястаў было зарганізавана выкладанне польскай мовы, чытанне лекцый на гістарычную тэматыку.



Былыя памяшканні Польскага дома ў Віцебску

Са жніўня 2001 г. у доме № 2 па Кастрычніцкім праездзе дзейнічаў Польскі дом. Пры ім працавалі Таварыства польскіх мастакоў, Таварыства польскіх дактароў, Таварыства навуковых работнікаў, Клуб жанчын, Таварыства спартоўцаў, Клуб аматараў польскага кіно. Кожную суботу праводзіліся музычныя заняткі. Для аматараў паэзіі працаваў літаратурна-паэтычны гурток. Пры ўстанове мелася бібліятэка.

Па пэўных прычынах у доме № 2 на Кастрычніцкім праездзе больш няма Польскага дома. Тут плануецца стварыць музей гісторыі адукацыі ў Віцебскім рэгіёне.




Помнік першаму Папе-славяніну і паляку Яну Паўлу ІІ

Нагадаем, што адным з самых слаўных рымскіх пап у гісторыі каталіцкай царквы быў паляк Ян Павел ІІ. Помнік яму ўсталяваны каля касцёла Езуса Міласэрнага на вуліцы Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28.

Яшчэ адна памятка пра братэрскае сяброўства — рэстаран «Зялёна Гура». Але меню са стравамі польскай кухні вы там не знойдзеце.

## ВЫБІТНЫЯ АСОБЫ ПОЛЬСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Польскамоўныя асобы пакінулі істотны след у гісторыі і культуры горада. Прыгадаем тых, у гонар каго варта паставіць мемарыяльныя шыльды. У 1612 г. у в. Падбярэззе каля Віцебска нарадзіўся Ян Антоній Храпавіцкі, аўтар вядомага «Дыярыуша». У в. Тадуліна Віцебскага павета ў 1739 г. нарадзіўся Анджэй Агінскі — бацька славутага кампазітара, дыпламата, палітычнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага.

У Віцебску ў першай палове XIX ст. вучыўся вядомы польскі паэт-рамантык Тадэвуш Лада-Заблоцкі (1811–1847). Наколькі паэт любіў родны край, выразна бачна з чуллівых радкоў ягоных вершаў, прысвечаных Віцебску і наваколлям. Адпраўлены ў высылку на Каўказ, у творах ён будзе звяртацца да роднага краю, які ніколі больш не пабачыць.

  

Злева направа: Анджэй Агінскі, Аляксандр Рыпінскі, Тадэвуш Лада-Заблоцкі

У в. Кукавячына Віцебскага павета ў 1811 г. нарадзіўся паэт, фальклярыст, кнігавыдавец, мастак Аляксандр Рыпінскі, аўтар даследавання «Białoruś. Kilka słów o poezji prostego ludu…» (1840).

У культурнай прасторы горада добра было б больш ярка паказаць прысутнасць, гісторыю сувязей і ролю інтэлігенцыі «польскай культуры» ў развіцці краю, адзначыць мемарыяльнымі дошкамі, памятнымі знакамі, экспазіцыяй у абласным краязнаўчым музеі ці стварэннем музея беларуска-польскай даўніны, запрашэннем мастакоў, музыкаў, спевакоў, інвестараў. А шыльдамі такімі варта было б адзначыць след, які пакінулі ў гісторыі і культуры горада найбольш цікавыя асобы.

* * *

Вяртаючыся да фестывалю польскай песні, нагадаем, што ён быў праведзены толькі двойчы: у 1988 і 1990 гадах. Аднак мерапрыемства стала добрай школай для кіраўніцтва горада і аддзела культуры ў правядзенні святаў высокага ўзроўню.

І калі савецка-польскае сяброўства з развалам Савецкага Саюза стала неактуальным, на аснове амфітэатра быў арганізаваны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», які надаў новы імпульс культурным традыцыям горада і зрабіўся важнейшай падзеяй года ў культурным жыцці краіны. Таму, думаецца, віцябляне могуць быць удзячныя Польшчы за тое, што горад стаў «культурнай сталіцай» Беларусі, хаця большасць і беларусаў, і палякаў пра гэта нават не здагадваюцца.



# ВІЦЕБСК: ПАПУЛЯРНАЕ МІНУЛАЕ

## Лёс мастака пад акупацыяй

Аркадзь Падліпскі, журналіст,
віцебскі гісторык-краязнаўца

Уладзімір Хрусталёў (1896–1954) належаў да найстарэйшага пакалення вядомых беларускіх мастакоў. Некаторыя яго работы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі і шырока вядомыя. Гэта перш за ўсё «Канстанцін Заслонаў» (1950), «Канцэрт лесасплаўшчыкаў на Дзвіне» (1940), «Вяртанне партызан з аперацыі» (1945), «Від Віцебска» (1927), «У пошуках маці» (1947), «Зіма» (1952), «Вясна» (1936) і інш.

На Віцебшчыне вучань Б. Кустодзіева з'явіўся ў 1919 г. — адразу пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў у Петраградзе. У горадзе Веліжы, які адносіўся тады да Віцебскай губерні, ён пачаў выкладчыцкую дзейнасць у мастацкай школе. У 1926 г. У. Хрусталёў пераехаў у Віцебск і стаў выкладаць у мясцовым мастацкім тэхнікуме. Сярод яго вучняў было нямала добра вядомых у рэспубліцы мастакоў. З 1947 г. і да заўчаснай смерці Уладзімір Якаўлевіч выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы. А паміж гэтымі падзеямі была Вялікая Айчынная вайна, якую мастак перажыў у акупаваным Віцебску.



У. Хрусталёў. Канстанцін Заслонаў. 1950 г.

Гэта была «цёмная» пляма ў яго біяграфіі , бо да ўсіх, хто апынуўся на акупаванай ворагам тэрыторыі, у пасляваенны час было вельмі насцярожанае стаўленне. Хто ведае, можа быць менавіта гэта і прывяло да таго, што таленавіты мастак і дасведчаны педагог пайшоў з жыцця так рана: усяго ў 57 гадоў.

Нядаўна мне ўдалося выявіць дакументы, якія расказваюць менавіта пра віцебскі перыяд жыцця У. Хрусталёва. Гэта яго асабістая справа, якая захоўваецца ў фондзе гарадской управы Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці. Адносіцца яна да 1943 г.




Будынак па адрасе вул. Суворава 7/8

Апынуўшыся ў акупаваным фашыстамі Віцебску, мастак вымушаны быў думаць пра хлеб надзённы не толькі для сябе, але і для двух сваіх малалетніх дзяцей: на пачатку вайны сыну было 5 гадоў, дачцэ — 3 гады. Утрох яны жылі ў кватэры № 9 дома № 29 на Траецкай вуліцы (цяпер — Куйбышава). Таксама некаторы час Хрусталёў жыў у доме з сучасным адрасам вул. Суворава 7/8.

Уладзімір Якаўлевіч заняўся тым , што ён умеў рабіць і што з'яўлялася яго прафесіяй. Каб пазбегнуць якіх-небудзь абвінавачванняў у лаяльнасці да новых уладаў, ён пісаў толькі партрэты і пейзажы. Праўда, як ён адказваў на пытанне аб кантынгенце абслугоўвання, былі гэта ў асноўным «немцы, рэдка насельніцтва горада».

Вельмі малая колькасць дакументаў «Асабістай справы» не дазваляе дастаткова поўна апісаць жыццё мастака У. Хрусталёва ў акупаваным Віцебску. Пра сёе-тое даводзіцца меркаваць гіпатэтычна. Напрыклад, пра тое, што напісаннем партрэтаў і пейзажаў ён займаўся з лета 1941 г. , не маючы на

гэта спецыяльнага дазволу (патэнта). Высветлілася гэта 24 сакавіка 1943 г., калі фінансавы інспектар гарадской управы рабіў абыход жыхароў свайго ўчастку і «выявіў мастака за працай — зімовым пейзажам». Праз тры тыдні, 15 красавіка, акт аб гэтым склаў памочнік інспектара. У ім паведамляецца, што У. Хрусталёў «займаецца ў сябе дома мастацкай работай без патэнта і рамеснай карткі».



У. Хрусталёў. Канстанцін Заслонаў дае заданне

Падобнае парушэнне правілаў пагражала даволі суровым пакараннем, у лепшым выпадку штрафам... Але мастака нават не аштрафавалі. Відаць, паўплывала тое, што ён «усё гэта робіць для нямецкай часткі на аэрадроме, там, дзе і працуе». У. Хрусталёву тэрмінова, у той жа дзень, афармляюць патэнт, за што ён выплачвае пошліну ў памеры 100 рублёў.

Далей у «Справе» прыводзіцца некаторая інфармацыя, якая патрабуецца для фінансавага кантролю. У. Хрусталёва прымушаюць заплаціць падатак за ўвесь перыяд, які ён займаўся «мастацкімі работамі», гэта значыць з пачатку 1943 г., хоць пэўна ён гэтым займаўся і значна раней. Але ў фінансавых работнікаў няма ніякіх доказаў, а сам мастак у гэтым не прызнаецца. Таму падатак аплачваецца толькі з пачатку 1943 г.

За першы квартал жывапісец дэкларуе абарачэнне ў памеры 3070 рублёў, чысты прыбытак — у 2100 рублёў. А вось ужо за другі квартал даецца больш

поўная справаздача. Па-першае, У. Хрусталёў паведамляе час, неабходны для выканання работ: на партрэт памерам 30х40 см — 24 гадзіны, на партрэт памерам 50х30 см — 28–30 гадзін. Для таго, каб напісаць пейзаж памерам 50х30 см, яму патрабавалася 30 гадзін, на пейзаж памерам 70х50 см — 40 гадзін.



У. Хрусталёў. Вяртанне партызан з аперацыі. 1945 г.

Па-другое, у гэтай жа справаздачы прыводзяцца звесткі і пра кошт мастацкіх работ. Партрэт памерам 30х40 см прадаваўся за 300 рублёў, партрэт памерам 40х50 см — за 350 рублёў. Столькі ж адпаведна каштавалі пейзажы памерам 50х30 см і памерам 70х50 см. Мастак паведамляе, што арэнда памяшкання (гэта значыць яго жыллё) яму абыходзіцца ў 45 рублёў, а матэрыялы, неабходныя для працы, ён набывае на рынку. Валавы даход за 2-гі квартал склаў 5745 рублёў, а чысты — 2585,5 рублёў.

Мяркуючы па тым, што «Справа» У. Хрусталёва скончана летам 1943 г. і справаздачы за 3-ці квартал у ёй ужо няма, мастак восенню таго ж года сам з'ехаў з Віцебска ці быў вывезены немцамі. Пацвярджаецца гэта яшчэ і тым, што ў Мінску ён з'явіўся толькі ў 1947 г. Мабыць, праходзіў нейкі час праверку пасля вяртання на радзіму. А паколькі мастаку дазволілі педагагічную дзейнасць у Мінскім мастацкім вучылішчы, відаць, ніякіх матэрыялаў, якія б кампраметавалі яго, выяўлена не было. Прыклад Уладзіміра Хрусталёва толькі пацвярджае агульнавядомы факт: хто не хацеў супрацоўнічаць з акупантамі, цалкам мог без гэтага абысціся і выжыць.




# Старыя аптэкі і аптэкары

Іна Абрамава,
віцебскі гісторык і краязнаўца

Аптэкі — ўстановы старадаўнія. Пасля крыжовых паходаў яны з’явіліся ў Еўропе, а затым і на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, дзе першая аптэка адкрылася ў Пінску ў 1561 г., а праз некалькі гадоў — у Брэсце.

У Віцебску арганізацыя аптэк звязана з дзейнасцю айцоў-езуітаў. Іх рэзідэнцыя, якая ўключала касцёл, манастырскія келлі, знаходзілася ў цэнтры горада (цяпер плошча Свабоды). А крыху ніжэй да Віцьбы ўзрабляліся аптэкарскія агароды, дзе раслі ўсялікія лекавыя расліны. Шматлікія мікстуры, адвары, скрыначкі з травянымі зборамі прыцягвалі ўвагу наведвальнікаў езуіцкай аптэкі.



Муры былога езуіцкага кляштара і касцёла св. Іосіфа на цяперашняй плошчы Свабоды. Здымак 1860-х гг.

Аднак росквіт і пік развіцця аптэкарскай справы ў нашым горадзе адносіцца да канца ХХ ст. Найбольш папулярнымі ў гараджан былі аптэкі Рэйдэмейстара і Ульрыха.

Аптэка Рэйдэмейстара першапачаткова знаходзілася на вуліцы Сувораўскай. З часам аптэка пашыралася і ў рэшце рэшт перасялілася ў новы будынак на скрыжаванні вуліц Задуноўскай і Гогалеўскай. Гэтае збудаванне перажыло шмат выпрабаванняў і было вядома ў горадзе як будынак фармфака медінстытута.



Шэраг жоўтых будынкаў факультэта фармакалогіі
на пл. Свабоды. Тут і знаходзілася аптэка Рэйдэмейстара. Здымак 1965 г.

На вуліцы Вакзальнай (цяпер Кірава) можна было купіць лекі ў аптэцы Ульрыха. Роберт Ульрых нарадзіўся ў Ліфляндыі, у 1878 г. скончыў Дэрпцкі (цяпер Тарту) універсітэт. Выбраўшы для сваёй дзейнасці горад Віцебск, Роберт не пралічыўся. Тут ён сустрэў сваё каханне — дачку аптэкара Карла Познэра Соф'ю.

Атрымаўшы ў пасаг аптэку, Роберт зрабіў усё, каб яна стала самай вядомай і папулярнай у Віцебску. У аптэчнай установе Ульрыха можна было не толькі купіць неабходныя лекі, але і выпіць шкляначку мінеральнай вады, якую выраблялі на невялікім заводзіку з салянай рапы вядомых еўрапейскіх мінеральных крыніц. Роберт Ульрых быў натурай схільнай да навуковай дзейнасці і пачаў даследаванне флоры Віцебскага краю. Ён абышоў лясы і палі прыгараднай мясцовасці ў пошуках лекавых раслін. Кожную сабраную расліну ён старанна вывучаў, апісваў месца знаходкі і афармляў у гербарый.




Аптэка на вул. Вакзальнай (цяпер — Кірава). Паштоўка пач. XX ст.

Жонка Р. Ульрыха, Сафія, была вядомая ў Віцебску сваёй дабрачыннасцю. Яна ўтрымлівала на свае сродкі і патраніравала дзіцячы сад і вучылішча. Соф'я Карлаўна была выхаванкай віцебскай Марыінскай гімназіі і славілася як жанчына вельмі адукаваная. Менавіта таму настаўніцкі склад для сваіх навучальных устаноў яна падбірала вельмі старанна. Выхаванцы вывучалі нямецкую мову, арыфметыку, рускую літаратуру і мову, закон Божы.

У сям'і Ульрыхаў існаваў культ адукацыі. Усе дзеці атрымалі выдатную хатнюю адукацыю. І гэта невыпадкова, бо іх хатнім настаўнікам быў Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі, тады яшчэ 30-гадовы выкладчык гімназіі, а ў далейшым вядомы пісьменнік і фальклярыст. Дзеці з любоўю называлі яго мілым настаўнікам.




Будынак на вуліцы Кірава (былая Вакзальная) нездалёк ад месца, дзе знаходзілася аптэка Роберта Ульрыха

Згодна з заведзенай традыцыяй шматлікае сямейства Ульрыхаў летам выязджала на лецішча ў Малыя Лётцы. Дарослыя і дзеці шумна засяляліся ў два дамы, і пачынаўся доўгачаканы адпачынак. Прагулкі па лесе, купанне ў рэчцы чаргаваліся з урокамі музыкі, пісьма, арыфметыкі. Урокі прыносілі дзецям вялікае задавальненне, бо праходзілі не ў душных пакоях, а ў лесе, дзе сталамі і крэсламі былі пень ды мяккая духмяная трава. А вечарамі ладзіліся спектаклі, «жывыя» карціны, сюжэтамі якіх былі байкі Крылова, казкі Андэрсана. Часам пасля спектакля ў летняе неба запускалі яркі феерверк. Увечары, накрыўшыся прасцінаю, са свечкаю ў руках, юныя дачнікі маглі палохаць суседзяў, зазіраючы ў цёмныя вокны бліжэйшых дамоў.

Не забывалі і аб працы на свежым паветры. Кожны з дзяцей даглядаў градкі з кветкамі або гароднінай. Было нават спаборніцтва — у каго будзе самы лепшы ўраджай. У канцы жніўня завяршалася вясёлае лета. Пагрузіўшы няхітры скарб, Ульрыхі вярталіся ў горад да сваіх звычайных заняткаў. А дзеці ж марылі пра скарэйшы надыход наступнага лета… Але ніхто не мог і ўявіць, якія выпрабаванні выпадуць на долю кожнага з гэтых шчаслівых і любімых бацькамі дзяцей.




Аптэка Вайнкопа на рагу цяперашніх вуліц Савецкая і Леніна. Паштоўка пач. XX ст. Сёння тут месціцца жылы будынак са сталоўкай на першым паверсе

У 1917 г. сямейства Ульрыхаў было вымушана пакінуць Віцебск і пасяліцца ў маленькай Салтыкоўцы, што пад Масквой. Прывезеныя з Віцебску мэбля, кнігі, фотаздымкі нагадвалі пра бесклапотнае і спакойнае мінулае, дарэвалюцыйнае жыццё.

Ядвіга Ульрых (1884–1914) скончыла віцебскую гімназію. За актыўны ўдзел у гады І сусветнай вайны ў пацыфісцкім руху была абвешчаная вар'яткай і адпраўлена ў дом для псіхічна хворых, дзе і памерла.

Павел Ульрых (1886–1960) скончыў гімназію і стаў доктарам. Працаваў у Віцебску і Маскве.

Марыя Ульрых (1890–1964) пасля заканчэння гімназіі вучылася спевам у Італіі. Да 1941 г. пражывала ў Ленінградзе, адкуль як немка была дэпартавана ў Мардовію. У 1953 г. пераехала да сваякоў у Маскву і працавала хатняй прыслужніцай.

Ірма Ульрых (1895–1930) вучылася ў гімназіі, а затым на Вышэйшых агранамічных курсах у Петраградзе. Памерла ад эклампсіі цяжарнасці.

Соф'я Ульрых (1897–1943) пасля заканчэння гімназіі з'ехала ў Ленінград, дзе і памерла падчас блакады.

Алена Ульрых (1900–1960) таксама вучылася ў гімназіі. У пачатку 1920-х гадоў захварэла і стала інвалідам. У 1941 г. была дэпартаваная ў Казахстан, затым у Башкірыю. У 1953 г. прыехала ў Маскву, дзе і жыла на пенсію.

Віктар Ульрых (1903–1936) паспяхова скончыў гімназію ў Віцебску. Затым пасля заканчэння Інстытута Чырвонай прафесуры ў Ленінградзе выкладаў у гэтым жа інстытуце. У 1936 г. быў арыштаваны і расстраляны як вораг народа. Рэабілітаваны 28 мая 1957 г.




ВІЦЕБСК:
ПАПУЛЯРНАЕ
МІНУЛАЕ

# Консульства Латвіі ў савецкім Віцебску

Максім Каралёў, старшы выкладчык кафедры сацыяльна-гуманітарных навук Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта

Калі ідзеш па вуліцы Багдана Хмяльніцкага ў Віцебску, то перад адным з будынкаў можаш заўважыць лунаючыя сцягі Латвіі і Еўрасаюза. Гэта — Консульства Латвійскай Рэспублікі. Увагу прыцягвае і натоўп людзей побач, які стаў звычайным апошнім часам, бо латвійскае прадстаўніцтва пачало выдаваць жыхарам Прыдзвіння візы ў Польшу і некаторыя іншыя краіны.

Пасля распаду СССР і ўзвядзення "меж гранічных" з'яўленне дыпламатычных місій па-за сталіцай не было нечым дзіўным, асабліва ў тых абласцях, якія мяжуюць з "візавымі краінамі". Аднак не ўсе віцябляне ведаюць, што Консульства Латвіі працавала ў нашым горадзе і раней — з 1925 па 1932 гг.

## ВІЦЕБШЧЫНА ЛАТЫШСКАЯ

Трэба сказаць, што ў другой палове XIX ст. адбывалася масавае перасяленне латышоў з этнічнай радзімы ў іншыя рэгіёны Расійскай імперыі. Звязаны гэты працэс быў з адменай прыгоннага права. На выбар беларускіх губерняў латышамі ўплывалі як геаграфічная блізкасць, так і наступствы паўстання К. Каліноўскага. Перасяленцы прынеслі сюды перадавыя спосабы вядзення сельскай гаспадаркі, а таму, арэндуючы ці выкупляючы даволі часта няўдобіцы, латышы здолелі хутка стварыць тут моцныя калоніі (невялікія пасяленні не больш 50 двароў, прычым некаторыя з іх уяўлялі сабой пэўнае згуртаванне хутароў, што знаходзіліся ў 1–2 км адзін ад аднаго).

Новая хваля міграцыі была выклікана пачаткам Першай сусветнай вайны, калі на беларускія землі эвакуіравалі некаторыя прадпрыемствы з прыбалтыйскіх губерняў, а таксама з'явілася значная колькасць бежанцаў.




Сучасная рэзідэнцыя Латвійскага консула
ў Віцебску на вул. Багдана Хмяльніцкага, 27а. Фота 2013 г.

Падпісанне мірнай дамовы з Латвіяй 11 жніўня 1920 г. дэ-юрэ замацоўвала прызнанне РСФСР гэтай прыбалтыйскай рэспублікі. Артыкул 19 згаданай дамовы прадугледжваў наладжванне дыпламатычных адносін паміж бакамі.

У гэты час актуальным стала пытанне грамадзянства. Так званы перыяд аптацыі (па назве працэса, які пачынаўся пасля хадайніцтва пэўнай асобы аб атрыманні грамадзянства) расцягнуўся на некалькі гадоў. У выніку сотні чалавек прынялі грамадзянства Латвіі і выехалі на этнічную радзіму. З другога боку, значная колькасць прадстаўнікоў самых розных нацыянальнасцей (у тым ліку і латышоў-камуністаў) прасілі прыняць іх у грамадзянства БССР–СССР.

Па прыблізных падліках на пачатак 1925 г. на савецкай частцы сучаснай Віцебскай вобласці пражывала больш за 12,5 тысяч латышоў. Жылі яны пераважна ў сельскай мясцовасці. “Гарадскія” латышы працавалі ў савецкіх і партыйных органах, у сілавых структурах, на чыгунцы і прадпрыемствах. На той час у Віцебскай і Полацкай акругах працавала 9 латышскіх школ, у Віцебску дзейнічаў Латышскі клуб і латышскі дзіцячы дом. У Віцебску, Полацку і Оршы пры акруговых камітэтах КП(б)Б былі створаны і дзейнічалі латбюро, якія былі пакліканы каардынаваць нацыянальную палітыку савецкай дзяржавы сярод латышоў. Вось у такіх умовах у Віцебску пачало сваю работу Консульства Латвійскай Рэспублікі.

## ПЕРШЫ КОНСУЛ У ВІЦЕБСКУ

Адкрыццё Консульства Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску адбылося ў сакавіку 1925 г., калі ў горад прыбыў Эрнэст Гіргенсонс — першы латвійскі консул. Сам ён нарадзіўся ў 1891 г. у Рызе. З пачаткам Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў царскую армію. У 1916 г. яго воінская адзінка была перакінута ў Францыю на дапамогу саюзнікам Расіі па Антанце. Там Гіргенсонс быў узнагароджаны Ордэнам Ганаровага легіёну. На Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919 г. працаваў ваенным аташэ латвійскай дэлегацыі. За асабістыя здольнасці быў заўважаны Міністэрствам замежных спраў Латвіі і пакліканы на дыпламатычную службу. Першым прызначэннем для Э. Гіргенсонса стаў Віцебск.




Манета ў 2 латы, адбітая якраз у год заснавання першага Латвійскага Консульства ў Віцебску

Месцілася Консульства па вуліцы Ніжне-Пятроўская, будынак 29 (прыкладна сучаснае скрыжаванне вуліц Камсамольская і Кірава, д. 12). Галоўнай задачай консула была дапамога суайчыннікам па розных пытаннях, якіх у першае дзесяцігоддзе савецкай улады было дастаткова. Гэта і атрыманне грамадзянства, і вываз маёмасці ў Латвію ці, наадварот, з яе ў БССР, і пацвярджэнне стану, і многае іншае.

З усталяваннем мяжы ўзрасла колькасць крымінальных спраў за яе парушэнне. Знаходзячыся пад пагрозай высылкі ў лагеры, некаторыя латвійскія падданыя шукалі дапамогі ў дыпламатаў. Таксама Консульства рабіла візы грамадзянам, якія збіраліся наведаць Латвію. Агульны штат дыпмісіі складаў усяго тры чалавекі — апрача консула гэта былі сакратарка Гэрміна Апман і адказная па гаспадарцы Паўліна Лінынь.

Мясцовыя ўлады з падазрэннем адносіліся да Консульства, а таму за ім і ўсімі, хто наведваў дыпмісію, быў усталяваны пільны нагляд. Штомесяц Консульства павінна было дасылаць у замежны стол акрвыканкама звесткі пра асабісты склад дыпмісіі (нават калі ніякіх змен не адбывалася), якія таксама штомесяц перасылаліся ўпаўнаважанаму Народнага камісарыята замежных спраў і ў Замежны аддзел НКУС. Пашпарты супрацоўнікаў, як і ўсіх прыбываючых замежных грамадзян, рэгістраваліся ў акрвыканкаме, дзе вызначаўся тэрмін знаходжання ўладальніка пашпарта на савецкай тэрыторыі. Звычайна гэты тэрмін не перавышаў трох месяцаў, хаця нарматыўна прадугледжваліся гадавыя візы.


АНКЕТНЫЙ ЛИСТ ДЛЯ ОФИЦИАЛЬНОГО КОНСУЛЬСКОГО ПЕРСОНАЛА

ИНОСТРАННЫХ КОНСУЛЬСТВ.

НАЗВАНИЕ КОНСУЛЬСКОГО УСТАНОВЛЕНИЯ

КОНСУЛЬСТВО ЛАТВИЙСКОЙ РЕСПУБЛИКИ В ВИТЕБСКЕ.

1. Фамилия, имя и отчество — ГИРГЕНСОН, Эрнест Яковлевич

2. Гражданство, год и место рождения, профессия. — Латвийское, г. Рига 1891 г., Дипломат.

3. Занимаемая должность — Консул Латвийской Республики в Витебске.

4. Укажите когда прибыли из заграницы, через какой пограничный пункт, каким Полпредом СССР визирован паспорт и № визы, или какие имеются документы, удостоверяющие гражданство, кем выдан, когда и №. — Прибыл 28. марта 1925 г. через Себеж, виза № 415232 Генерального Консула СССР в Риге от 23. марта с.г.

5. Бывали ли в России, где именно и когда, по каким делам и чем занимались. — Не бывал.

6. Точный адрес и № телефона, домашний и служебный. — Домашний и служебный адрес: Консульство Латвийской Республики в Витебске Н.-Петровская № 29, телф. № 4-41.

Подпись заполняющего анкету на русском языке . . . . . . . . . . Гиргенсон

на родном языке . . . . . Girgensons

Подпись скрепляется печатью

"26" . ноября . . . 1925. г.

LATVIJAS KONSULATS VITEBSKĀ

Анкетны ліст Эрнэста Гіргенсонса. Публікуецца ўпершыню. ДАВВ. Ф. 118, воп. 5, спр. 10, арк. 327

Пра тое, які нагляд існаваў за латвійскім Консульствам, яскрава сведчыць службовая запіска загадчыка замежнага стала Віцебскага АВК Канановіча, скіраваная Упаўнаважанаму Контрразведвальнага аддзела 27 лістапада 1925 г. (стыль захаваны):

"Лістапада 26-га дня. З пакетам ад Консульства з'явіўся кур'ер, пра якога паведамлялася. У размове з апошнім высветлена наступнае: што ён з'яўляецца сынам дворніка таго дома, дзе жыве Консул, што ён на службе ў яго не знаходзіцца, а бацька яго за кожную асобную паслугу атрымлівае ад яго ўзнагароду. Высветліць прозвішча кур'ера не атрымалася, але апошні засведчыў, што ён Консульства не наведвае, а яго бацька часам бывае там, але пры той ці іншай неабходнасці — выканання даручэнняў іх выклікаюць праз Сакратара ці прыслугу Консульства. Згаданы кур'ер носіць скураныя пальчаткі, відавочна падараваныя Консулам, бо яны выглядаюць не расійскай вытворчасці, але ў размове апошні адмаўляе іх атрыманне ад Консульства і кажа, што гэтыя пальчаткі набыты ім яшчэ да вайны".

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, крыху больш чым за год работу Консульства ўдалося наладзіць.

## САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ, СЯБРА Л. ТАЛСТОГА І ЗАСТУПНІК СЯМ'І І. РЭПІНА

У ліпені 1927 г. Э. Гіргенсонса на пасадзе консула замяніў Герман Пунга, бадай, адзін з самых выбітных латвійскіх дыпламатаў міжваеннага часу. Нарадзіўся ён у 1877 г. Удзельнічаў у сацыял-дэмакратычным руху, за што быў зняволены. Аднак пасля амністыі скончыў політэхнічны інстытут у Карлсруэ і працаваў на адказных пасадах на прадпрыемствах Урала. У 1921 г. ён адмовіўся ад кіруючай пасады ў Маскве і вярнуўся ў родную Латвію, дзе стаў міністрам фінансаў. Вабіла Пунгу і дыпламатычная праца.



Герман Пунга

Гады, калі Г. Пунга працаваў консулам у Віцебску, былі вельмі складаныя. Разгортвалася калектывізацыя, якая моцна ўдарыла па латышскіх гаспадарках на Беларусі. Латышы, як і многія іншыя добрасумленныя сяляне, адмоўна аднесліся да ідэі стварэння калгасаў. Натхнёныя прыкладам немцаў, якія масава рушылі з Паволжа на Маскву з патрабаваннем рэпатрыяцыі ў Германію, латышы таксама пачалі звяртацца ў Консульства па дапамогу ў справе выезду з БССР на радзіму. Улады як маглі перашкаджалі гэтаму. Самога Г. Пунгу неаднаразова папярэджвалі і абвінавачвалі ў стварэнні антысавецкіх і шпіёнскіх суполак.

Яшчэ з часоў царскага пераследу Г. Пунга быў звязаны з рускай інтэлігенцыяй. Асабліва блізкія сяброўскія адносіны ў яго склаліся з сям'ёй вядомага пісьменніка Л.М. Талстога. У Віцебску Г. Пунга пазнаёміўся з роднымі не менш вядомага мастака І.Я. Рэпіна, якія пасля выезду апошняга ў фінскія Пенаты засталіся ў сядзібе Здраўнёва пад Віцебскам. Калі Рэпін адмовіўся вяртацца ў СССР, лёс яго сямейнікаў быў незайздросны, яны ўвесь час знаходзіліся пад пагрозай высялення як "былыя памешчыкі". Консул за ўласныя сродкі аказваў ім дапамогу, у тым ліку матэрыяльную, асабіста вывозіў лісты да І.Я. Рэпіна, каб тыя не былі перахоплены НКУС. Разглядалася пытанне аб выездзе праз Латвію родных мастака для ўз'яднання з Іллёй Яфімавічам, але савецкі бок як мог зацягваў гэтую справу.



Прыкладная тэрыторыя на скрыжаванні вуліц Кірава і Камсамольскай, дзе з 1925 г. знаходзілася рэзідэнцыя консула Латвіі ў Віцебску. Фота 2013 г.

Не надавалі сімпатый латвійскаму консулу ад бальшавіцкіх улад і рэгулярныя выступы Г. Пунгі ў СМІ, дзе ён выкрываў хібы дзяржаўнага і эканамічнага ладу ў савецкай дзяржаве. У выніку ў лістападзе 1930 г. савецкае кіраўніцтва

дамаглося высылкі Г. Пунгі з СССР.

## АПОШНІЯ МЕСЯЦЫ ДЫПМІСІІ Ў ВІЦЕБСКУ

Толькі ў студзені 1931 г. у горад прыбыў Фрыц Фрыдэнбергс, які стаў трэцім і апошнім латвійскім консулам у Віцебску ў міжваенны час. У краіне разгортваліся рэпрэсіі, звязаныя з правядзеннем калектывізацыі. У 1930–1931 гг. многія латышы-гаспадары былі сасланыя ў лагеры. Знішчаліся апошнія лютэранскія суполкі. Консульскія супрацоўнікі маглі толькі назіраць за тым, што адбывалася, не будучы здольнымі хоць якім чынам паўплываць на падзеі.

Сусветны эканамічны крызіс, які ў пачатку 1930-х гг. захапіў амаль усе краіны, прымусіў Латвію пайсці на скарачэнне сеткі дыпмісій. Трапіла сюды і віцебскае Консульства. У красавіку 1932 г. яно было афіцыйна закрыта,




а Ф. Фрыдэнбергс быў пераведзены ў амбасаду ў Маскве.

Шыльда на сучасным будынку Консульства Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску. Фота 2013 г.

Вось так скончыўся першы этап існавання латвійскага Консульства ў Віцебску, які расцягнуўся на сем гадоў. Зноў дыпламатычнае прадстаўніцтва Латвійскай Рэспублікі пачне сваю дзейнасць у нашым горадзе толькі ў 1994 г.




# Скрыжаванне з гісторыяй

Іна Абрамава,
віцебскі гісторык і краязнаўца

# ВЕТРАНЫЯ ВУЛІЦЫ

Знаходзячыся сёння на скрыжаванні вуліц Чэхава і Суворава цяжка здагадацца, што шмат гадоў таму тут віравала зусім іншае жыццё.

Павольна і важна круціліся крылы млына, рыпелі жорны, мука напаўняла мяхі. Млын «быў каменным нязграбным будынкам усечана-канічнай формы з драўляным каўпаком, адкуль яшчэ тырчалі напаўразбураныя млынавыя крылы, а ў падножжа яго шатром трымаліся драўляныя пры вежы млынавыя службы». Ад наяўнасці тут ветрака і атрымалі назву бліжэйшыя вуліцы — Ветраныя.

Належаў гэты хутар мяшчанам Баруновым. Уладальнікі хутара былі знакамітымі грамадзянамі Віцебска: па плане 1797 г. ім належаў уласны пляц у 1 дзесяціну і 2165 квадратных сажняў; звыш таго яны з'яўляліся ўласнікамі зямельнага ўчастка ў 1 дзесяціну і 1210 квадратных сажняў, які знаходзіўся пад дамамі 22 жыхароў горада, і 745 квадратных сажняў пад 4 парожнімі плошчамі. Яшчэ арандавалі ў купца Шавярноўскага 1381 квадратны сажань гарадской зямлі.

Падчас вайны 1812 г. Баруноў ахвяраваў на ваенныя патрэбы 60 пудоў рыштунку, 4 бочкі смалы, каля 500 пудоў пакулля і правіянту для патрэб рускай арміі. Пры вызваленні Віцебска ад французаў вызначыўся Сяргей Баруноў, які ўзяў у палон 30 узброеных ворагаў.

Плошча ўладанняў Баруновых была досыць вялікай і складала каля чатырох дзесяцін. Акрамя млына сярод пабудоў былі і вялікі жылы дом, і пуні са свірнамі, некалькі флігеляў. Вялікі фруктовы сад акружалі кляновыя і ліпавыя алеі. Гаспадары выкапалі ў садзе невялікую сажалку, у якую запусцілі карасёў і лінёў.

Аднак хлебны гандаль і мукамольны промысел перасталі прыносіць даход Баруновым, і яны былі вымушаныя прадаць свой хутар новым уладальнікам. Падсобныя службы былі перабудаваныя пад патрэбы бавоўначасальнай фабрыкі. У год тут апрацоўвалася да 600 пудоў ліставой ваты з ачоскаў. Вытворчасць была вельмі пыльнай, што не спрыяла прыцягненню сюды аматараў прагулак і свежага паветра. Толькі ў садзе, пераўтвораным у месца для грамадскіх прагулак, можна было схавацца ад пылу і адпачыць на лаўках сярод клумбаў з кветкамі і дрэў.

З часам і сад, і род Баруновых забыліся жыхарамі. Іншым разам, праўда, на вуліцах Віцебска можна было сустрэць апошняга з Баруновых. Але гэта было так рэдка, што многія і не ведалі пра яго існаванне. Глыбокі стары з густой, лапацістай барадой, у сіняй світцы рускага пакрою, шыракаполым капелюшы, абапіраючыся на высокую палку, павольна і паважна ішоў у напрамку, вядомым толькі яму.



# ДУХОЎНАЕ ВУЧЫЛІШЧА

На месцы былога ўладання купцоў Баруновых было збудавана мужчынскае духоўнае вучылішча. Яго ўрачыстая закладка адбылася 5 ліпеня 1890 г. Згодна з праектам епархіяльнага архітэктара Кляменцьева ён павінен быў быць досыць вялікім: па Афіцэрскай (цяпер Суворава) вуліцы займаў 22 пагонныя сажні, па 1-й Ветраной (цяпер Чэхава) вуліцы — 17 пагонных сажняў. У ім меркавалася зладзіць 5 класаў, дамавую царкву, актавую залу, сталовую і спальныя пакоі на 100 і больш вучняў, кватэры кіраўнікам, наглядчыку, аканому, памяшканні для праўлення і бібліятэкі, а ў падвальным паверсе — кухню, памяшканні для служыцеляў.

Будаўніцтва працягвалася да 1892 г. 25 верасня 1892 г. адбыўся ўрачысты малебен з нагоды адкрыцця новага будынка мужчынскага духоўнага вучылішча. Выгляд гэтай двухпавярховай пабудовы змешчаны на паштоўцы пачатку 1910-х гадоў. Можна выказаць здагадку, што пазней, прыкладна ў 20-х гадах XX ст., быў надбудаваны трэці паверх. Падчас Першай сусветнай вайны ў будынку вучылішча размяшчаўся ваенны шпіталь.

У 1918 г. будынак быў муніцыпалізаваны. У 1922 г. памяшканне былога мужчынскага духоўнага вучылішча было занята саўпартшколай імя Энгельса, якая раней знаходзілася ў былым гатэлі Бразі на цяперашняй ратушнай плошчы.




Акрамя губсаўпартшколы ў будынку размяшчалася педвучылішча. Тут таксама знаходзіўся Рабфак і 2-месячныя педагагічныя курсы. Падчас Вялікай Айчыннай вайны будынак быў пашкоджаны пажарам. У 1947 г. рашэннем выканкама Віцебскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных за № 277 памяшканне і ўчастак былі перададзеныя для аднаўлення Віцебскаму мастацка-графічнаму педагагічнаму вучылішчу.

Было прынята рашэнне аб правядзенні рамонтных работ на працягу 1952–1953 гадоў. Праект быў распрацаваны Віцебскім філіялам Белдзяржпраекта і зацверджаны Саветам Міністраў БССР 25 студзеня 1951 г. Рамонтнабудаўнічыя работы выконвала БМУ № 1 трэста № 8 Міністэрства жылграмадзянбуда БССР. У пачатку 1960-х гадоў мастацка-графічнае педвучылішча было ператворана ў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя С.М. Кірава. Будынак быў перададзены гэтай вышэйшай навучальнай установе Віцебска.

## «ДАХОДНЫ» ДОМ

Побач, на рагу з вуліцай Суворава, размешчаны яшчэ адзін не менш цікавы для гісторыі Віцебска будынак. Чырвоная цэгла, адліваныя ажурныя рашоткі варот пераносяць нас у XIX ст. Даражэе зямля, змяняецца месцазнаходжанне будынка на ўчастку, фронт яго па вуліцы звужаецца; дамы растуць не па гарызанталі, а ў вышыню. Пры такім размяшчэнні толькі вулічны фасад дома меў мастацкую дэкарацыю.



У дадзеным будынку ў адпаведнасці з традыцыяй, што складваецца ў гэты час, спрошчанаму двароваму фасаду супрацьстаяў вулічны фасад, упрыгожаны порцікамі, франтонамі, аркамі, шматлікімі цягамі і інш. Гэтая пабудова — тып даходнага купецкага дома, які складаўся з некалькіх самастойных кватэр. Першы паверх адводзіўся пад крамы і меў уваход з вуліцы, другі і трэці — пад жыллё. Уваход у кватэры быў з двара або з боку праезду ў двор.

Будынак выкананы па індывідуальным праекце. Жылы дом меў ярка выражаны гарадскі характар: паверхавасцю і памерамі адпавядаў патрабаванням буйнога горада і быў разлічаны на заможныя колы насельніцтва. Такі тып



дома ў далейшым атрымлівае ўсё большае распаўсюджванне. Ён характарызуе карэнныя змены, якія адбыліся ў структуры гарадскога жылля. Індывідуальны дом, дзе жыве адна сям'я, пачынае саступаць месца шматкватэрнаму будынку, які становіцца важным элементам забудовы гарадскога цэнтра. Апошнім уладальнікам жылога будынка на перасячэнні вуліц Суворава і Чэхава была Дабравольская.

Ужо пасля 1917 г. будынак быў абвешчаны безгаспадарным. У 1923 г. была аформлена муніцыпалізацыя. І з таго часу былы «даходны» дом быў перададзены камунальным службам і прадастаўлены жыхарам. Тут пасяліліся рабочыя і служачыя Віцебска.




## ПРЫТУЛАК ДЛЯ САСТАРЭЛЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ

Тут жа, па адрасе вул. Чэхава, 4, знаходзіцца будынак з вельмі цікавай гісторыяй. У 1902 г. памёр наглядчык першай акцызнай акругі Кузьма Давыдавіч Галембіёўскі. У духоўным завяшчанні ён наступным чынам распарадзіўся сваім капіталам: 3000 рублёў мусілі заставацца непарушным капіталам, працэнты з якога ў роўных частках павінны былі паступаць на карысць прычтаў: могілкавай Спаса-Праабражэнскай царквы ў г. Суражы, віцебскай царквы Узвіжанскіх могілак і царквы ў с. Казакова пры маёнтку Дручалукі Веліжскага павета на вечнае памінанне.

По 2 тысячы рублёў нябожчык завяшчаў у мужчынскую і жаночую гімназіі

для заснавання імянных стыпендый, па 1 тысячы рублёў ён ахвяраваў на прытулак віцебскага дабрачыннага таварыства і прытулак ведамства Імператрыцы Марыі. Усе астатнія свае грошы нябожчык Галембіёўскі завяшчаў для арганізацыі прытулку для састарэлых і збяднелых віцебскіх чыноўнікаў.

Уладкаванне чыноўнікаў у прытулак і іх утрыманне вызначалі наступныя правілы. Кожны пансіянер атрымліваў асобны пакой, а таксама грашовую дапамогу ў памеры 15 рублёў у месяц. Правам паступлення ў прытулак маглі карыстацца незаможныя або няздольныя да працы чыноўнікі, адзінокія ці сямейныя, якія не атрымлівалі пенсію альбо атрымлівалі недастаткова. Пансіянеры незалежна ад ведамства абавязкова павінны былі быць праваслаўнымі хрысціянамі.




Душапрыказчыкамі за 44 тысячы рублёў было набыта домаўладанне па 1-й Ветранай вуліцы. Яно складалася з каменнага дома і служб. У перабудаваным памяшканні размясцілася каля 40 пансіянераў.

Пасля 1917 г. пачалася новая старонка ў гісторыі гэтай пабудовы. У сценах будынка размясціўся першапачаткова 3-ці інвалідны дом, ператвораны пазней у 2-гі інвалідны дом. У 1926 г. у сувязі з вялікай колькасцю інвалідаў, якія размяшчаліся ў доме па вуліцы 1-й Ветранай, было прынята рашэнне аб пераводзе іх у былое памешчыцкае ўладанне ў Сялютах, што недалёка ад Віцебска.

Будынак на Ветранай быў перададзены пад інтэрнат студэнтаў ветэрынарнага інстытута. Падчас акупацыі Віцебска фашысцкімі захопнікамі ён не пацярпеў. 1 лютага 1967 г. Саветам Міністраў БССР было выдадзена распараджэнне за № 116-Р аб адкрыцці ў Віцебску мемарыяльнага музея М.П. Шмырова. У сувязі з гэтым Віцебскі гарсавет прыняў рашэнне «Аб перадачы дома № 4 па вуліцы Чэхава пад мемарыяльны музей М.П. Шмырова».

На будаўніцтва музея абласному ўпраўленню культуры было выдаткавана 15 000 рублёў. У 1967 г. архітэктар горада З. І. Озерава на грамадскіх пачатках сумесна з работнікамі будаўнічых арганізацый Віцебска распрацавала план рэканструкцыі выдзеленага для музея будынка, пасля чаго адначасова пачаліся будаўніцтва і рэканструкцыя пабудовы.

Да адкрыцця музея было сабрана 806 экспанатаў. Аўтарам мастацкага афармлення быў сябра Саюза мастакоў БССР Б.М. Кузьмічоў, мастацкія работы выканалі Л.Я. Дзягілеў і І.П. Хіцько. Да 25-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 5 ліпеня 1969 г. музей быў адкрыты. Побач з будынкам музея быў створаны мемарыяльны комплекс-парк, дзе ўсталявалі скульптурны партрэт М.П. Шмырова (аўтар З. Азгур), размясцілі буйныя экспанаты (гарматы, мінамёты) і арганізавалі зямлянку 1-й Беларускай партызанскай брыгады. Будынак музея партызанскага руху імя М.П. Шмырова быў узяты пад ахову рашэннем Віцебскага аблвыканкама за № 46 ад 29.01.1988 г.

Так перапляліся найцікавейшыя старонкі далёкага мінулага і сучаснай гісторыі нашага Віцебска літаральна на адным скрыжаванні.

Сучасныя фотаздымкі: Раман Воранаў

Паштоўкі: «Таямніцы Віцебска»

Фрагмент Плана Віцебска 1904 г.: Віцебская абласная друкарня, 2012.




# «Адрас прафесара Рэпіна невядомы...»

Валерый Шышанаў, намеснік дырэктара
ВАКМ

Невялікая сядзіба Здраўнёва паблізу Віцебска стала для славутага рускага мастака Іллі Рэпіна месцам, дзе яго талент набыў новае дыханне. Тут на працягу 1892–1902 гг. мастак стварыў шэраг карцін, што ўвайшлі ў скарбніцу рускага і сусветнага мастацтва: «Восеньскі букет» (1892), «На Заходняй Дзвіне. Усход сонца» (1892), «Беларус» (1892), «Месячная ноч» (1896), «Дуэль» (1896), «На сонцы» (1900) і іншыя. Аднак яшчэ ў 1899 г. творца набыў пад Пецярбургам новую сядзібу — «Пенаты», дзе пазней жыў пастаянна.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і абвяшчэння незалежнасці Фінляндыі «Пенаты» аказаліся адарванымі ад Расіі. Рэпін міжволі становіцца эмігрантам. У 1918 г. у Здраўнёва з галоднага Петраграда перабіраецца малодшая дачка мастака Таццяна Рэпіна-Язева са сваёю дачкою. З гэтага моманту падзеі ў былым месцы адпачынку на Віцебшчыне становяцца крыніцаю турбот і клопатаў для Іллі Яфімавіча.

Сапраўды, родныя мастака па класіфікацыі бальшавікоў траплялі ў разрад «былых памешчыкаў» і «класава чужых элементаў», што ставіла іх у поўную залежнасць ад міласці вярхоў. Таму і Рэпін пры ўсёй варожасці да Савецкай улады кожны раз вымушаны быў апеляваць да яе, каб нейкім чынам палепшыць становішча «роднай яму сям'і».

Так, у фондах Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці (ДАВВ), Віцебскага абласнога краязнаўчага музея (ВАКМ) захавалася дастаткова разгорнутае ліставанне 1923–1924 гг. (17 дакументаў) па пытаннях дапамогі сваякам І.Я. Рэпіна, якія жылі ў Здраўнёва, і аховы сядзібы. Аднак сляды перапіскі ідуць у «цэнтр», у Маскву. І не так даўно сярод папер музейнага аддзела ў фондзе Галоўнавукі Наркамаса РСФСР у Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі (ДАРФ) нам удалося выявіць новыя дакументы. Безумоўна, не ўсе з іх уяўляюць інтарэс. У сваёй большасці гэта распараджэнні вышэйстаячых інстанцый ніжэйстаячым, адносіны, суправаджальныя запіскі, якія, спускаючыся па адміністратыўнай лесвіцы, ствараюць новы ўзаемаабмен пасланнямі, і нарэшце пачынаецца пад'ём наверх атрыманых адказаў з новымі суправаджальнымі запіскамі [1].



Таццяна Рэпіна-Язева з дачкой, зяцем і ўнукамі. Віцебск. Фота А. Макоўскага, 1928 г. (ВАКМ)

У чэрвені 1921 г. з Петраграда ў Здраўнёва на два тыдні прыехала Вера Рэпіна. У лісце да бацькі яна перадае падзяку ад малодшай дачкі за завяшчанне ёй Здраўнёва, але паведамляе, што такія завяшчанні ўжо не маюць сілы, і раіць: «<...> трэба пісаць так, што: "Прашу Здраўнёва пакінуць недатыкальным, захоўваючы і не разбураючы яго, якім яно было — майго імя — ахоўнікамі ж прызначаю дачку Таццяну, унучку Таццяну і яе мужа Івана Дзмітр[ыевіча] Дыяканава". <...> Усе сяляне, воласць і горад Віцебск помняць цябе за мінулае, і ўсё зробяць па жаданні тваім» [2].

Выяўленыя дакументы прымушаюць засумнявацца ў правамернасці апошняй фразы. Ход, змест і працягласць ліставання, якое распачалося пасля зваротаў па дапамогу, хутчэй можна аднесці да кур'ёзу, прыкладу бюракратычнай валакіты.

У публікацыях ужо прыводзіліся звесткі пра лісты аддзела па справах музеяў і ахове помнікаў мастацтва, старажытнасці і прыроды Наркамаса РСФСР, што былі адпраўлены 15 і 20 лютага 1923 г. адпаведна ў Віцебскі губвыканкам і губкамунаддзел, у якіх органы мясцовай улады інфармаваліся пра тое, што Здраўнёва знаходзіцца пад «асаблівай аховай» аддзела [3]. 28 лютага жыллёвы пададдзел Віцебскага губкамунаддзела інфармаваў аддзел па справах музеяў, што «зроблены адпаведныя распараджэнні аб ахове сядзібы "Здраўнёва" і мастацкіх твораў, якія ў ёй знаходзяцца» [4]. У маі Віцгубана таксама данасіў прэзідыуму губвыканкама аб прыняцці мераў да аховы мастацкіх каштоўнасцей у сядзібе [5].

Здавалася, праблемы родных Рэпіна, ва ўсялякім выпадку факт існавання сям'і Т.І. Рэпінай-Язевай і месца жыхарства, павінны былі стаць вядомымі мясцовым уладам.

4 мая 1923 г. загадчыца аддзела музеяў Н.І. Троцкая атрымала наступны ліст Іллі Рэпіна: «Паблізу гор. Віцебска, Вярхоўскай воласці ў маёнтку "Здраўнёва", што належаў мне, з 1892 г. я жыў амаль бязвыезна больш за 10 гадоў, маючы 130 дзесяцін зямлі, з лесам, на беразе Заходняй Дзвіны. Прыстасоўваючы, прыладжваючы да мастацтва жывапісу, якім заўсёды займаўся, і гаспадарыў увесь гэты час, даючы заробак сялянам суседніх вёсак.



Здраўнёва. Галоўны сядзібны дом, выгляд з боку сада, 1929 г. (ВАКМ)

Майстэрня, вежа, і інш. з роспісам сценаў, каміна яшчэ збольшага ацалелі. З часоў новага ўрада, дачка мая, Таццяна Іллінічна Язева (народж. Рэпіна) з маёю ўнучкаю Таццянай Мікалаеўнай Дыяканавай, выкладаюць у школе, заснаванай у нашым доме, і нясуць усе павіннасці на 4-х дзесяцінах зямлі, усяго пакінутых ім для пракармлення.

Іван Дыяканаў, ажаніўшыся з маёй унучкаю, з яе маці працуюць звыш сіл, асабістаю працаю, каб як-небудзь не памерці з голаду.

100 дзесяцін я саступіў танна сялянам, па іх неадчэпнай просьбе яшчэ раней. Цяпер пры сядзібе пакінута ім 4-ы дзесяціны.

Прашу Аддзел Музеяў, ці не знойдзе ён магчымым ахоўваць, пад непасрэд-

ным назіраннем маёй дачкі Таццяны Іллінічны Рэпінай-Язевай, спрыяючы ёй неабходным рамонтам дома-школы, а таксама знайсці магчымасць дадаць ім зямлі» [6].

Праз месяц, 5 чэрвеня, Н.І. Троцкая пасылае новы ліст у Віцебскі губвыканкам, у якім выкладае змест пісьма Рэпіна і просіць «абследаваць пры пасрэдніцтве Вашых органаў стан дома мастака і матэрыяльнае становішча яго сям'і і ў выпадку неабходнасці аказаць сям'і сусветнага мастака неабходнае спрыянне» [7].


Вх. 5465

Р. С. Ф. С. Р.

Витебский Губернский Исполнительный Комитет Советов Раб., Крест. и Красноарм. Депутатов

ПРЕЗИДИУМ.

Июня 30 1923 г

№ 5438

г. Витебск.

Витебскому Уисполкому

В ответ на отношение от 26 Июня за № 4654, Президиум Губисполкома сообщает, что Губисполкому адрес профессора РЕПИНА неизвестен, таковой можно узнать в УЗУ, куда и следует обратиться.

Секретарь Губисполкома /ЛЫСОВ

Упр. делами /ШУЛЬГИН/

Ліст Віцебскага губвыканкама валасному выканкаму па пытанні месца жыхарства Іллі Рэпіна. 30 чэрвеня 1923 г. (ДАРФ)

Мясцовыя ўлады разумеюць літаральна — трэба «дапамагчы Рэпіну» і спускаюць адпаведнае ўказанне павятоваму выканкаму. Намеснік загадчыка аддзела ўпраўлення павятовага выканкама Герасіменка, выяўляючы сваю недасведчанасць, 26 чэрвеня просіць губвыканкам «паведаміць месца жыхарства такога (І. Рэпіна — *В. Ш.*), у адваротным выпадку не ўяўляецца магчымым ажыццявіць абследаванне яго сямейнага і маёмаснага становішча»[8]. Сакратар губвыканкама ў адказ паведамляе: «Губвыканкаму адрас прафесара Рэпіна невядомы, яго можна даведацца ў ПЗУ (павятовым зямельным упраўленні — *В.Ш.*)» [9].

16 ліпеня Герасіменка адпраўляе запыт у ПЗУ. Рэзалюцыя на дакуменце абвяшчае: «Сам Рэпін знаходзіцца ў Фінляндыі. Перапіска аб зямлі і пабудовах знаходзіцца ў Судовай камісіі. 17/VII-23» [10].

28 чэрвеня Віцебскае ПЗУ вяртае ў аддзел упраўлення Віцебскага павятовага

выканкама перапіску на 6 аркушах і інфармуе, што сям'я — дачка і ўнучка — прафесара жывапісу І. Рэпіна пражывае ў маёнтку Здраўнёва Храпавіцкай воласці.

Нарэшце месца знаходжання здраўнёўскіх пакутнікаў высветлена і паступае рэзалюцыя: «Тэрмінова накіраваць Храпавіцкаму ВВК для абследавання і дастаўкі матэрыялу прэзідыуму са сваім заключэннем. 31/VII» [11].

Але валасны выканкам не спяшаецца, і 12, а затым 14 кастрычніка паступаюць гнеўныя лісты сакратарыята Прэзідыума Віцебскага павятовага выканкама аб неадкладным правядзенні абследавання дома І. Рэпіна. Рэзалюцыя: «Тэрмінова выканаць і даць тлумачэнне, чаму не выканана 22/X г/г». Адказ — «З-за адсутнасці часу, неабходна правесці абследаванне старшыні сельсавета. 25/X 23 г.» [12]. 27 кастрычніка адпаведнае распараджэнне было адпраўлена старшыні сельсавета [13].



Галоўны дом музея-сядзібы Іллі Рэпіна «Здраўнёва». Фота аўтара, 2008 г.

Нарэшце, праз 7 месяцаў пасля ліста Н.І. Троцкай, 30 лістапада 1923 г. член Храпавіцкага валвыканкама С.І. Івашняў выехаў у Здраўнёва для ажыццяўлення абследавання. Складзены акт з'яўляецца важным дакументам для правядзення рэканструкцыі забудовы сядзібы, у якім, што асабліва каштоўна, акрамя звестак пра характар і стан пабудоў, пазначаюцца іх памеры [14].

11 снежня акт разам з суправаджальным лістом Храпавіцкага валвыканкама [15] пачаў узыходжанне па бюракратычнай лесвіцы. Цікава, што ў суправад-

жальных пісьмах захоўвалася фраза — «ліставанне з нагоды абследавання сямейнага і маёмаснага становішча прафесара жывапісу Рэпіна». І толькі ў апошнім лісце арганізацыйнага аддзела УЦВК у аддзел навукі Наркамаса ад 17 студзеня 1924 г. у машынапіс ад рукі была ўнесена праўка «<…> становішча сям'і прафесара жывапісу Рэпіна». Зрэшты, і такая фармулёўка не ўносіла поўнай яснасці, пра якую сям'ю ідзе гаворка [16].

Матэрыялы абследавання былі адасланы ў аддзел музеяў «па прыналежнасці», і, як можна зрабіць выснову з далейшага развіцця падзей, ніякіх мер па рамонту пабудоў сядзібы прадпрынята не было. Сям'і Т.І. Рэпінай-Язевай удалося ў рэшце рэшт вырашыць толькі зямельнае пытанне [17], а новы дом для сябе будаваць уласнымі сіламі.

Наперадзе сям'ю Рэпіных-Дыяканавых чакалі некалькі адносна спакойных гадоў, якія прайшлі ў турботах па гаспадарцы і дзецях і са сваімі маленькімі сямейнымі радасцямі. Але ў 1929 г. пачалася новая хваля рэпрэсій у адносінах да «былых», і толькі дзякуючы заступніцтву А.В. Луначарскага ўдалося ўнікнуць, здавалася, непазбежнага раскулачвання і высялення.

У рэшце рэшт родныя мастака ў ліпені 1930 г. пакінулі Здраўнёва і выехалі ў Фінляндыю. Да моманту ад'езду галоўны дом сядзібы прыйшоў у такі варты жалю стан, што яго давялося прадаць на дровы.


[1] ДАРФ, ф.А-2307, воп. 3, спр. 297, арк. 3–19.

[2] Ліст В.І. Рэпінай І.Я. Рэпіну 24 ліпеня 1921 г. (НБА РАМ, ф. 25, воп. 2, адз.зах. 424, арк. 26–27). В.І. Рэпіна эмігравала ў Фінляндыю ў красавіку 1922 г.

[3] ВАКМ, н/а, ф. 3, спр. 4, арк. 52. Дадатковыя дакументы па пытанні: ДАВВ, ф. 1231, воп. 1, спр. 52, арк. 82–89. Копія ліста ў губвыканкам таксама захавалася ў в фондах ДАРФ (ф. А-2307, воп. 3, спр. 163, арк. 6). Гл. таксама: Кичина Е.М. И.Е. Репин и Здравнёво. С. 25–26.

[4] ВАКМ, н/а, ф. 3, спр. 4, арк. 45; ДАВВ, ф. 1231, воп. 1, спр. 52, арк. 82–89.

[5] ДАВВ, ф. 56, воп. 1, спр. 232, арк. 420.

[6] ДАРФ, ф. А-2307, воп. 3, спр. 297, арк. 285 і адв. (копія).

[7] ДАРФ, ф. А-2307, воп. 3, спр. 297, арк. 18 і адв. Копія — арк. 284 і адв.

[8] Там жа, арк. 16. Копія — арк. 19.

[9] Там жа, арк. 15.

[10] Там жа, арк. 14.

[11] Там жа, арк. 13.

[12] Там жа, арк. 11,10.

[13] ДАВВ, ф. 94, воп. 1, спр. 124, арк. 112.

[14] ДАРФ, ф. А-2307, воп. 3, спр.297, арк. 8–9 адв.

[15] Там жа, арк. 7.

[16] Там жа, арк. 3–6.

[17] Гл. падрабязней: Шышанаў В. Невядомае Здраўнёва // Віцебскі сшытак. 2000. № 4. С. 104–108.



# ВІЦЕБСК: ПАПУЛЯРНАЕ МІНУЛАЕ

## Цырк у мінулым Віцебска

Іна Абрамава,
віцебскі гісторык і краязнаўца

# ПЕРШЫЯ ШАПІТО І ПЕРШЫЯ СТАЦЫЯНАРНЫЯ

Першыя згадкі пра цырк у Віцебску адносяцца да XIX ст. Анонсы ў газеце «Віцебскія губернскія ведамасці» паведамлялі пра гастролі цыркавых труп з Масквы, Пецярбурга і нават з Францыі і Германіі. Для таго каб прыцягнуць гледачоў, многія расійскія цыркавыя акцёры бралі замежныя псеўданімы, ды і назвы цыркавых труп былі запазычаны ў замежных калегаў.

У пачатку лета ў горадзе з'яўляліся рознакаляровыя купалы шапіто. Яны размяшчаліся на плошчах і ў месцах для прагулак. Часам для цыркавых прадстаўленняў арандаваліся памяшканні ў прыватных домаўладальнікаў. У сувязі з гэтым гастролі цыркавых калектываў былі непрацяглымі і заканчваліся ў асноўным да надыходу халадоў.

Сталага будынка для гастралюючых цыркавых труп доўгі час не было. І толькі ў 1868 г. на невялікай Тэатральнай або Дваранскай плошчы (цяпер сквер насупраць тэатра імя Якуба Коласа) быў узведзены прасторны будынак гарадскога цырка. Віцебск стаў адным з нешматлікіх губернскіх гарадоў Расійскай імперыі, дзе быў будынак стацыянарнага цырка. Аднак пабудова была нетрывалай і ў хуткім часе была разабрана.



Тэрыторыя колішняй Тэатральнай плошчы. У 1868 г. тут быў узведзены першы стацыянарны будынак для цырка

У 1898 г. ў Віцебск на гастролі прыехаў французскі цырк Квірыні. Уладальнік цырка пабудаваў драўлянае памяшканне для цырка на Арлоўскай плошчы побач з вакзалам. Будынак быў агледжаны гарадскім тэхнікам і прызнаны прыдатным для гастроляў цыркавых артыстаў. Гастролі французскага цырка Квірыні ў Віцебску мелі вялікі поспех. Асілак пан Крылоў прывёў публіку ў здзіўленне, штурхнуўшы двума рукамі 330 фунтаў. Гледачы апладзіравалі жанглёрам і клоўнам. Цырк Квірыні з’ехаў з Віцебску, а ў будынку гастралявалі ўжо іншыя цыркавыя трупы — цырка Дурава, англійскага цырка Губерта Кука з уласным музычным аркестрам, коньмі і клоўнамі. У 1899 г. з вялікім поспехам праходзілі гастролі «германскага» цырка Петрама, трупа якога была шматлікай: 45 коней і 99 акцёраў. У 1900 г. ў будынку праходзілі гастролі цырка братоў Труцці.

У студзені 1901 г. быў зацверджаны праект новага цырка купца Левінсона ў садзе «Еўропа» (сад размяшчаўся паміж сучаснымі вуліцамі Касманаўтаў, Вакзальнай, Дзімітрава і Савецкай Арміі). А ў чэрвені цырк ужо быў адкрыты. Гэты будынак прымаў гастралюючых цыркавых артыстаў да 1917 г. Змяняліся толькі ўладальнікі цырка. Стацыянарны цырк меў свой пастаянны аркестр.

Да 1917 г. на гастролях у Віцебску пабывала мноства вядомых цыркавых труп, сярод якіх варта адзначыць гастролі вядомага дрэсіроўшчыка Дурава ў 1900-х гадах. Апошнім уладальнікам цырка ў Віцебску быў Дзмітрый Антонавіч Андржыеўскі.

Як мяркуецца, да 1920-х гадоў будынак цырка прыйшоў у заняпад і прадстаўленні праходзілі ў часовых шапіто альбо на канцэртных пляцоўках.

Да 1924 г. пастаяннай цыркавой трупы ў нашым горадзе не было. Большасць цыркавых калектываў прыязджалі ў Віцебск на гастролі. У 1924 г. з вялікім поспехам выступілі браты Баўман і Попель-Трапэ. Яны паказвалі рымскія гладыятарскія баі і паветраныя акрабатычныя нумары.

## ВАНЯ ЛЕГАЛАЎ, ЁН ЖА ЛЕРЫ

У 1928 г. таварыства «Сябры дзяцей» для павелічэння грашовых сум, прызначаных для барацьбы з дзіцячай беспрытульнасцю, вяло перамовы з антрэпрэнёрамі аб арганізацыі гастроляў цыркавых калектываў. Сярод тых, хто адгукнуўся на гэту прапанову, быў цырк Леры. Відавочна, прадстаўленні мелі вялікі поспех і нават прыцягнулі ўвагу самага папулярнага ў горадзе мастака Юрыя Пэна. На адной са сваіх работ ён адлюстраваў гэты значны для культурнага жыцця горада момант. Далёка ісці не даводзілася, бо купалы шапіто размясціліся праз дарогу ад майстэрні мэтра (зараз тэрыторыя амфітэатра).




Юдаль Пэн. Цырк. 1912 г.

Пра самога І.А. Леры даведваемся з кнігі «Сустрэчы з цыркавым мінулым». Шасцігадовым хлопчыкам Іван уцёк у вандроўны цырк Лямбергера і неўзабаве стаў выступаць з двума нумарамі — «Каўчук» і «Трапецыя». Хлопчык адпрацаваў у цырку ўсю зіму і не толькі не атрымліваў якой-небудзь платы, але нават рэдка еў уволю. Маці прымусіла сына сысці з балагана.

У 1889 г. Ваня Легалаў (сапраўднае прозвішча артыста) паступіў вучнем у друкарню томскай газеты «Сібірскі веснік». За тры гады працы ён асвоіў друкарскую справу. Але аднойчы яго папрасілі набраць і аддрукаваць дзве тысячы палітычных улётак, за што гаспадар адразу ж выгнаў яго. І зноў вандроўныя цыркі, зноў блуканні…

У Сяміпалацінску артыст спяваў у дывертысменце вольналюбівыя песенькі на словы Беранжэ. За гэта мясцовая паліцыя адправіла яго этапам па месцы нараджэння, у Томск. Там ён застае Сібірскі цырк Е. Панкратава, дзе зноў пачынае выступаць. З гэтым цыркам І. Легалаў пабываў у Барнауле, Алма-Аце, Ташкенце. У дарозе трупу заспела вестка аб смерці цара Аляксандра III. У сувязі з жалобай цырк шэсць тыдняў не працаваў, і артысты моцна галадалі. Калі ж зноў прыступілі да працы, Іван з-за слабасці зваліўся з трапецыі і атрымаў цяжкія траўмы.

Выручыў адзін узбек з трупы: ён пачаў націраць хворага нейкай маззю. Праз некалькі дзён малады артыст падняўся на ногі. І вось Іван Легалаў зноў у Томску. Ён уступае ў цыркавую трупу, што гастралявала ў горадзе, і дэман-

струе самыя розныя нумары: «Пераходную лесвіцу», «Гратэск», «Трыпэ», клаўнада, эквілібр на дроце.

Артыстычны лёс Легалава складваўся нялёгка: шмат гарадоў і краін аб'ездзіў ён, шмат змяніў прафесій. У Благавешчанскім аперэтачна-драматычным тэатры служыў памочнікам рэжысёра, затым працаваў друкаром, канторшчыкам, рахункаводам. Але пры першай жа магчымасці вярнуўся ў цырк. З амерыканскім цыркам Варакса пабываў у Шанхаі, Гонконгу, Сайгоне, на Філіпінскіх астравах.

Нарэшце таленавіты артыст з цяжкасцю выбраўся ў Маскву ў цырк Альберта Саламонскага. У 1905–1906 гадах І.А. Легалаў здолеў назапасіць грошай, якія паслужылі асновай для стварэння стайні, а затым і арганізацыі таварыства, у якім ён быў кіраўніком. Са сваім цыркам Іван Абрамавіч аб'ездзіў усю краіну. У савецкім цырку яго стайня з дванаццаці коней лічылася адной з лепшых. Тут было шмат самых разнастайных і цікавых праграм: «Коннае табло», «Шырмы», «Калясніца», «Дзіцячы сад», «Карнавал у Рыме», «Конь у рэстаране», «Конь у ложку».

Леры — гэта творчы псеўданім Івана Абрамавіча Легалава, які ўзяў больш мілагучнае для афіш прозвішча сваёй жонкі Іаганы Маркаўны Леры-Каарман, таксама цыркавой артысткі. З часам склалася цэлая цыркавая дынастыя.



Былая Арлоўская плошча. Тут пэўны час працаваў драўляны будынак, узведзены для цырка Квірыні ў 1898 г.

Гадаванцы Леры былі так добра навучаны, што верагоднасць памылкі пры выкананні таго ці іншага трука амаль выключалася. Апошняе выступленне заслужанага артыста Расіі Івана Абрамавіча Леры праходзіла ў Калінінскім цырку. Нумар, як заўсёды, ішоў бездакорна. Але раптам дрэсіроўшчык адчуў сябе кепска, пахіснуўся і ледзь не ўпаў. Яго памочнік Георгій Зінчанка адразу ж падхапіў і панёс Леры з манежа.

Конь, які ў той момант ішоў на задніх нагах па коле, прыпыніўся, скасіў вочы, шукаючы гаспадара; не агледзеўшы ні дрэсіроўшчыка, ні яго памочніка,

працягваў шэсце. Спыніўшыся, конь зрабіў паклон, павярнуўся і пайшоў за кулісы. Слёзы былі на вачах і ў гледачоў, і ў артыстаў, якія выйшлі, як звычайна, у праходы паглядзець выступ калегі.

Многія разумелі, што Леры ўжо ніколі больш не зможа выйсці на манеж. Ён памёр у Ленінградзе ў 1953 г. Чалавек складанага лёсу, як і многія артысты, Іван Леры упісаў сваё імя ў старонкі цыркавой гісторыі.

## ЦЫРК МОГ БЫ СТАЯЦЬ ЛЯ ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ

Што ж да стварэння пастаяннай цыркавой трупы ў Віцебску, то яе асновай стаў калектыў цырка «Спартак», што прыехаў з Разані. 21 снежня 1929 г. цырк адчыніў свае дзверы перад першымі гледачамі. Драўляны будынак, створаны спецыяльна для прадстаўленняў, знаходзіўся па вуліцы Леніна, 45. Сярод артыстаў цырка «Спартак» былі высокакваліфікаваныя майстры.

Так, напрыклад, Суп'янаў Аляксандр Мікалаевіч (псеўданім Алекс), клоўн-скакун, які працаваў у цырку «Спартак» з 17 верасня 1929 г., вучыўся на курсах цыркавога мастацтва пры Цэнтральным упраўленні Дзяржцыркамі РСФСР. Распіні Рудольфа Джавакінавіч, музычны сатырык, прадстаўляў цэлую цыркавую дынастыю. Ён нарадзіўся ў горадзе Верны (цяпер Алма-Аты) і з'яўляўся італьянскім падданым. Сваю цыркавую кар'еру Распіні пачаў яшчэ ў 1916 г. у цырку г. Вязьма. З вялікім стажам працы быў і дрэсіроўшчык коней Аляксандр Генрыхавіч Кісо. У дарэвалюцыйны час ён ва ўзросце 13 гадоў служыў у цыркавых трупах Готфруа, Сабата, Дэ'Віньe, Труццi, Чынізелі, Саламонскага і інш. Штат цырка «Спартак» складаўся з 21 артыста, сярод якіх былі Л.І. Бандарэнка, музычны клоўн, Е.Б. Няльдзіхін, эквілібр на дроце, А.А. Дызендорф, дрэсіроўшчык коней і сабак, К.А. Кісо, дрэсіроўшчык коней і галубоў, Барысаў – жакей і жанглёр.

У пасляваенны час неаднаразова ўздымалася пытанне аб аднаўленні ў горадзе цырка. Так, у 1948 годзе Віцебскі аблвыканкам прыняў рашэнне № 133 ад 23 лютага аб будаўніцтве цырка-шапіто. Гэта рашэнне не было выканана. У 1959 г. Віцебскі гарвыканкам прыняў рашэнне № 224 ад 12 чэрвеня аб адвядзенні гарадскому аддзелу культуры зямельнага ўчастка плошчай 0,71 га, размешчанага па вул. Кальцавой. 25 снежня 1959 г. Віцебскі аблвыканкам прыняў рашэнне № 759 «Аб зацвярджэнні праектнага задання на будаўніцтва цырка ў Віцебску», якое зацвердзіла праектнае заданне з каштарысна-фінансавымі разлікамі на аднаўленне будынка былога летняга цырка ў Віцебску па вул. Кальцавой на 1500 пасадачных месцаў.

У 1960 г. рашэннем Віцебскага гарвыканкама № 172 ад 14 мая для будаўніцтва ў горадзе цырка быў адведзены зямельны ўчастак у квартале ўнівермага плошчай 0,54 га (вул. Пушкіна). Пазней гарвыканкам адвёў участак па вул. Гогаля і вул. Калініна плошчай 0,57 га (сучасная плошча Перамогі). Але, як вядома, стацыянарны цырк у Віцебску гэтак і не быў адноўлены.




Яшчэ адзін віцебскі цырк адчыніў свае дзверы ў 1929 г. ў будынку па адрасе вул. Леніна, 45. Сённяшнія цотны і няцотны бакі вуліцы не адпавядаюць даваенным. Той будынак знаходзіўся ў дварах сучаснай рэстарацыі «Паўночная сталіца»




# Віцебск часоў Альгерда

Леанід Калядзінскі, канд. гіст. навук, археолаг (Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі)

У 1318 г. Віцебскі сталец займае Яраслаў Васільевіч — апошні ўладар удзельнага Віцебскага княства. Князь Альгерд, 22-гадовы сын вялікага князя Гедыміна з суседняга Вялікага княства Літоўскага, вырашае ўзяць шлюб з віцебскай князёўнай Марыяй. У Яраслава Васільевіча няма сыноў, і пасля смерці Віцебскай зямлёй мусіць валадарыць муж ягонай дачкі Марыі.

Пасля смерці бацькі Гедыміна Альгерд стане на чале ўсяго Вялікага княства Літоўскага, да якога, натуральна, далучыць і "пасаг" жонкі Марыі — Віцебскую зямлю. Але гэта будзе наперадзе. А пакуль на двары 1318 г. і на чале світы складам не менш за харугву Альгерд пад'язджае да Віцебска. Што ўяўляў сабой Віцебск той пары?

## ГОРАД НА ДЗЕСЯЦІ ГЕКТАРАХ

У канцы XIII ст. Віцебск, як і большасць усходнеславянскіх гарадоў таго часу, меў трохчасткавую структуру, якая складалася з дзяцінца, на якім меўся княжацкі двор, размешчаны на старажытным гарадзішчы, вядомым пад назвай "Замкавая гара"; вакольнага горада, які паўкальцом ахопліваў дзяцінец з поўдня; і неўмацаванага пасада, што знаходзіўся на правым беразе р. Віцьбы, насупраць дзяцінца. Акрамя таго, у гэты ж час наўкола Віцебска мелася і сельская акруга, найбліжэйшая з якой размяшчалася на супрацьлеглым беразе Дзвіны.



Вялікі князь літоўскі Гедымін (злева) і яго сын Альгерд

Дзяцінец Віцебска да часу прыезду сюды князя Альгерда быў абнесены магутным абарончым валам, насыпаным з зямлі, і арміраваны драўлянай субструкцыяй. Перыметр вала складаў 770 м. Шырыня яго ў падножжы была 14 м, а вышыня — 6 м. Стромкасць схілаў — у межах 45–50 градусаў.

На тое, каб умацаваць валы было высечана дрэваў з плошчы ў 12–14 га. Гэта ў два разы было больш за вакольны горад Віцебска на пачатку XIV ст. Узводзіліся гэтыя ўмацаванні на працягу чатырох гадоў, з 1136 па 1140 гг. Па грэбню вала ішоў вастракол.



Віцебская княжна Марыя. Карціна Ігара Дурава

Што датычыцца вакольнага горада Віцебска, дык на думку даследчыка Таццяны Бубенькі, ён да XIV ст. не меў штучных умацаванняў.

У Віцебску той пары меліся тры храмы. Царква Св. Міхаіла стаяла на Замкавай гары ля княжацкага дворышча. Царква Звеставання (альбо добравядомая сёння Дабравешчанская царква) і Св. Параскевы Пятніцы мясціліся на вакольным горадзе.

Нашы падарожнікі мінулі ўязныя брамы вакольнага горада і дзяцінца і па вуліцы, якая стромка падымалася па схілу Замкавай гары, накіраваліся да княжацкага двара. Вуліца, па якой ішоў (або ехаў на кані) Альгерд, была складзена з сасновых бярвенняў. Шырыня вуліцы, што вяла на княжацкае дворышча, была каля 2 м. Маставая, па якой узбіраўся Альгерд, была ўзведзена за 10 гадоў да яго прыезду ў 1307–1311 гг. Некаторыя ўчасткі гэтай вуліцы патрабавалі рамонту і былі заменены бярвёнамі з разабраных пабудоў.

# ВІЦЯБЛЯНЕ ЖЫЛІ ПА СЯДЗІБАХ

Паабапал вуліц размяшчаліся сядзібы гараджан. Як выглядалі яны на той час? На некаторай адлегласці ад жытла размяшчалася клець, а прамежак паміж імі займаў хлеў. Насупраць гэтых збудаванняў таксама маглі знаходзіцца хлеў і клеці. У плане ўвесь гэты комплекс утвараў замкнёны або «вяночны» двор, унутраная прастора якога вымошчвалася дошкамі. Сядзібная забудова Віцебска канца XIII — пачатку XIV ст. пацвярджаецца і пісьмовымі крыніцамі таго часу (Ліст рыжскіх купцоў віцебскаму князю Міхаілу 1271–1289 гг.), дзе згадваецца слова «падвор'е» — сядзіба.



Насціл вулічнай маставой XIV ст. Віцебск, Верхні замак, раскопкі М. Ткачова і Л. Калядзінскага. 1977 г.

Як выглядалі жытлы таго часу? У XIV–XV стст. жытлы Верхняга замка Віцебска мелі плошчу 36–42 кв. м. (Параўнайце з плошчай сваёй кватэры.) Падлога ў такіх жытлах як правіла выраблялася з масіўных дыляў або аполкаў, пакладзеных на чатыры лагі-пераводзіны.

Пад вуглы зруба падводзілі масіўныя калоды дыяметрам 35–40 см і даўжынёй каля метра. Дзверы жытлаў узводзіліся на ўзроўні 4–6 вянка. У гэты час пры жытлах уводзіліся рамкава-каркасныя збудаванні, якія з'яўляліся асновай крытай галерэі двухпавярховай пабудовы. Графічная выява

такога збудавання («Дом Горскага») ёсць на знакамітым плане Віцебска 1664 г.

У склад сядзібы ўваходзілі клеці — памяшканні для захавання збожжа — і хлявы. Хлявы ў канцы XIII — пачатку XIV ст. найчасцей выконваліся ў слупавой тэхніцы, вядомай у традыцыйным побыце беларусаў пад назвай «у шулы». Аснову пабудовы ўтваралі ўкапаныя па вуглах слупы, у якіх меліся прадольныя пазы для закладкі сцен дошкамі. Памеры гэтай пабудовы былі 1,8 х 4,8 м. Уваход у пабудову быў зроблены з поўдня. І ў гэтым мелася пэўная рацыя: у летнюю пару сонца магло прасушваць прастору памяшкання, дзе стаяла жывёла.



Рэканструкцыя жытла ў Віцебску сярэдзіны XIV ст. паводле С. Сергачова і Л. Калядзінскага

Колькі чалавек магло жыць на тэрыторыі Верхняга замка Віцебска, скажам, у канцы XIII ст.? Паводле падлікаў даследчыкаў, на 1 га дзяцінца горада XII–XIII стст. магло прыходзіцца да 200 чалавек. Улічваючы, што дзяцінец Віцебска, на аснове якога сфармаваўся Верхні замак, меў плошчу 4 га, то яго насельніцтва магло складаць да 800 чалавек.

## ЧАТЫРЫ ЛІТРЫ МАЛАКА НА ДЗЕНЬ

У канцы XIII — пачатку XIV ст. галоўнае месца ў статку хатніх жывёл насельніцтва Верхняга замка Віцебска займала буйная рагатая жывёла (54%). На другім месцы былі свінні — 43% і затым дробная рагатая жывёла — 21%. На долю коней прыходзілася ўсяго 13% ад усяго пагалоўя статку.

Як выглядала хатняя жывёла на той час? Значная яе частка была маларослай. Так, рост быдла ў холцы быў усяго 94–125 см, авечкі — 51–60 см. Такая

з’ява будзе выглядаць натуральна, калі прыгадаць, што свядомы адбор і селекцыя сельскагаспадарчай жывёлы ў Паўночнай Еўропе пачаліся толькі ў XVII–XVIII стст.



Рэшткі сядзібнай забудовы на Верхнім замку Віцебска. Археалагічныя раскопкі М. Ткачова і Л. Калядзінскага. 1978 г. Паўночны бок раскопа

Несумненна, што буйная рагатая жывёла прызначалася і для атрымання малака. Ускосным доказам гэтага могуць служыць знаходкі рэштак бандарнага посуду: донцаў і клёпак ад вёдраў з прамым вусцем, якія адносіліся да падойнікаў.

Колькі малака магла даваць карова на той час? Непасрэдных дадзеных у нас для гэтага няма. Але ўскосна мы пра гэта меркаваць можам. Якім чынам?

Так, па вызначэнні спецыялістаў, сярэдняя вага буйной рагатай жывёлы ў гарадах Старажытнай Русі пры росце ў холцы 100–110 см была 10–12 пудоў,

або 160–192 кг. Рост буйной рагатай жывёлы для Верхняга замка Віцебска XIII–XIV стст., паводле дадзеных археазаолагаў, быў у сярэднім 110 см. А гэта азначае, што вага буйной рагатай жывёлы з Верхняга замка Віцебска ў XIII–XIV стст. была таксама 160–192 кг.

Паводле дадзеных сялянскай гаспадаркі пачатку XX ст., буйная рагатая жывёла мясцовай пароды (беларуская чырвоная) важыла 18 пудоў, або 282 кг і давала ў дзень усяго 6 л малака. Буйная рагатая жывёла з Верхняга замка Віцебска была ў параўнанні з вышэйпрыведзенымі паказчыкамі ў 1,5 разы меншай па масе. Можна меркаваць, што і надоі малака ў яе былі ў столькі ж разоў меншыя, або 4 л.



Віцебск, Верхні замак. Археалагічныя раскопкі М. Ткачова і Л. Калядзінскага. 1978 г. Паўднёвы бок раскопа

Пра тое, што выкарыстоўванне малочных прадуктаў у харчаванні, у прыватнасці сметанковага масла, у абазначаны перыяд было адносна рэдкай з’явай, сведчыць той факт, што за ўсе гады раскопак у Віцебску была знойдзена толькі адна накрыўка ад посуду для збівання масла.

## МЯСНЫ РАЦЫЁН

Што датычыцца мяснога забеспячэння ў харчаванні, дык ад 30 да 90% мяса, што спажывала насельніцтва гарадоў, давала паляванне. Сярод паляўнічых трафеяў насельніцтва Верхняга замка былі лось (39%), алень (38%), зубр (26%). Цікава адзначыць, што памеры ласей у той час былі блізкія да параметраў сучасных відаў. А вось памеры аленяў і зубраў былі буйнейшымі.

Што датычыцца коней, дык асноўная частка іх мела сярэднія памеры. Рослыя коні з вышынёй у холцы 144–152 см складалі толькі 26,67%. Значную частку коней, да 96%, складалі старыя асобіны, што з’яўляецца доказам іх выкарыстання як транспартна-цяглавай сілы. І толькі трохі больш за 6% касцявых рэшткаў коней носяць сляды ўжывання іх у ежу, што магло адбывацца ў неспрыяльны для насельніцтва Верхняга замка час (бяскорміца, аблога і інш.).

Каб завяршыць агляд жывёльнага свету, адзначым, што ў астэалагічнай калекцыі Верхняга замка Віцебска пачатку XIV ст. прысутнічаюць 28 костак сабак і адна костка ката.

## ВОПРАТКА ВІЦЯБЛЯНІНА

Як выглядаў жыхар Верхняга замка на пачатку XIV ст.? У некаторай ступені меркаваць пра гэта можна на падставе знаходак, якія выяўлены падчас раскопак на Верхнім замку Віцебска.

Так, на мяжы Верхняга і Ніжняга замкаў былі выяўлены амаль цэлая світа і рукавіца XIII ст., а ў раскопе 1978 г. сабрана вялікая калекцыя скуранога абутку.





Рэканструкцыя мужчынскага строю XIII ст. паводле А. Брайчэўскай.

Скураныя похвы для нажа з раскопак у Віцебску

Світа мела тунікападобны крой, доўгія рукавы. Яна апраналася праз галаву, у сувязі з чым на грудзях мела глыбокі да пояса разрэз, які зашпільваўся на вялікія касцяныя гузікі.

Рукавіца, мяркуючы па памерах (14 х 24 см) была мужчынскай. Яна, як і світа, была сплецена з тоўстых шарсцяных нітак. Пра астатнія дэталі мужчынскага строю можна меркаваць з урыўка берасцяной граматы рубяжа XIII–XIV стст., знойдзенай у Віцебску ў 1959 г., дзе ўзгадваюцца "по́рты".

На галаве магла быць шапка з лямцу, кшталту беларускай магеркі. Шапка падобнага выгляду вядома па раскопках у Брэсце. На Верхнім замку Віцебска адносна часта сустракаліся кавалкі лямцу, з якога маглі вырабляць такія шапкі.




Шпора XIII– XIV стст. з Верхняга замка Віцебска

Мужчынскі скураны абутак мог быць прадстаўлены ботамі і чаравікамі. Боты мелі вышыню халявы ад 13 да 25 см, часам нават да 29 см і сшываліся з дзвюх палавінак або рабіліся з суцэльнага кавалка скуры. Нос бота мог быць акруглы і завостраны. На некаторых экзэмплярах захаваліся фрагменты фарбы зеленавата-жоўтага колеру. Большасць абутку мела даўжыню падэшвы 25–27 см, часам да 28 см.

У Віцебску сярод іншага быў выяўлены скураны пояс канца XIII ст., сабраны з двух частак. Зашпільваўся ён на буйную металічную спражку. У поясе зроблены адтуліны, да якіх падвешваліся похвы для нажа і гаманец. Гаманец мог мець грушападобную форму.

## ЧЫМ ХАРЧАВАЎСЯ ГАРАДЖАНІН?

Калі б хтосьці з падарожнікаў увайшоў у жытло, то ў поле яго зроку трапіла б глінабітная печ, якая мясцілася ў бліжнім ад увахода вуглу. Выкарыстанне кафлі, нават самых ранніх узораў — гаршкападобнай, для аздаблення печы яшчэ не было вядома. Яна з'явіцца ў Віцебску толькі праз стагоддзе.

Пры святле лучыны або лучын, устаўленых у лучнік, можна было разгляд-зецьшто-ніштоз хатняга начыння.

Кухонны посуд пачатку XIV ст. прадстаўлены ў асноўным глінянымі гаршкамі. У гэты час гаршчок мае выразны выступ — рабро — які рабіўся па плечыку посуду. Да рэдкага, калі не сказаць унікальнага, віду кухоннага посуду адносіцца знойдзеная медная патэльня на 4,5 л., якая загінула ў пажары 1335 г. Патэльня доўгі час знаходзілася ва ўжытку. Сведчанне таму — дзесяць заплатак з лістоў медзі на ёй. Больш шырока карысталіся жалезнымі патэльнямі. Дзве такія патэльні сустрэты ў напластаваннях больш ранняга часу.




Медная патэльня канца XIII ст. з раскопак Верхняга замка Віцебска, 1978 г.

Сталовы посуд прадстаўлены быў у асноўным вырабамі такарнай вытворчасці. Гэта міскі, чашы, талеркі. Талеркі былі дыяметрам па 30–32 см і па форме вельмі нагадвалі сучасныя. У адной з пабудоў археолагі знайшлі драўляную талерку, на донцы якой, са знешняга боку, быў выразаны салярны сімвал — пяцікутная зорка.

Елі драўлянымі лыжкамі. Жалезныя двузубыя відэльцы з'явяцца ў Віцебску не раней за XVII ст. Цікава заўважыць, што сярод знаходак альгердавага часу ёсць лыжкі з глыбокай лопасцю — для ўжывання вадкай стравы, і з мелкай — для густой стравы.

Ужывалі ежу расліннага паходжання: кашу з проса або грэчкі. Аб ужыванні мясной ежы сведчаць косткі свойскіх і дзікіх жывёл, якія маюць сляды рубкі сякерай і рэзання нажом — кухонныя адкіды.



Часовы навес над раскопам 1982 г., прызначаным пад музеяфікацыю

Гатавалі розныя стравы з рыбы. І гэта зразумела: у праваслаўным календары 190 дзён посныя. У напластаваннях канца XIII — пачатку XIV ст. знаходзілі косткі і луску шчупака, судака, ляшча, язя, акуня, сама, жэраха. Мяркуючы па костных рэштках, даўжыня некаторых асобін судака была больш за паўметра, а шчупака каля метра.

У якасці ласунка ўжываліся мёд, лясныя арэхі і ягады. Гэтая выснова мае рэальнае археалагічнае пацвярджэнне. Знойдзены кавалачак воска ў днішчы бандарнага посуду для захавання мёду. Даследчыкі знаходзілі насенне пладоў лясной маліны, лісток чарніц, шалупінне ад лясных арэхаў, костачкі вішань.

Сёння няма нават ускосных дадзеных пра штучнае развядзенне дрэў вішні у Віцебску. Таму хутчэй насельніцтва збірала ягады вішні звычайнай або кіслай (Cenasus vulgarius), якая ўзнікла ў выніку натуральнай гібрыдызацыі дзікай чарэшні і стэпавай вішні.

## ВІЦЕБСКІЯ ПРЫГАЖУНІ

Спадарожнік князя Альгерда мог кінуць кароткі позірк на кагосьці з жанчын або дзяўчат тагачаснага Віцебска. І гэтага б хапіла, каб заўважыць што-нішто з упрыгажэнняў. Так, на запясцях у некаторых жанчын яшчэ можна было ўбачыць шкляныя бранзалеты. На адным з пальцаў рукі жанчыны можна было разгледзець бронзавы пярсцёнак, выраблены з дроту, з невялікім патаўшчэннем пасярэдзіне, на якім зроблена імітацыя кручэння.



Шыфернае праселка з надпісам “МАРНNО”

На жанчыне маглі быць каралі з сіняга шкла шарападобнай формы. Адна з такіх пацерак акурат паходзіць са слоя канца XIII — пачатку XIV ст. Мы нават можам меркаваць, як звалі жанчыну, што насіла гэта ўпрыгажэнне. У напластаваннях гэтага часу знойдзена шыфернае праселка з надпісам “МАРНNО”.

На поясе ў жанчыны ў скураным футарале мог вісець самшытавы грэбень і маленькае люстэрка ў драўлянай аправе, схаванае ў скураны чахольчык круглай формы.



Самшытавы грэбень з выявай фантастычнага барса. XIII–XIV стст.

Жанчына магла быць абута ў чаравікі, упрыгожаныя вышыўкай з каляровых нітак. Але калі яна належала да заможных гараджанак, яе чаравікі маглі быць аздоблены складаным арнаментам. Адзін з такіх чаравікаў знойдзены намі ў напластаваннях канца XIII ст.

## ШТО РАБІЛІ Ў ВОЛЬНЫ ЧАС?

Мог звярнуць увагу спадарожнік Альгерда і на тое, як насельнікі Верхняга замка бавяць свой час. Сярод іншага ім была вядома гульня ў шахматы і шашкі.

Так, шахматная фігура “рух” або “ладдзя”, знойдзеная ў напластаваннях мяжы XIII–XIV стст., была выразана з косці. Стрыжань фігуры зроблены з дрэва. Такое камбінаванае спалучэнне — косць і дрэва — акрамя як на Верхнім замку Віцебска больш нідзе не сустракаецца сярод шахматных рарытэтаў гэтага часу. Шашка XIII–XIV стст. выразана з ружовага кварцу. Яна паўсферычнай формы, вышынёй 13 мм і дыяметрам у аснове 26 мм.



Шахматная фігурка ладдзя, XIII—XIV стст. Віцебск, Верхні замак. Раскопкі 1977 г. М. Ткачова і Л. Калядзінскага. Знайшоў Ігар Цішкін

Дапоўніць вобраз тагачаснага жыцця маглі і гукі дуды — валынкі, якая была знойдзена ў напластаванні XIII ст. Памеры меха дуды — 25 х 29 см. Зверху ў яго меліся два соплы шырынёй 4 см і даўжынёй 5 см, а таксама адтуліна дыяметрам 6,5 см, прашытая па акружнасці.

Знаходка рэштак дуды была ў пэўным сэнсе сенсацыяй, бо нідзе акрамя як на Верхнім замку Віцебска больш не сустрэта. А пісьмовыя згадкі пра гэты музычны інструмент на тэрыторыі Усходняй Еўропы вядомы толькі з XV ст.!

# КНЯЖАЦКІ ДВОР НА ЗАМКАВАЙ ГАРЫ

На вялікі жаль, матэрыялаў для якога-небудзь меркавання ў нас мізэрна мала. Замкавая гара была зруйнавана яшчэ ў канцы XIX ст. У пэўнай меры мы можам толькі разважаць пра царкву Св. Міхаіла, якая знаходзілася на княжацкім дворышчы.



Віцебск, Замкавая гара. 1895 г. Археалагічныя раскопкі Аляксея Сапунова

Віцебскі храм Св. Міхаіла быў узведзены ў тэхніцы змешанай муроўкі. Падлога царквы ўяўляла сабой маляўнічую кампазіцыю, выкладзеную з керамічных плітак стрэлападобнай формы, пакрытых палівай травяніста-зялёнага і ярка-жоўтага колераў. Алтар храма быў аздоблены залачонай мазаікай.

У драўляныя пераплёты было ўстаўлена дыскападобнае шкло. Скрозь гэтыя шыбы ў памяшканне струменіліся промні зеленаватага святла, граючы на жоўта-зялёных стужках падлогі і залачоным фоне алтара.



Княжацкі двор на Замкавай гары ў Віцебску з царквой Св. Міхаіла.
Фрагмент карціны Ігара Дурава «Віцебскія замкі ў XIV ст.»

Цьмяна-шэры, з цынкавых пласцін купал храма кантрасціраваў на блакіце віцебскага неба з бела-чырвона-белымі радамі плінфы і вапняковай рошчыны, з якой складаліся сцены царквы.

Уявіць больш дакладна аблічча гэтага храма мы не можам. Верагодна, што ў агульных рысах ён нагадваў некаторыя храмы Чарнігава, дойліды якога зрабілі адпаведны ўплыў на фармаванне полацкай (віцебскай) архітэктурнай школы.

## МУРАВАНЫ ЗАМАК

Праз два гады пасля гэтых падзей, у 1320 г., Яраслаў Васільевіч памірае. Віцебскі сталец займае Альгерд, які далучае землі Віцебскага княства да ўладанняў Вялікага княства Літоўскага. І з гэтага часу на горад ускладаецца вялікая стратэгічная роля ва ўсходняй палітыцы дзяржавы. З гэтай нагоды Альгерд на пачатку 30-х гадоў XIV ст. пачынае будаўніцтва мураваных умацаванняў, якое было завершана ў 1351 г. ужо другой жонкай Альгерда, цвярской князёўнай Ульянай, якая "замок Витебский и вежу змуровала <...> и муром округ обвела з баштами вынеслыми и вежами".

На думку некаторых даследчыкаў, на Верхнім замку Віцебска нібыта магла стаяць асобна пастаўленая вежа, тыпу германскага бергфрыду. Але гэта толькі меркаванні, заснаваныя выключна на сціслым летапісным паведамленні.



«Нарожная» вежа Ніжняга замка Віцебска XIV ст. Яе падмуркі захаваліся і экспануюцца ў выставачным комплексе «Духаўскі круглік». Рэканструкцыя паводле раскопак М. Ткачова і Т. Бубенькі

На будаўніцтва новых умацаванняў пайшоў валунны камень, на які багата віцебская ваколіца і сёння. Гэтыя ўмацаванні ўяўлялі сабой магутную сцяну, складзеную з валуноў памерамі 44–50 х 70–80 см на рошчыне з вапны. Пра-

стора паміж шчокамі сцяны забутоўвалася дробным каменем і бітай цэглай. Сцяна прайшла па грэбню вала XII–XIII стст. і была паглыблена ў вал на 0,5 м. Таўшчыня сцяны ў аснове мела 3 м.

Па перыметры сцяны, якая апаясвала Верхні замак, было ўзведзена восем вежаў. Іх памеры ў аснове былі 7 х 7 і 8,8 х 8,8 м. Знешні схіл вала быў вымашчаны булыжнікам. Верхнія часткі вежаў, сутарэнні, а таксама вуглы адкосаў у праёмах сцен і вежаў выкладваліся з цэглы, кожная вагой па 7 кг.

Акурат такая ж цэгла ўжывалася і ў мурах замкаў Гродна, Ліды і Крэва. Да гэтага часу адносіцца і ўзвядзенне каменных палат Альгерда, пра якія згадвае Мацей Стрыйкоўскі. Яны былі пабудаваны ў гатычным стылі, які на той час дамінаваў у мураваным дойлідстве замкаў Беларусі.




Віцебскія замкі XIV ст. Мастак Ігар Дураў, 2013 г.
Публікуецца ўпершыню. Выгляд з цяперашняй Успенскай гары

Камяніцы Верхняга замка XIV ст. пакрываліся ўжо керамічнай дахоўкай. Яна мела паўцыркульную форму дыяметрам 12–15 см і вышынёй 5,2–5,7 см. У асобных выпадках захаваўся і шып для мацавання гэтай дахоўкі.

Абсалютны аналаг абарончым збудаванням Верхняга замка па тэхніцы і матэрыялу вядомы па раскопках Ніжняга замка Віцебска, дзе былі выяўлены абарончая сцяна і вежа таго ж часу. Агульная даўжыня мураваных умацаванняў Верхняга і Ніжняга замкаў, якія складалі адзіную сістэму абароны Віцебска, дасягала 1,7 км.

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ І ЭКАНАМІЧНЫ РОСТ ВІЦЕБСКА

1393 год. Мяцежны князь Свідрыгайла бароніцца за мурамі віцебскіх замкаў ад кааліцыі Вітаўта, Скіргайлы і смаленскага князя Юрыя Святаслaвіча. Быў узяты Ніжні замак. Затым, Вітаўт, «заточив дела в церкви мурованной в Нижнем замку, розбивал мур замку Вышнего беспрестанно». Відаць, у час гэтай канаады моцна пацярпела царква Св. Міхаіла, якую ў наступныя часы аднавілі ўжо ў драўляным выглядзе на колішнім мураваным падмурку.

У 1396 г. Вітаўт зноў штурмаваў Віцебск, дзе чарговы раз знайшоў прытулак Свідрыгайла. У 1435 г. за мурамі Віцебска Свідрыгайла хаваўся ўжо ад войска вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча. У 1437 г. віцебляне мусілі прызнаць уладу Жыгімонта.



Альгерд, вялікі князь літоўскі, і яго другая жонка Юліянія Цвярская. Карціны Ігара Дурава

У канцы жыцця Вітаўта на старонках летапісу з'явяцца радкі: "Видбеск – три стены каменные...". Што меў на ўвазе летапісец, сёння ўжо цяжка сказаць. Але, як нам падаецца, пад першаю сцяной можна разумець умацаванні Ніжняга замка, пад другой — Верхняга, а трэцяя сцяна праходзіла па краі Замкавай гары з яе напольнага боку.  За выключэннем бадай што Гродна, ні адзін з гарадоў Беларусі ў гэты час не меў тады такіх магутных умацаванняў.

Але археалагічныя даследаванні Старога замка Гродна канца XIII — пачатку XIV ст. ілюструюць яго заняпад, што было выклікана крыжацкімі паходамі. З іншага боку, матэрыялы даследаванняў Віцебска таго часу прэзентуюць высокі ўзровень матэрыяльнай культуры Верхняга замка. Часы Альгерда — гэта ўсплёск эканамічнага жыцця горада. Віцебск увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага, а на ўсходніх рубяжах дзяржавы тады панавала зацішша.

